



# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

18 КАСТРЫЧНІКА 2002 г. № 41/4175 КОШТ 322 РУБ




**3**

***Таіса БОНДАР:***
**"Ледзь паслабне і абарвецца духоўная повязь са сваім народам і не да сэрцабіцця яго пачне прыслухоўвацца пісьменнік, як гасне тая Божая іскарка таленту, якая ззяла, асвятляла некалі святлом сваім лапік будзённасці".**



**5-15**

**Іван ШАМЯКІН**
**Начныя ўспаміны**



**10-11**

**Праз любоў да музыкі...**
**У лімаўскай гасцёўні — Маргарыта МІНЯНКОВА**




**«ЛіМ» ЗАЙМЕЎ ЭЛЕКТРОННЫ АДРАС. ПІШЫЦЕ ЛІСТЫ! GAZETA_LIM@TUT. BY**


**17 кастрычніка вядомаму пісьменніку, Старшыні Камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Мікалаю Чаргінцу споўнілася 65 год. Віншуючы Мікалая Іванавіча з юбілеем, жадаем яму і надалей здароўя, творчага неспакою і плёну ў працы на карысць нашай дзяржавы.**

## КОЛА ДЗЁН

**Пазамінулы тыдзень праходзіў у чаканні новых Нобелеўскіх лаўрэатаў. Стала ўжо звыклым, што на гэтую ўзнагароду ў галіне літаратуры прэтэндуюць і нашы пісьменнікі. Аднак яны зноў "праляцелі".**

**На гэтым жа тыдні адбылося пасяджэнне Рады СБП, на якім былі выбраны намеснікі старшыні. Дапамагаць працаваць старшыні СБП Алесю Пашкевічу будуць — Эдуард Акулін, Анатоль Кудравец, Барыс Пятровіч і Міхась Скобла.**

### *ПАСТАНОВА ТЫДНЯ*

У адпаведнасці з пастановай Урада Рэспублікі Беларусь да 2004 года ў нашай краіне будзе праведзена ацэнка ўсіх зямель населеных пунктаў. Дакументам зацверджаны пералік з 35 гарадоў, якія мусяць быць ацэненыя ў 2003 годзе, куды ўвайшлі абласныя і раённыя цэнтры. Пасля ацэнкі зямель кожны землекарыстальнік будзе плаціць штогадовы зямельны падатак у выглядзе пэўнага працэнта, ад кошту свайго ўчастка. Гэты працэнт будзе вызначаны Урадам пасля заканчэння ацэнкі зямель.

### *ФЕСТЫВАЛЬ ТЫДНЯ*

У літоўскай сталіцы прайшоў Міжнародны фестываль беларускай песні, прысвечаны 120-гадоваму юбілею Янкі Купалы і Якуба Коласа, арганізаваны Аб'яднаннем беларускіх грамадскіх арганізацый Літвы і Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы. У фестывалі ўдзельнічалі дэлегацыі з Беларусі, а таксама беларусы, якія жывуць у суседніх краінах — Латвіі, Эстоніі, Польшчы і Расіі.

### *ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ*

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь зацвердзіў мінімальныя стаўкі аўтарскага ўзнагароджання за творы выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Зацверджаныя стаўкі ганарараў, распаўсюджваюцца на мастакоў, якія ствараюць работы станковага жывапісу: станковай графікі, плакатнага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, скульптурныя творы, а таксама манументальна-дэкаратыўны жывапіс у рознай тэхніцы выканання. Памер ставак вагаецца ад 3 базавых велічынь (33300 рублёў за стварэнне замалёўкі з натуры эцюднага характару, эскізу і эскізу ў жанры станковай графікі — да 400 базавых велічынь (4440000 рублёў) за стварэнне адзінай кампазіцыі коннага помніка альбо манумента з коннікам...

Трэба спадзявацца, што не ўсе мастакі кінуцца ствараць конныя кампазіцыі, бо, глядзіш, праз нейкі час уся наша краіна будзе ў конях. Пачатак жа ёсць — конь каля Камароўскага базару ў Мінску...

### *ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ТЫДНЯ*

У Кіеве прайшла прэзентацыя беларуска-ўкраінскага сумеснага прадпрыемства ЗАТ "Гандлёвы дом" "УкрГласБел". Новае ЗАТ будзе выконваць ролю дыстрыб'ютэрскага цэнтра беларускага завода ААТ "Гомельшкло" і займацца рэалізацыяй яго прадукцыі на Украіне. З боку Украіны сузаснавальнікам прадпрыемства выступіла ТАА "Еўрастандарт, ЛТД".

### *ДАВЕДКІ ТЫДНЯ*

Выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" выпусціла энцыклапедычны даведнік "Народная культура Беларусі". У кнізе змешчана каля 700 артыкулаў, прысвечаных розным тэмам народнай культуры. Гэта багата ілюстраванае выданне з'явіцца ў продажы ў бліжэйшыя дні. Праўда, кніга каштуе не танна, але...

### *СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ*

Зусім нядаўна ў друку пісалася, што праз 17 гадоў у нашу планету ўдарыцца вялікі астэроід і ўсё жывое на зямлі загіне. Праз нейкі час гэтая інфармацыя была нейтралізавана тым, што астэроід хутчэй за ўсё праляціць міма нашай планеты на адлегласці ў некалькі мільёнаў кіламетраў. Не паспелі людзі забыцца пра астэроід, як у друку з'явілася новая сенсацыя. Галандскі астрафізік, эксперт Еўрапейскага касмічнага агенцтва доктар Пірс Ван дэр Меер заявіў, што Сонца ўзарвецца праз 6 гадоў. Паводле слоў доктара, тэмпература ядра Сонца, якая звычайна складае 27 мільёнаў градусаў паводле Фарэнгейта, за некалькі апошніх гадоў павялічылася да небяспечных 49 мільёнаў. Працэс разагрэву нашага свяціла на працягу апошніх 11 гадоў вельмі падобны на змяненні, якія адбываюцца ў зорках перад выбухам. І глабальнае пацяпленне, якое мы назіраем у цяперашні час, звязана не з дзеяннем парніковага эфекту, а якраз з разагрэвам Сонца. Словам, усе нашы цяперашнія зямныя праблемы, а тым больш праблемы мясцовага характару, нішто перад тым, што чакае нашу зямлю ў бліжэйшым будучым... І ўсё ж хочацца спадзявацца, што астрафізік памыляецца...

### *ПРАГНОЗ ТЫДНЯ*

Эпідэмія грыпу ў нашай краіне чакаецца ў другой палове студзеня — пачатку лютага. Такі прагноз зрабілі спецыялісты Нацыянальнага цэнтра грыпу ў НДІ эпідэміялогіі і мікрабіялогіі. Эпідэмія, мяркуюць спецыялісты, чакаецца "ўмеранай інтэнсіўнасці і змешанага характару, гэта значыць, адначасова будуць цыркуляваць два субтыпы віруса A (H1 і H3) і вірусы грыпу B".

### *ПАСЛУГА ТЫДНЯ*

У нашай сталіцы пачала дзейнічаць новая паслуга — "Казкі па тэлефоне". Каб перад сном пачуць добрую казку, трэба набраць "096". Тэлефоннай службай падрыхтаваны рэпертуар казак на беларускай і рускай мовах на два месяцы наперад. Усе яны агучаны прафесійным дыктарам-жанчынай. Працягласць кожнай казкі — не больш 10 хвілін, а адна хвіліна гэтай паслугі каштуе 22 рублі. Так што, калі ў вас ёсць грошы і вы не можаце без добрай казкі заснуць, то набярыце нумар "096"...

### *НАПАМІН ТЫДНЯ*

У адпаведнасці з парадкам вылічэння часу, які вызначаны Урадам Рэспублікі Беларусь, з 27 кастрычніка 2002 года ў нашай краіне адмяняецца дзеянне "летняга" часу. У сувязі з гэтым стрэлкі гадзіннікаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у 3 гадзіны 27 кастрычніка 2002 года пераводзяцца на 1 гадзіну назад. Не забудзьцеся!

**Фестывалі**

# НАШ «ЛІСТАПАД» НА РУСКІМ КАЎЧЭГУ

X Мінскі Міжнародны кінафестываль "Лістапад-2002" распачнецца ў сталіцы толькі 23 лістапада, але першая прэс-канферэнцыя, прысвечаная святу, адбылася ўжо на мінулым тыдні. З вуснаў арганізатараў кінафоруму беларускія журналісты даведаліся, што сёлета знакаміты кінафестываль "стане яшчэ больш насычаным і цікавым".

Міжнародны кінафестываль краін СНД і Балтыі "Лістапад" цяпер называецца Мінскі Міжнародны кінафестываль (нагадаю, што з 2000 года фэст праводзіцца пад патранажам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі і старшыні Мінскага гарвыканкама М. Паўлава). Па словах дырэктара "Фестывальнай дырэкцыі" БСК В. Сцяпанавай, гарадскія ўлады заўсёды шмат дапамагалі "Лістападу" (адсюль і далучэнне да назвы "Мінскі"). Акрамя гэтага склад краін-удзельнікаў кінафоруму ўжо даўно выйшаў за межы СНД і Балтыі. Напрыклад, сёлета ў фестывалі дзіцячага кіно "Лістападзік", які праходзіць паралельна з "дарослым" "Лістападам", удзельнічаюць кінематаграфісты з Францыі, Кітая, Ірана, Чэхіі.

Плануецца, што сёлета "Лістапад-2002" адкрые расійская карціна "Зорка" М. Лебедзева. Хаця, магчыма, што на экране Палаца Рэспублікі будзе паказана беларуская стужка "Паміж жыццём і смерцю" Д. Зайцава, якая мела рабочую назву "Лялька". Як заўсёды на адкрыццё фестывалю завітаюць знакамітыя расійскія акцёры і рэжысёры, якія прыязджаюць у Мінск "не за вялікія ганарары, а пераважна толькі з-за любові і павагі да нашага горада". Узняць жа патрыятычны настрой у зале паспрабуюць беларускія артысты, удзельнікі нацыянальнага кінапраекта "Легенда пра Анастасію Слуцкую", якія выйдуць на сцэну ў гістарычных касцюмах.

З гледзішча В. Сцяпанавай фестываль носіць не "тусовачны" характар. Галоўнае на ім – разнастайная кінапраграма, якую, па традыцыі свята, складаюць ужо нашумелыя карціны. Так Расію на кінафоруме будуць прадстаўляць фільмы "Дом дурняў" А. Канчалоўскага (Спец-прыз журы Венецыянскага кінафестывалю), "Палюбоўнік" В. Тадароўскага (прэміі за лепшыя сцэнарый і аператарскую работу на кінафэсце ў Сан-Себасцьяна), "Зязюля" А. Рагожкіна (галоўны прыз і прыз за рэжысуру на фестывалі еўрапейскага кіно Europa Cinema), "Антыкілер" Я. Міхалкова-Канчалоўскага, "У руху" Ф. Янкоўскага, "Зоймемся любоўю" Д. Яўсцігнеева, "Кіно пра кіно" В. Рубінчыка, "Лісты да Эльзы" І. Масленікава, а таксама расійска-беларуская стужка "Прыкаваны" В. Рыбарава (доўгачаканая работа нашага славутага рэжысёра, які не здымаў звыш дзесяці гадоў). Экранную канкурэнцыю расійскім кінематаграфістам (цікава, што сёлета ў "расійскую" праграму "Лістапада" ўвайшлі чатыры стужкі, зробленыя нашчадкамі славутых рэжысёраў) складуць работы з Малдовы ("Выбраннік" А. Лазоўскага), Арменіі ("Сімфонія маўчання" В. Чалдраняна), Украіны ("Чэхаўскія матывы" К. Муратавай), Латвіі — Эстоніі ("Добрыя рукі" П. Сіма), Эстоніі ("Сэрца мядзведзя" А. Іхо), Літвы ("Арэнда" К. Верджунаса). Закрые ж фестываль прэм'ерны паказ стужкі "Рускі каўчэг" А. Сакурава (прыз незалежнага кіно Channel Visions на кінафестывалі ў Таронта).

Як заўсёды фестывальныя фільмы будуць ацэньваць тры журы: журы кінематаграфістаў (старшыня – расійскі кінарэжысёр М. Хуцыеў), журы кінапрэсы, а таксама журы гледачоў. Гран-пры фестывалю – Прыз сімпатый гледачоў вызначаецца па выніках галасавання гледачоў. Узнагароды атрымліваюць таксама за лепшыя рэжысуру, мужчынскую і жаночую ролі.

У рамках "Лістапада-2002" запланавана шмат мерапрыемстваў: III Міжнародны фестываль дзіцячага кіно "Лістападзік", падчас якога адбудзецца прэм'ера новай стужкі Л. Нячаева; фотавыставы кінааператара Ю. Плюшчава і В. Зайкоўскага; Дні кіно Прыбалтыкі і краін СНД, Дні кароткаметражнага, відэа і дакументальнага кіно; майстар-класы...

Конкурсныя фільмы можна будзе ўбачыць у кінатэатрах "Кастрычнік", "Перамога" і "Піянер". Рэтраспектывы і пазаконкурсныя паказы пройдуць у кінатэтрах "Мір", "Аўрора", "Бярэсце", "Партызан", "Ракета", "Салют".

**В. Б.**

***НА ЗДЫМКУ: кадр з кінафільма "Рускі каўчэг".***

**Выставы**

# «ALMA PATER»

Пад гэтай назвай адкрылася выстава ў мастацкай галерэі "Terre des hommes" ("Зямля людзей") мастака, дэкана мастацкага факультэта Акадэміі мастацтваў Рамана Кароткіна.

Вопыт антычнай філасофіі дае нам магчымасць гарманізаваць усведамленне — міф аб рэінкарнацыі, механізм якога паясняе паходжанне ўсяго жывога. Новы цыкл палотнаў Р. Кароткіна — гэта аўтарская версія Нараджэння Свету ў цэлым і роздум аб прыродзе творчасці ў прыватным. Мастак у сваіх творах сцвярджае, што ўсё жывое ўзнікла ад мужчыны, ставячы пад сумненне папулярную сёння ідэю фемінізму. Разам з тым ён паслядоўна звязвае нас сённяшніх з цывілізацыяй Антычнасці, сцвярджаючы тым самым нашу бясспрэчную супольнасць з еўрапейскай культурай. Восенню 2001 года ў Музеі сучаснага мастацтва Раман Кароткін паказаў свой праект "Пір" з аналагічнай тэмай.

На маё запытанне, чым зацікавіў праект Кароткіна, дырэктар галерэі Іў Прудом адказаў, што гэта невыпадкова, так як дзед яшчэ ў дзяцінстве далучыў яго да антычнай культуры. Пазней ён прыйшоў да глыбокага разумення, што культура Антычнасці — гэта аснова асноў. І таму для яго стала адкрыццём, што мастак змог звязаць сённяшні дзень і тое, што было тры тысячы гадоў назад. Раман Кароткін трапна транскрыбіруе сутнасць антычнай ідэі, не капіруе пры гэтым знешнія рысы мастацтва Антычнасці, а толькі далікатна адсылае да яго дасведчанага гледача. Можна бясконца гаварыць аб стылі, але для мастацтва галоўнае як і для Платона — ідэя. Ідэя праекта "Alma pater" вельмі незвычайная. Сёння, кажа Іў Прудом, мы можам гаварыць аб нараджэнні чагосьці сапраўды новага ў Беларусі. Менавіта гэты праект дзе новае напраўленне галерэі "Terre des hommes". А яшчэ ён дадаў, што "Alma pater" — гэта вельмі шырокае паняцце. Разам з мастаком Раманам Кароткіным яны будуць гаварыць аб Нараджэнні, аб бясконцым Жыцці, аб адносінах Мужчыны і Жанчыны, аб прыродзе Мастацтва — аб тым, што ніколі не перастае хваляваць чалавецтва. На выставе былі прадстаўлены таксама малюнкі Р. Кароткіна, якія прыадкрылі тонкія нюансы унікальнага светаадчування мастака.

"А люди исследуют то, что они знают о вещах или же то, чего они не знают" (Платон)...

**Галіна ФАТЫХАВА**

Таіса БОНДАР

# ВЯРНУЦЬ ДАВЕР НАРОДА

Спрадвеку ўшаноўваюцца людзьмі крынічкі з чыстай, як сляза, вадой — спрадвеку ідуць да іх стары і малы не толькі смагу наталіць, прыдбаўшы на глыток больш здароўя (сама ж зямелька дзеліцца сваёй чысцінёй і сілай!), але і душу наталіць, даўшы той вольна, нязмушана ўздыхнуць і развінуць прыкамечаныя будзённаю шэранню крылы. Колькі часу трэба, каб, схіліўшыся ў нязмушаным паклоне, зачэрпнуць даланёю вады, напіцца, твар асвяжыць у ціхім задуменні, што раптам агорне ўсё вакол сваім святлом, а на душы палягчэе, як пасля малітвы. І — можна жыць далей. Можна вяртацца да будзённых клопатаў, не-не і азіраючыся потым спомінам на гэтыя хвіліны...

А калі заброснее крынічка ці ў брудзе і смецці затхнецца? Хто тады да яе прыйдзе? Хто ўзгадае, душою да яе памкнуўшыся? Тое і яно. А броснеюць жа, гінуць чыстыя крынічкі. І нярэдка ад нашае нядбайнасці ці слепаты. І тут ужо дарэчы пра святатацтва не адно ў адносінах да прыроды, а і ў адносінах да душы народнае гаварыць: кожны з нас часцінка яе, а часцей сілы прагне, а не чысціні, якая і ўсё вакол ачысціла б...

Здалёк пачала, скажаце? Ды не. Талент пісьменніцкі, Богам дадзены, як згаданая крынічка з тоўшчы зямной, з глыбіняў жыцця народнага прабіваецца, бедамі і пакутамі ачышчаючыся. І ўжо ж, не ў адным пакаленні, не за адзін людскі век выспяваючы і гартуючыся, прарастае святлом у адным кімсьці з роду не для таго, каб атручваць душы людскія, што прагнуць духоўную смагу спатоліць.

Божы дар таму і Божы, што не на ўцеху ці пацеху каму з нас, смяротных, даецца, а на служэнне. На служэнне! А мы і слова ўжо такога не ўжываем, спрэс усё на права на "самавыяўленне", на пошук, а то і на "элітарнасць", да якой "народ не дарос", прэтэндуючы. А народ (калі ўжо пра народ!) як заброснелыя, затхлыя крынічкі абмінае, у хуткім часе забываючы нават сцежкі да іх, так і творы, кнігі, у якіх што ні герой, то здрадца, ці "монстр", ці "геній" з прапітымі мазгамі... Думаецца, марна здзіўляцца ці, тым больш, абурацца такім "небрежением" людскім: душа любога чалавека — іншага (чыстага!) прагне, з граззю і мярзоццем і так зашмат у жыцці сутыкаючыся.

І ў дурным сне не ўбачыць, і ў наймодных "фэнтэзі" не ўявіць, што крынічка, жывая адно тым, што збірае па кропельцы, па цурочку з зямное тоўшчы і небам пасланых на зямлю дажджоў, раптам узганарылася б, узнеслася над сабою і зямлёю, ірвучы ўсе повязі з ёю ("яна ж чыстая! іскрыстая! гаючая!"), з пагардаю люструючы брудны друз, карэньчыкамі дрэў і травы пераплецены, нястлелае лісце ды смецце. Ды яна тут жа, страціўшы повязь з зямлёй, счэзла б, пераварылася ў нікому не патрэбную лужыну!

Так і ў літаратуры. Ледзь паслабне і абарвецца духоўная повязь са сваім народамі не да сэрцабіцця яго пачне прыслухоўвацца пісьменнік, а да меркаванняў той купкі "разумнікаў", што ўзвялі сябе ў ранг суддзяў народа і улады, ім, народам, абранае, як гасне тая Божая іскарка таленту, якая ззяла, асвятляла некалі святлом сваім лапік будзённасці. І тады з'яўляюцца (чаму ўсе мы сведкі) рыфмаваныя праклёны і пагрозы, "азвярызмы", "цынкавыя хлопчыкі", перапевы старых прытчаў і злосныя палітычныя выпады: на большае — ні таленту, ні духоўнае сілы не стае. Прызнаць жа, што самі размянялі свой талент — хто на абяцанні міфічнага "сусветнага прызнання", хто проста на "зяленыя" — сляпая амбіцыёзнасць не дазваляе. Вось і падхвальваюць увесь час адзін аднаго, вось і выпрошваюць у падзяку за сваю "апазіцыйнасць", вынесеную з партыйных кабінетаў савецкай эпохі, гранты і камандзіроўкі замежныя, не забываючы пры гэтым час ад часу выступаць і з патрабаваннямі да ўлады краіны: "вы абавязаны нам аддаць", "вы абавязаны нам плаціць за нашу нелюбоў да вас", "вы павінны выдаваць нашы кнігі". Менавіта іх, "самаабраных", кнігі — іх канкрэтна, хоць колькі разоў кожны з іх перавыдаваў некалі напісанае, і падлічваць не хочацца.



Усё б нічога, канешне (няхай сабе!), калі б самым святым для народа не прыкрываліся, не прыкрывалі сваю хваравітую амбіцыёзнасць, бо вось ужо які ўжо год крыкам крычаць пра абарону мовы роднае, тым часам засмечваючы яе паланізмамі, памаючы, разбураючы правапіс, які склаўся, (па прынцыпе: як чуецца, так і пішацца), — і хоць бы хто спаслаўся на любімы імі "захад", на ангельскую мову, да прыкладу, у якой не адно стагоддзе, па дакладнаму выразу філолагаў, "вымаўляецца Лондан, а пішацца Ліверпуль"...

Самае горкае, што ў чадзе гэтага ляманту вырасла, увайшло ў літаратуру ўжо не адно пакаленне творцаў, у большасці сваёй сёння для шырокай чытацкай аўдыторыі невядомых, што Саюз пісьменнікаў стаў полем палітычнай барацьбы купкі "пэнклубаўцаў" — і, як вынік, страчаны давер да нас, пісьменнікаў (да ўсіх!), не толькі з боку ўладаў, а і ў народзе. І не бачыць гэтага, не разумець — значыць самім падманвацца і іншых падманваць.

Колькі б хто ні даводзіў свету (свет, дарэчы, за выключэннем пэўных спецорганаў і "спецфондаў", і пра іх, "вялікіх апазіцыянераў", і пра кнігі іх чуць не чуў), што народ наш "быдла", што ён спрадвек "таўраваны рабскай псіхалогіяй" і "не дарос да літаратуры", у народзе спрадвек ведалі цану р о д н а г а с л о в а, выносячы яго са стагоддзяў жывым, светлым, пявучым, каб перадаць яго тым з сыноў сваіх, каго Гасподзь надзяліць дарам — талентам! — на служэнне народу. На служэнне! — не стамлюся я паўтараць усім вам, браты пісьменнікі, як паўтараю сабе.

Літаратура, якая служыць разбурэнню духоўнага здароўя народа — не літаратура, пісьменнік, чыя душа "глядзіцца" не ў неба, а ў брудныя разводы лужынаў узбоч дарогі, — не пісьменнік. І ў адным, і ў другім выпадку адбываецца падмена — падмена не толькі паняццяў, але і сутнасці. Думаю, невыпадкова пачалі спаўзаць маскі з твараў тых, хто прыйшоў на зямлю з разбуральнай місіяй: яны спяшаюцца абвясціць усяму і ўся, што сапраўдныя гаспадары тут — амаль ва ўсіх сферах — яны. Дагаварыўся ж адзін з падобных "творцаў" — Аляксандр Гардон — у гутарцы з вядомай рускай пісьменніцай Таццянай Талстой перад тэлеэкранам да жахлівага прызнання: ёсць не толькі чысты прамень волі Гасподняе, у святле якога пісьменнік працуе, каб "пачуцці добрыя" ў народзе абуджаць, а і чорны прамень, які "праводзіць" на зямлю змрок і жудасць і ў якім працуюць тыя, хто, як ён, А. Гардон, не любяць людзей.

Свят! свят! свят! — хочацца паўтарыць услед за Таццянай Талстой, падымаючы пагляд да Неба і прыгадваючы твары добрых людзей, без дапамогі якіх я і паловы шляху, творчага і жыццёвага, не адолела б. І хоць, пэўна ж, падобных нахабных паслугачоў "цемры" сёння, на вялікі жаль, нямала, не іх намаганнямі ідзе эвалюцыя, не ім належыць Божы свет, колькі б яны ні пыжыліся, колькі б ні пужалі нас сваёй "сілай" і ўсяіснасцю. Калі мы не будзем ім падыгрываць і падпяваць, па слепаце ці па наіўнасці разлічваючы на абгрызены кавалачак "пірага", калі будзем сцвярджаць тую мараль, тыя духоўныя вартасці, якія Гасподзь нам запаведаваў, зямелька наша будзе карміць, паіць і нас, і нашых дзяцей, і нашых унукаў-праўнукаў.

Што ж да нас, пісьменнікаў, то жыццёва важным і неабходным на сёння з'яўляецца адно: в я р н у ц ь д а в е р н а р о д а да літаратуры, да беларускае кнігі, на якой бы мове яна ні пісалася, памятаючы (зарубіну на носе, як кажуць, зрабіўшы!), што немагчыма дасягнуць гэтага па волі высокіх указаў ці загадаў. Народ наш не толькі памяркоўны, як часта з рознай інтанацыйнай афарбоўкаю паўтараюцца, а і душэўна чуйны, чысты: яго не падманеш гучнымі заявамі ці заклёнамі, яму т р э б а с л у ж ы ц ь. Словам, нам даверанным, служыць. Любоўю сваёй да Айчыны, увасобленай у слове паэтычным і празаічным. Святлом душы сваёй, якога павінна ставаць, каб асвятліць хоць краёк будзённага дня, хоць куточак зямлі роднае.

Тут, прызнаюся, мае спадзяванні не так на сталых майстроў слова (яны сваё зрабілі і сказалі, хоць дай ім Бог і надалей здароўя і натхнення!), як на маладых, на тых, хто не адсвяткаваў яшчэ паўвекавога юбілею і, увайшоўшы некалі ў літаратуру, так і не заняў у ёй свайго месца (не ў апошнюю чаргу, і ў сілу памянутых вышэй абставін). Калі яны штодня, штоміг будуць помніць, што талент наш — не ад нас, а ад Бога, што талент даецца на служэнне Боскай праўдзе і народу свайму, калі не бадацца будуць са старэйшымі ці маладзейшымі, а ганарыцца ўсім, вартым гонару, кім бы яно ні было створана, літаратура наша абавязкова знойдзе сусветнае прызнанне, абавязкова зойме сваё пачэснае месца ў свеце. Перш — у сваёй краіне, потым — у свеце. Інача́й не бывае.

# СЯРОД РАРЫТЭТАЎ

***Кніжна-графічная выстава "Я тут бачу свой край..." з фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея працы ў Маладзечне. Яна стала працягам шэрагу мерапрыемстваў, прымеркаваных культурнымі ўстановамі Міншчыны да 120-годдзя юбілею з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа.***

Найбольшую цікавасць у наведвальнікаў выставы, якая, дарэчы, адразу стала адметнай з'явай у культурным жыцці Маладзечна, выклікаюць як першыя паэтычныя зборнікі Купалы "Жалейка" і Коласа "Песні жальбы", так і пазнейшыя выданні іх твораў,— асабліва савецкія 20-30-х гадоў прамінулага стагоддзя і заходнебеларускія, якія мелі невялікія тыражы, з-за чаго зараз уяўляюць сабой сапраўдныя рарытэты. Гістарычную каштоўнасць многіх з выстаўленых кніг павялічвае яшчэ і прысутнасць на іх тытулах дарчых надпісаў аўтараў і аўтографаў вядомых людзей, якім яны належалі раней. Сярод іх, прынамсі, ёсць і зборнік апавяданняў Якуба Коласа "Родныя з'явы" з бібліятэкі вядомага беларускага педагога Андрэя Посаха — добрага знаёмца Янкі Купалы падчас ягонай працы на бровары ў Яхімоўшчыне, што каля Маладзечна, і ў пазнейшыя гады жыцця паэта.

У фатаграфічнай частцы выставы таксама шмат рэдкіх экспанатаў, які расказваюць пра жыццёвыя і творчыя стасункі народных паэтаў. Гэта — найперш арыгіналы здымкаў "Я. Купала і Я. Колас сярод рускіх пісьменнікаў на аўтамабільным заводзе імя І. Сталіна ў Маскве", датаваны 1935 годам, "Я. Купала сярод членаў літаратурнага аб'яднання "Маладняк"(1925 г.), "Удзельнікі пастаноўкі Купалаўскай камедыі "Паўлінка" ў Маладзечне ў 1922 годзе" і шэраг іншых.

Удала дапаўняюць дакументальна-прадметны раздзел выставы мастацкія работы В. Шаранговіча, М. Басалыгі, М. Купавы і іншых вядомых беларускіх мастакоў. У асноўным гэта — графічныя малюнкі родных мясцін народных паэтаў і ілюстрацыі да іх твораў.

Як зазначыла старшы навуковы супрацоўнік Мінскага абласнога краязнаўчага музея і аўтар экспазіцыйнай канцэпцыі выстаўкі Алена Гаськова, каб знаёміцца з адметнымі матэрыяламі з творчай спадчыны народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа маладзечанцам і гасцям іх горада, зрэшты, як шматкаму з жыхароў Міншчыны, адведзена даволі шматчасу — выстава "Я тут бачу свой край..." будзе працаваць у выставачнай зале музея да канца гэтага года.

**Сяргей ГАЛОЎКА**

## АНОНС

# «ІР» ПРАПАНУЕ ПАСЛУХАЦЬ...

Польскі інстытут у Мінску, ён жа — "ІР" — мае разнастайны план імпрэзаў на заключны квартал 2002 года. Яны, як заўсёды, датычаць розных аспектаў гісторыі, навукі, літаратуры, выдавецкай справы, тэатра, кінематографа...

Некаторыя польска-беларускія культурніцкія праекты ладкуюцца ў межах ужо вядомай нашаму чытачу акцыі "Восень польскай культуры" — прынамсі, прызначаны на 11-га лістапада (Свята Незалежнасці Рэспублікі Польшчы) канцэрт фартэпіяннай музыкі. Ён мае адбыцца ў Беларускай акадэміі музыкі. У праграме бярэ ўдзел М. Лісак з Катавіцаў.

У снежні прафесары з Кракава — Е. Станкевіч, М. Страхоўскі ды К. Машуманьска-Назар наведаюць Віцебскі міжнародны фестываль камернай музыкі імя І. Салярцінскага. Там плануюцца іх выступленні з лекцыямі падчас традыцыйных ужо фестывальных чытанняў.

Кракаўская філія Саюза польскіх кампазітараў, якая спрычынілася да фестывалю ў Віцебску, арганізуе снежаньскую музычную імпрэзу і для мінчукоў. Замоўлены канцэрт польскай музыкі ў нашай сталіцы з удзелам інструментальнага дуэта Д. Імялоўская (віяланчэль) — М. Ценява (фартэпіяна). Калі, дзе і што канкрэтна будуць іграць нашы госці, пакуль невядома. Але ж да снежня ўсё высвятліцца.

**С. Б.**

## АБСЯГІ

*ГАРАДЗЕНШЧЫНА*

### ВЫСТАВА ВЫЦІНАНКІ

У музеі Гродзенскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці адкрылася VI выстава выцінанкі, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Экспазіцыя аб'ядноўвае аўтараў з розных куткоў Гарадзеншчыны — з Астраўца, Ваўкавыска, Шчучына, Гродна. Уёй бралі ўдзел як слынныя майстры-выцінаншчыкі, так і пачаткоўцы.

Удала спалучаюць традыцыйную і тэматычную выцінанку гродзенскія майстры Л. Качалоўская, В. Ракавец, С. Муліца. Шчучынскі цэнтр рамёстваў прадставіў творы таленавітага майстра У. Кубышына (партрэт Якуба Коласа, купалаўскія матывы), а таксама М. Чарнадзедава (папяровая ілюстрацыя да п'есы Янкі Купалы "Паўлінка"). Ваўкавыская выцінаншчыкі У. Развадоўскі і С. Паляжаева прысвяцілі свае работы этнаграфічным матывам. Своеасаблівa працуе з паперай выкладчыца Астравецкай сярэдняй школы А. Яленская, якой належаць кампазіцыі з прыгожымі птушкамі, кветкамі, купальскімі сюжэтамі. Вытанчаныя паштоўкі прадставіла гродзенская майстрыха В. Генюш, якая зусім нядаўна засвоіла мастацтва выцінанкі. Больш за 300 разнастайных твораў сабраў і прадставіў гледачам кіраўнік школы выцінанкі мастак А. Аўчыннікаў, які таксама з'яўляецца ўдзельнікам экспазіцыі і вялікім аматарам гэтага цудоўнага рамяства.

**А. ХРАМКОВА**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА*

### ВУЧАЦЦА БІБЛІЯТЭКАРЫ

У Рагачоўскай цэнтральнай бібліятэчнай сістэме прайшоў двухдзённы семінар загадчыкаў бібліятэк вобласці. Яны азнаёміліся з работай цэнтральнай раённай бібліятэкі, Паболаўскай і Востраўскай сельскіх бібліятэк.

На семінары разгледжаны пытанні аб месцы і ролі бібліятэк у грамадска-культурным жыцці, аб прыярытэтных напрамках работы бібліятэк, дзейнасці аддзела бібліятэчнага маркетынгу. Былі і практычныя заняткі па дыстанцыйным навучанні кадраў і выкарыстанні прагрэсіўных методык, і складанне разгорнутага плана-схемы дзелавой гульні.

# НАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ

**Іван ШАМЯКІН**

## ПАГАРЭЛЬЦЫ

Выдатным майстрам па розыгрышах быў Андрэй Макаёнак. Ніхто іншы не меў столькі фантазіі на самыя нечаканыя выдумкі. Часам неверагодныя, як ён умеў змяніць голас, сыграць любую ролю, што нават пры першакрасавіцкай насцярожанасці і пільнасці большасць разыграных верылі: а можа, і праўда? Чаго не бывае? І ганарар могуць выплачваць, і выклікаць у Камітэт па друку, у ЦК, асабліва таго, хто займае пасаду. Паспрабуй не з'явіся, — што падумаюць? Лепш ужо няхай пасмяюцца. Смех лагодзіць людзей. Часам з самаго сябе карысна пасмяяцца — успамінаць будуць; розыгрыш, як правіла, трансфармірусцца і перарастае ў займальны сюжэт — садзіся, пішы, ці ў анекдот. Безумоўна трэба добра ведаць таго, каго разыгрываеш, яго характар, схільнасці, пачуццё гумару, слабасці. Не ведаючы суб'екта — можаш уліпнуць у гісторыю. З няўмелымі жартаўнікамі, якіх лёгка выкрываць, здаралася і такое: нажываў чалавек лішняга нядобразычліўца.

Была звышзадача: разыграць Макаёнка. Не помню, ці ўдалося каму-небудзь ажыццявіць такую задачу. Ці клюнуў Андрэй хоць раз? Але усё прынімаць за жарт — рэч небяскрыўдная, можа стаць бумерангам: тваё ж ударыць па табе і часам балюча.

Я розыгрышаў не любіў. На што людзі трацяць фантазію! Раманы, аповесці, п'есы пішыце! Калі пішацца... Мне пісалася. Да пісьмовага стала цягнула мацней, чым да абедзеннага.

Сядзеў я за сталом першага красавіка. Наўрад ці пісаў, на творчасць адводзіў ноч — "сава". Калі пісаў, то, мабыць, артыкул ці пісьмы; у маладыя гады я адказваў многім маім чытачам. Цяпер шкадую, што не пакідаў копіі пісем, не мог нагружаць хатнюю машыністку – Машу — яшчэ і пісьмамі — хапала ёй перадрукоўваць раманы, аповесці (я ўсё пісаў рукой — ніякай "механізацыі"), расціць дзяцей, унукаў; працавала мая "мурашка" ад відна да позняй ночы.

Тэлефонны званок. Жаночы голас, трывожны, незнаёмы:

— Таварыш Шамякін? Гарыць "Фабрыка-кухня".

— Хто гаворыць?

—З пажарнай.

І — кароткія гудкі.

Сучасны чытач здзівіцца: якое дачыненне меў я да рэстарана, кафе, сталоўкі, якія размяшчаліся пад даваеннай шыльдай "Фабрыка-кухня"?

Меў. У двары драўлянага дома па вуліцы Берсана, побач з грамадскай харчэўняй, у гаражы, збудаваным немцамі, стаялі нашы машыны — Саюза пісьменнікаў і мая асабістая, якую я купіў за Сталінскую прэмію.

Дом двухпавярховы, дарэвалюцыйны, гарэць мог, як порах. Дом памятны. Адразу пасля вызвалення Мінска ў яго пасялілі Саюз пісьменнікаў і яго асірацелага старшыню Міхася Лынькова: фашысты спалілі ў Трасцянцы жонку яго і сына. На другім паверсе далі раскошную па тым часе кватэру народнай артысткі СССР Ларысе Александроўскай. Пасля, калі Лынькоў і Александроўская перасяліліся ў новыя дамы, жыхарамі Берсана, 6, сталі наш паэта Дзмітрый Кавалёў і кампазітар Анатоль Багатыроў. Жывіце на здароўе, сачыняйце вершы, музыку! Дык не ж, заеліся інтэлігентныя людзі да ўзаемнай нянавісці. Хто каму замінаў сачыняць? Пэўна кампазітар (шуму многа!) паэту, які любіў цішыню. Заяву (хто на каго напісаў – не помню) разбіралі ажно на бюро гаркама — абодва камуністы. Я, сакратар партарганізацыі, якому было даручана разабрацца, дакладваў на карысць свайго калегі і земляка. Запісалі і аднаму і другому папярэджанні: не ганьбіце званні свае! Але помню, што пасля гэтага шаноўны Анатоль Васільевіч гадоў дзесяць, калі не больш, не вітаўся са мной і не размаўляў.

...Сказаў пра "кухню" Машы:

— Андрэевы жартачкі.

Маша ўстрывожылася:

— А ты пазвані яму.

Тэлефаную.

— Твой розыгрыш?

— Шкадую, што не мой. Няхай бы ты патрусіў адкормлены азадак.

— Скажы сур'ёзна!

— Клянуся: не мой. Але задумайся: чым чорт не жартуе? Правер.

Паклаў трубку — званок. Міхась Калачынскі, адказны сакратар Саюза пісьменнікаў:

Табе званілі?

— Званілі.

— Што будзем рабіць? Макарэвіча, як на злосць, няма. Хварэе. Ляснуць нашы машыны. У мяне ёсць ключ ад варот, дзе наша машына. Канешне ж, у цябе ад сваіх варот ёсць. Бяжыма! Можа, паспеем выгнаць. Ты ж умееш...

Бяжым. А дзянёк — у найгоршым сэнсе першакрасавіцкі: ні сонца, ні цяпла — мокры снег.

Міхась залавіў "левака". Я ад Энгельса зрабіў крос, якога пасля арміі не рабіў.

Сустрэліся на Берсана.

З рэстарана "Фабрыка-кухні" выходзіла вясёлая кампанія.

Міхась мацюкаўся:

— Даведаюся хто — косці паламаю.

Андрэй кляўся, што не ён, але так весела рагатаў, што ў мяне ўзнікла падазрэнне: без яго не абышлося, а выканаўца — актрыса, у тэатры яго розыгрышы любілі.

Мінулі гады. Да першага красавіка яшчэ далёка — снег ляжыць.

Званок. Знаёмы голас паштаркі з дома адпачынку "Беларусь".

— Іван Пятровіч! Толькі што прыбягаў чалавек з шостага пасёлка, званіў у пажарную: гарыць дача Макаёнка.

— Вы не жартуеце?

—Якія жарты! Чалавек запыханы, сусед. Баіцца, каб яго не загарэлася.

Пасярод дня знайсці вольнага творцу нялёгка. Але мне пашанцавала: знайшоў сябра ў тэатры на рэпетыцыі, здаецца, "Трыбунала".

—Андрэй! Гарыць твая дача!

—Іван! Бяздарна ты рэпеціруеш першакрасавіцкі розыгрыш. Рана. Непраўдападобна.

Званіла паштарка. Пажарную выклікалі.

Вясёлы смех, а следам за ім — смех многіх людзей, акцёраў.

—Андрэй! Не жартуй!

— Ну, дык што я — патушу яе? Пагрэю вочы і паахаю. Няхай гарыць.

—Ну, чорт з табой!

—Бязбожнік ты, Іван! У чалавека гора, а ты ў кампанію яму пасылаеш нячысціка. Пакарае цябе бог.

З-за такога няверʼя яго і блазнавання я, магчыма, махнуў бы рукой. Але вельмі ўсхвалявалася Маша.

—Дайграліся... Дзеткі! Адзін аднаму не верыце. Выклічы машыну і прымусь яго паехаць. Людзі маглі штосьць выхапіць... рукапісы. А не — сам з'ездзі.

Я пазваніў у Саюз пісьменнікаў. На шчасце, шафёр сядзеў без працы. Пабач — тэатр.

Зноў званю туды. Драматург ужо ў акцёрскім буфеце. Але знаходзяць яго і там.

—Андрэй! Са мной не жартавалі... каму трэба! І я не жартую. У саюзе цябе чакае Макарэвіч. Садзіся на машыну і ляці. Не ўсё магло згарэць. Для пажарнікаў трэба гаспадар.

— Зануда ты, Іван. Чарку не даў перакуліць. Ды калі Маша ўсхвалявалася, пачынаю верыць...

Я не здолеў паехаць — назначана было пасяджэнне прэзідыума. Чакаў сябра. У прыцемку ён з'явіўся. З загарэлым тварам — як з Афрыкі вярнуўся.

— Ну, што?

— Што-што? Па мне не бачыш? Добра пагрэў нос і рукі на вуголлях. Меў задавальненне за дзевяноста тысяч — такую суму заплаціў за дачу да рэформы 1961 года — у сяродку, праўда, халадна. Хадзем да Машы, няхай грэе нутро маё. Што ты божкаеш? Не ў дачы шчасце, Іван. Збудуем новую. Адна ўдалая п'еса — і дача. Аднаму хіба навучыла: не ўсё лічы за розыгрыш.

Прычына пажара. Андрэй колькі год назад развёўся з Ленай, і жыў на дачы. Разам з ім жыў яшчэ адзін развядзёны — швагер Аляксея Кулакоўскага, Бранiслаў, аўтамеханік. Ён паставіў на падзарадку акумулятар і перагрузіў лінію. Вопытны чалавек, а зрабіў глупства. Дзіўна, што Андрэй не вініў механіка, разам больш не жылі, але сябравалі, бралі чарку.

Дачу славуты драматург збудаваў новую — такую, якой не было ў той час ні ў кога, хіба дзяржаўныя — у Драздах. Грошы меў. І меў яшчэ адно — высокі дазвол, без якога чыноўнікі праект той "зарэзалі б".

Спраектаваў будынак галоўны архітэктар Мінска Юрый Грыгор'еў. Каму з архітэктараў не хацелася мець уласнае збудаванне! Сохлі яны, нябогі, на штампаванні стандартных панельных гмахаў. Ім эканоміка і палітыка дыктавалі, як нікому іншаму з творцаў; я свабодны быў у выбары тэмы, жанру, сюжэту, кампазіцыі, і мастак, і кампазітар; архітэктар быў "прывязаны" да спецыяльнага заказу, да фінансавання.

Хто тады мог будаваць дачу па індывідуальным праекце? Нікім не адменена была падпісаная яшчэ Сталіным пастанова: дача — 60 квадратных метраў, і ні метра больш. Мне не дазволілі надбудаваць капітальны другі паверх — толькі дашчатую мансарду без ацяплення.

Андрэй атрымаў дазвол нечакана і лёгка. Недзе ў пачатку лета, калі так хочацца вырвацца з душнага горада, у Ждановіцкі лес, да Мінскага мора, пагарэлец сказаў мне:

— Іван, давай сходзім да Пятра.

Пятро — Машэраў. Не скажу, што мы часта наведваліся да Першай асобы; я па абавязку службы часцей, Андрэй радзей, але яго вымушала творчасць: амаль кожную яго камедыю Міністэрства культуры і Галоўліт не рэзалі, але заўвагамі "рэдагавалі" да стану тэлеграфнага слупа, смешная камедыя ператваралася ў сумную пустышку. Неадночы ратаваў Машэраў. Толькі першы варыянт "Пагарэльцаў" параіў патрымаць годзікаў пяць-шэсць. (Спадзяваўся, што за гэты час адбудуцца перамены?) Між іншым, не помню выпадку, каб Пятро Міронавіч не прыняў нас, і нас з Танкам і з Макаёнкам. Любіў пагутарыць з на-



шым братам, не дзесяць-дваццаць мінут — гадзіны дзве. Міністры млелі ў прыёмнай, памочнік Віктар Крукаў дазваляў сабе нагадаць пра іх — на яго ціснулі, але і гэта не заўсёды вымушала Першага сакратара развітацца з такім смелым палемістам, якім быў Андрэй. Здаралася, што Машэраў мог узлавацца, нязгодны, але тут жа адходзіў — найкаштоўнейшая якасць кіраўніка.

Прыняў нас Пятро Міронавіч у канцы рабочага дня.

— Ну, як жывецца?

—Ды вось пасмаліў аглоблі. Ды воз так высока не мог усцягнуць.

Не зразумеў Машэраў гэтай даўняй завядзёнкі пагарэльцаў: пасмаліць аглоблі і ездзіць па навакольных сёлах з маўклівай просьбай памагчы; здаралася, што на бядзе суседзяў спекулявалі хітруны; да бацькі майго ў лес па матэрыял прыязджалі і тыя, у каго аглоблі згарэлі, і тыя, хто пад выпадак пасмаліў іх.

— Пагарэлец ён, — растлумачыў я.

Машэраў засмяяўся, не ведаў дагэтуль пра аглоблі.

— Чуў-чуў... Дык што трэба?

— Хачу збудаваць новую дачу. Супрацьпажарную.

— Дык у чым праблема? Няма грошай?

— Грошы ёсць. Камедыі ідуць... Будаўнікоў няма.

— Як гэта няма? Тры міністэрствы маем будаўнічыя.

— Прыватныя дачы не будуюць.

—Ну, вам збудуюць...

І да тэлефона.

— Архіпец? Як ідзе план?

Паслухаў бадзёры даклад пра выкананне плана.

— Макаёнка знаеш? — відаць, ашаламіў міністра такім пераходам — ад плана да пісьменніка. — У тэатры бываеш? Схадзі. У яго згарэла дача. Памажы яму пабудаваць новую. Фінансуе ён сам. За які час збудуеш? За паўгода? Ну, што за тэмпы? Тры месяцы. Хопіць?

Палажыў трубку і да Андрэя:

— Заказвай праект.

А пасля гадзіны дзве размовы пра літаратуру і тэатр. Што напісана. Што пастаўлена — у нас, у Маскве. Інструктары, загадчык аддзела, міністр — так расказаць не маглі — скоўвала субардынацыя, ды і не ведалі яны таго, што ведаў Макаёнак пра тэатр, я — пра новыя раманы. Мы таксама не зявалі — тут жа ставілі наспелыя ў Саюзе пісьменнікаў, у тэатрах пытанні. Нярэдка вырашаліся некаторыя з іх хутчэй і больш поўна, чым тыя, якія выкладаліся ў пісьмах — тых, што доўга хадзілі па інстанцыях і нярэдка не даходзілі да таго, каму адрасоўваліся.

Дачу будавалі не тры месяцы — год. Ёй далёка да тых палацаў, якія ўзводзяцца зараз, пры капіталізме. Але тады яна была славутасцю пасёлка, большай, чым некаторыя мінскія музеі. Кожная новая група адпачываючых у санаторыях "Беларусь", "Крыніца" лічыла ледзьве не абавязкам схадзіць паглядзець дачу Макаёнка.

Між іншым пра гэтыя "экскурсіі". Першы (ён і дагэтуль першы, афіцыйна) пасёлак збудавалі ў 1957-59 гадах, калі запаўнялі "Мінскае мора", нехта рэальна разважаў: не можа месца адпачынку заставацца дзікім. Запланавалі некалькі пасёлкаў. Збудавалі адзін – 30 дач. Прымітыўныя дачкі, цагляныя, усе аднолькавыя, як блізняты, праўда, мелася адна раскоша — водаправод.

Будаваліся трэстам, дзе матэрыялы кралі бессаромна і начальства і рабочыя; левы заработак быў тады рэдкасцю ці далёка — у вёсках, спаленых у вайну.

Гаспадары грошы пераводзілі ў Будбанк — па фактычным расходзе. Мая каштавала (да рэформы 1961 года) 65 тысяч. Можна сказаць, танна... Зараз за тыя струхлелыя дачы плацяць па дваццаць тысяч долараў і, як правіла, зносяць іх, каб збудаваць новыя — сучасныя ў самым высокім сэнсе. Месца выгоднае: блізка ад Мінска, побач водасховішча, акуратна па раскладзе ходзяць аўтобусы, водаправод, газ.

Па прыкладзе практычнага гаспадара вядомага навукоўца, аўтара падручніка па беларускай мове, па якім мы вучылі родную мову, Янкі Шчаснага мы з Іванам Мележам папрасілі крышу зрабіць каньком і выкарысталі падстрэшша пад мансарду, дзе абсталявалі кабінеты. Там пісаліся "Людзі на балоце", "Подых навальніцы", "Сэрца на далоні", "Атланты і карыятыды".

Аднак пра экскурсіі. Адтуль, з гарышча, я чуў, як цікаўныя адпачываючыя не без асуджэння казалі:

— Во жывуць, буржуі!

Мы з Мележам — буржуі...

Аднойчы я сустрэў такую групу на краю пасёлка і адна маладзіца спытала ў мяне:

— А хто тут жыве?

— Пра ўсіх расказваць доўга. А пра некаторых, каторыя з гэтага краю, магу паведаміць. Во злева, першая дача — пісьменнік Піліп Пестрак, змагар, рэвалюцыянер, адзінаццаць гадоў прасядзеў у польскай турме, з іх — тры ў адзіночцы. Побач з ім — вядомы прафесар-медык, гінеколаг-акушэр. Колькі памог жанчынам, мёртванароджаных дзяцей ажывіў. Імя яго ў энцыкліку папы Рымскага занесена. Следам за ім — два народныя артысты СССР Лідзія Ржэцкая і Леанід Рахленка. Былы рэктар медінстытута Магілеўчык, сын яго вядомы акуліст. У гэтых двух дачах — ветэраны вайны. За імі — народны артыст славуты цымбаліст Іосіф Жыновіч. Сусед яго — Іван Мележ, вядомы раманіст...

— А вы хто?

Мусіў прызнацца. Дзівіліся і ўзрадаваліся. У наступныя дні прыходзілі з кнігамі маімі — за аўтографамі.

Вось такія людзі жылі напачатку ў Першым пасёлку. Цяпер з ветэранаў засталіся я ды Галіна Іванаўна Якаўлева. Яна — з зяцямі, тыя збудавалі новую дачу, адну на дваіх. Са старых дач, якія псуюць выгляд пасёлка, засталіся хіба дачы двух акадэмікаў: Любові Уладзіміраўны Хатылёвай і мая — акадэміка, народнага пісьменніка, Героя Працы, Лаўрэата дзяржаўных і іншых прэмій, кавалера дзевяці орднаў. Сюжэт! Шкадую, што на раман не маю сілы.

Але не гэта здзіўляе ці засмучае. Іншае. Выраслі палацы, побач з маёй дачай — трохпавярховы гмах, неба заслаў. Паглядзець на гэтыя дзівосы адмысловай архітэктуры ходзяць экскурсіі з трох санаторыяў. Але, седзячы ў "галубятні" ці за кустом шыпшыны, я ні разу не пачуў:

— Во жывуць, буржуі!

Загадка чалавечай псіхалогіі. Іван Мележ быў буржуй, а Д., С. — хто яны? "Пагарэльцы", якія пасмалілі аглоблі? Мне здаецца (ды і сню часам), што ідзе нейкі злы розыгрыш усіх нас. І мы "клюём" на гэты розыгрыш. Я ветліва вітаюся са сваім суседам — гаспадаром двух магазінаў, дачнага асабняка і, не ведаю, колькіх мільёнаў у банку ці ў панчосе.

Я не магу выдаць новую кніжку. Ну, я часам прабіваюся, атрымліваючы капейкі за сваю нялёгкую працу, ды і тыя па паўгода не плацяць. А малады паэт і безганарарную не можа выдаць. Не развучацца мае суседзі чытаць?! Развучыліся! На роднай мове — то пэўна. Спяваю вясёлую песню маёй маладосці:

"Любо, братцы, любо, любо, братцы, жить..."

## АЎТОГРАФ

Гуляю па дачным пасёлку. Любуюся архітэктурай новых дач. Ёсць таленавітыя архітэктары! Трэба толькі даць ім свабоду творчасці і добра заплаціць. Новыя (так іх называюць — проста эпітэтамі, з

(Заканчэнне на стр. 15)

# КАЗІМЕЖ СВЯГОЦКІ ПА-БЕЛАРУСКУ

Ва ўступным слове да кнігі вершаў польскага паэта Казімежа Свягоцкага "Цень над раўнінай" Алег Лойка адзначыў, што беларускі чытач з творамі гэтага майстра, бадай, зусім незнаёмы. Адначасова ён падкрэсліў, "між тым, гэты паэт, які ў польскай пасляваеннай паэзіі займеў імя, будучы адным з найбольш цікавых паэтаў пакалення, якое ў нас называецца другім пасляваенным".

Сапраўды, Казімеж Свягоцкі ў наступным годзе адзначыць сваё 60-годдзе. Ён закончыў універсітэт у Лодзі і філасофскі факультэт Варшаўскага універсітэта. Паэтычная кніга "Цень над раўнінай" упершыню выйшла на беларускай мове ў Слонімскай друкарні. Паэзія Казімежа Свягоцкага вельмі складаная, з філасофскім падтэкстам, яна адлюстроўвае ўнутранае быццё чалавека, тое непазнанае, у выніку чаго чалавек з'яўляецца канкрэтнай непаўторнай асобай:




**Я — вечны світанак**
**І захад сонца, які бясконцы;**
**Я — нахілены над сабой**
**Між тым, што бачыцца**
**І тым, што існуе,**

Між мовай і вялікім дажджом.

Казімеж Свягоцкі — паэт-экзістэнцыяліст, ён у сваіх творах прызнае толькі існаванне чалавека з яго перажываннямі, індывідуалізмам і аратарскім майстэрствам. Пра гэта ў вершы "Чалавек":

**Ён не памірае, горад памірае,**
**У звоне малітвы глыняны зямлёй.**
**Зямля бо смяротна,**
**расце з чалавека**
**І зялёным шарам жыве**
**ў яго зрэнках...**

Паводле народных румынскіх песняў польскі паэт напісаў невялікі цыкл вершаў пра тое, "якімі шляхамі адлятае мой сум", пра гарлічаньку сівенькую і пра фіялак, што нагадваюць пра каханне. Верш так і называецца "Пра нашы каханні". Здаецца, усё проста, твор лёгкі і звычайны. Але апошнія чатыры чуллівыя радкі робяць яго класічным:

**Там быў я з вячэрняй расой, —**
**Фіялак, касі хоць касою.**
**Пабачыш іх на пагорку,**
**Заплачаш, мілая, горка.**

У зборніку "Цень над раўнінай" Казімежа Свягоцкага апублікавана і невялікая паэмка "Малпачка Нана — дачка Павіяна". Гэта твор для дзяцей. Але ў ёй па-даросламу арыгінальна і па-майстэрску дасціпна паэт вяртае чытачоў не абы-куды, а ў Смаргонскую Акадэмію.

Наогул, пра творчасць паэта з Польшчы можна разважаць вельмі доўга. І з'яўленне яго кнігі па-беларуску — заслуга перакладчыкаў Алега Лойкі, Алеся Разанава і Ірыны Багдановіч.

Сяргей ЧЫГРЫН

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ДЗІВОСЫ ЛЫСАЙ ГАРЫ

Кніга беларускага пісьменніка Алеся Савіцкага пад гэтай назвай нядоўга праляжала на паліцах кнігарняў. Літаральна за нейкія тры месяцы даволі значны па цяперашнім часе тыраж быў прададзены да апошняга асобніка. Кніга прыбавіла юнага чытача не толькі вабнай вокладкай, дакладнай расшыфроўкаю загалоўка, што гэта не нейкія там "дзівосы", а Незвычайныя прыгоды залацістага карасіка Бубліка, коткі Муркі, сабакі Лінды і шчанюка Рыка, не выдатнай серыяй каляровых ілюстрацый-малюнкаў, а светам казачным, што разгортваецца на старонках гэтай займальнай дзіцячай трылогіі.

Пісьменнікам напісана шмат кніг для дзяцей і юнацтва. Сярод іх — зборнік апавяданняў "Шкляная нітка", аповесці "Узаранае поле","Белая знічка", "Скажы мне праўду", "Самы высокі паверх" і іншыя. Адметныя якасці гэтых твораў — добрае веданне жыцця і высокая мастацкая выразнасць. Уражанні франтавых дарог, будоўляў на Дзвіне, Ангары і Амуры, у якіх ён браў актыўны ўдзел у свой час, адбіліся ў лёсе яго літаратурных герояў, яны моцныя духам, адданыя праўдзе і сяброўству, улюбёныя ў свой родны край.

Таму зусім натуральны поспех, што напаткаў новы твор пісьменніка для дзяцей. "Дзівосы лысай гары" складаюцца з трох аповесцяў-казак, у якіх шмат досціпу, гумару, займальнасці і жыццёвай павучальнасці. Сярод літаратурных твораў для дзяцей, асабліва малодшага і сярэдняга ўзросту, жанр казачны стаіць, мабыць, на першым месцы, бо тут уплыў на душу і сэрца маленькага чытача адбываецца адразу на трох вельмі важных напрамках, што заўжды істотна ўплываюць на станаўленне характара, асобы чалавека ўвогуле —займальным, эмацыянальным і разумовым.

Ва ўступе да адной з аповесцяў-казак, яе гераіня, — ад яе імя і ідзе далейшы аповед, — звяртаецца да будучых чытачоў са словам шчырым і даверлівым: "...Памыляецца той, хто думае, што бяда прыходзіць да нас нечакана, што хтосьці насылае яе на нас. Бяда пачынаецца з таго, што мы, здараецца, бяздумна і безадказна ставімся да сваіх учынкаў, пасміхаемся, калі старэйшыя павучаюць нас і патрабуюць абачлівасці.

Гэта кажу Вам я, Мурка, рудаватая котка з белым колцам на чорна-бурым хвасце. Мой аповед шчыры і праўдзівы. У ім — мой горкі вопыт, жаданне ўберагчы вас ад памылак, паспешлівых крокаў. У ім цвёрдае перакананне, што бяду цяжка прадбачыць. Аднак нельга і адчайвацца, калі яна ўжо цябе напаткала. І нельга губляць мужнасць, якая так патрэбна кожнаму з нас у складаных жыццёвых абставінах. Вось чаму вельмі прашу: набярыцеся цярплівасці і ўважліва выслухайце тое, што я зараз вам, дарагія мае сябры, раскажу".

Гэты даверлівы і шчыры зварот адразу ж прываблівае сэрца юнага чытача. Птушкі, вяртаючыся з выраю, беспамылкова знаходзяць патрэбны шлях, бо іх вядзе — найперш! — любоў да роднага дупельца, роднага гаю, роднай рачулкі. Гэткая ж любоў вядзе і гераіню аповесці да свайго роднага дома, у падарожжы, што багата на прыгоды самыя розныя і нечаканыя. Але яна шчаслівa пераадольвае іх, бо спадарожнічаюць ёй спагада, шчырасць і цеплыня душы мноства жывых істот — насельнікаў лясоў, палёў, рэчак. Сапраўднымі сябрамі робяцца ёй Вожык і Сарока, Вавёрка і Барсук, Дзяцел і Бабёр, Ліса і Палёўка, Чакан і Шэрая Варона...

Дзівосны і казачны свет адкрываецца перад чытатачом і ў гісторыі, што адбылася з маленькай дзяўчынкай Сашай. Выпусціла залацістага карасіка Бубліка ў сажалку Руды Блінец, сама зрабілася намаганнямі чараўніка Малінавая Пацерка карасікам, і ёй адкрываецца жыццё новае, падобнае на прыгожую і дзівосную казку. Але каштоўнасці ў ім, гэтым свеце, гэтак жа як і ў аповесці пра шчанюка Рыка, не казачныя, а рэальныя: дабрыня — ёсць дабрыня, спагада — ёсць спагада, падман — ёсць падман. У гэтым свеце, гэтак жа, як і ў свеце зямным, сярод людзей, давер і павагу таго, хто побач з табою, ты можаш заваяваць толькі ўласнай дабрынёю, шчырай і сумленнай працай, заваяваць сэрцам, што адкрыты любові і шчыраму сяброўству.

*...Калі ты хочаш мудрым быць,*
*Часцей глядзі на неба.*
*Маліся толькі дабрыні...*

Гэтыя словы з песні, якую спявае Цэзар, сябар шчанюка Рыка, дзівосным чынам праецыруюцца на ўчынкі герояў усіх трох аповесцяў-казак. Зорка дабрыні спагадліва асвятляе шлях Мурцы, і таму яна знайшла дарогу да роднага дома, зорка мужнасці і дабрыні дапамагла маленькім насельнікам Рудога Блінца перамагчы жахлівага хітругу і нахабу крыважэрнага шчупака Зубатага. Зорка смеласці і адвагі дапамагла маленькаму Яўгенку і ягоным верным памагатым Ліндзе і Рыку выйсці пераможцамі ў складаных жыццёвых варунках і сцвердзіць сябе як асобу, як маленькага гаспадара, што перш-на-

КРЫТЫКА

# АГОНЬ, ЗДАБЫТЫ САРДЭЧНАЙ ІСКРАЙ...

У плеядзе сучасных рускіх паэтаў на Беларусі адно з адметных месцаў належыць Анатолю Аўруціну. На жаль, ён не часта трапляе ў поле зроку крытыкі, хоць кнігі выдае рэгулярна. З гэтага шэрагу і новая: "Суд богов", што ў канцы мінулага года з'явілася ў "Тэхнапрынце". З густам афармленая (на вокладцы, у прыватнасці, выкарыстаны фрагмент вядомай карціны К.Брулова "Апошні дзень Пампеі"), яна прываблівае той нязмушанай, у нечым сумнай гаворкай, якую вядзе аўтар з чытачом, па-свойму падрахункоўваючы XX стагоддзе. Дарэчы, гэтая праблематыка цалкам напаўняе паэму "Осколки разбитого века" , што сталі вынікам амаль дваццаціпяцігадовай працы паэта. Пачаты ў 1975 годзе, твор быў завершаны ў кастрычніку 2000-га. У паэме А.Аўруцін спрабуе зірнуць на адыходзячы век праз прызму свайго асабістага лёсу. Ёсць у гэтых развагах выразныя замалёўкі таго Мінска, які паэт ведае з маленства, паўстаюць воблікі людзей, якія жылі, а некаторыя і сёння жывуць у раёне Грушаўкі, дзе прайшло маленства і юнацтва А.Аўруціна. Прысутнічае жаданне разабрацца ў няпростых рэаліях сённяшняга дня. Месцамі не абышлося, як мне здаецца, і без катэгарычных высноў, ды, не будзем забываць; кожны мае права на асабістую думку, а да чаго прыводзіць"аднагалоссе"—таксама добра ведаем.

Асноўны ж змест кнігі: чалавек у часе і час у чалавеку. Лірычны герой А.Аўруціна — з шэрагу людзей, якія нічога не бяруць на павер, а ў пошуку ісціны ў нечым памыляюцца, штосьці аспрэчваюць, але тым больш жаданай бывае яна пасля нястомных пошукаў. Дакладна прыкмеціў асабліваасці паэзіі А.Аўруціна ў прадмове "Музыка смыслов" Фелікс Мысліцкі — таксама паэт, творчасць якога яшчэ чакае свайго дэталёвага разгляду. Ён, прынамсі, зазначае: *"Настоящая поэзия вся из прозрений, которых немало у Аврутина. У него прошлое способно быть настоящим, а будущее — прошлым. Время возвращается. Тона стихов поэта почти акварельные, не заслоняющие смысла. Поэт очень часто пишет так, как ни за что не сможет написать человек, научившийся стихотворству".*

*У якасці прыкладу Ф.Мысліцкі прыводзіць гэтыя радкі:*

*Завершив конечный путь земной,*
*Тихо растворившись*
*в мирозданьи,*
*Мы, родная, встретимся с тобой*
*По другую сторону дыханья.*

Сама вечнасць прысутнічае ў творы. Ёсць і аптымізм, што дае спадзеў на бясконцасць жыцця, на яго праяўленне ў іншых, нам невядомых формах. Прысутнічае і няменш важнае: усведамленне і разуменне, што няма мяжы сапраўднаму каханню, яно здатна пераадолець час і адлегласці. Аднак паэт на тое і паэт, каб не замыкацца ў нейкім пэўным душэўным стане. Як і ў кожнага чалавека, у яго бывае настрой не толькі радасны. Таму поруч радкі іншага плану. Як на першы погляд, песімістычныя, але, калі лепш разабрацца, не песімізм гэта, а само жыццё на зямлі з яго часовасцю:

*Мы пришли и уйдем,*
*И от нас ничего не останется.*
*Только плюсик креста,*
*На котором трепещет душа.*
*Да и тот украдет*
*Подзаборный какой-нибудь*
*пьяница,*
*Бросит в свой костерок,*
*Костылями золу вороша...*

Вершы А.Аўруціна ствараюць нейкі асаблівы настрой. Адчуванне, што з'яўляецца пры гэтым, не заўсёды магчыма перадаць простымі словамі, бо лішні раз упэўніваешся, наколькі ёмкае і аб'ёмнае панящце паэзія. У ёй і сама рэальнасць, але ў ёй ёсць месца і таму, што сягае ў нейкія іншыя вымярэнні. Накont гэтага Ф.Мысліцкі слушна сцвярджае: *"Чем больше устает сознание, тем продуктивнее зачастую работает подсознание. Подсознание беспредельно, во всяком случае, куда объемнее сознания":*

*Ноги стоптать о гранит,*
*Их о стерню уколоть...*
*Кто там средь поля стоит —*
*Путник? Покойник? Господь?*

*Кто это, вереск примяв,*
*Росную пыль вороша,*
*Виден вдали среди трав —*
*Пугало? Дьявол? Душа?*

Міжвольна хочацца правесці паралель з паэтамі "серебряного века", але можна абысціся і без параўнання, бо такія паралелі некаторых "палохаюць", а сёй-той, вядома, з сённяшняй пішучай брацці, пачынае зайздросціць, што не дачыненні да яго паэзіі гэта зроблена. Дастаткова сказаць, што ў А.Аўруціна — не проста вершы, а менавіта паэзія. Вершы, як вядома, можа напісаць той, хто авалодаў адпаведнай "тэхнікай" і пры гэтым мае пэўныя задаткі таленту. Паэзія ж — асаблівы стан душы. Таму і нараджаюцца творы, кранальныя сваёй непасрэднасцю і той жа загадкавасцю сказанага, а ў не меншай ступені — недагаворанага:

*...И мечтал я шагать,*
*как шагают цари,*
*И учился я царскому шагу.*
*Только, если не царское*
*сердце внутри:*
*То по-царски шаги не лягут.*

*Я назад повернул в середине пути,*
*Чтоб вернуться в родные юдоли.*
*Но как смерды идут —*
*разучился идти,*
*И стою — ветряком среди поля.*

У А.Аўруціна асобае бачанне прыроды. Канечне, яна, як і ў іншых, існуе не-

перш дбае пра справядлівасць, верны абавязку сяброўства і ненавідзіць здраду.

У наш няпросты час, калі на душы людскія, нібыта горны абвал, спаўзае лавіна экраннага і папяровага чаду, дзе няма месца спачуванню фізічнай сілы, дзе ўсё падначалена закону, які дужа ж выразна ўвасоблены ў класічным паэтычным радку — "всё куплю, сказало злато! Всё возьму, сказал булат", — дзе шчырыя парыванні светлай чалавечай душы высмейваюцца і не варты і шэлега, аповесці-казкі "Дзівосы лысай гары", бачацца нам надзейным духоўным апірышчам для маленькага сэрца. Не проста ўбачыць дабрыню, але і паверыць у нязломнасць яе — самай найпершай бачыцца нам задачай у выхаванні чалавека заўтрашняга дня, гаспадара і працаўніка.

Вылучэнне кнігі Алеся Савіцкага "Дзівосы лысай гары" на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь па літаратуры для дзяцей і юнацтва за 2002 год з'яўляецца фактам заканамерным і справядлівым.

Дзівосная — рэальная і непаўторная! — прыгажосць роднай зямлі нашай, веліч высакародных сэрцаў адкрываецца нам у фарбах свежых і абаяльных. Лёсы высакародных герояў гэтай кнігі, поўнай сапраўды "Дзівосаў" чалавечага сэрца, абуджае ў душы маленькага чытача пачуцці высокія і светлыя, вучыць любові да роднага краю, да сваёй Бацькаўшчыны, выхоўвае пачуццё адказнасці за кожны свой крок у жыцці, дапамагае рабіцца шчырым, мужным і смелым.

Кніга вучыць маленькага чытача спасцігаць мудрасць жыцця, самая галоўная з якіх і заключаецца менавіта ў тым, што павага і давер сяброў не купляецца за грошы, што гэта заўжды ўзнагарода за кожны твой крок на зямлі, за кожны твой учынак, за кожную справу, што зрабілі твае рукі, за кожнае слова, што зляцела з тваіх вуснаў, за тую цеплыню, што ёсць у тваім сэрцы, і якой ты не пашкадаваў для сябра ці проста для таго, каму яна была пільна патрэбная.

І толькі ад цябе самога — і ні ад каго больш! — залежыць, дарагі маленькі чытач, мера гэтае павагі і даверу. А без павагі і даверу жыць на свеце па-сапраўднаму немагчыма.

**Іван КАПЫЛОВІЧ**

---

падзельна ад чалавека, але і тут свае адметнасці. Гэта сувязь з той жа вечнасцю. Прырода, як і чалавек, у чаканні пераходу ў іншы стан:

*Замшелостью тянет и прелью*
*От скользких, потресканых пней.*
*Тоска по весне и апрелю*
*В остылой природе острей.*

*И видишь с каким-то надрывом*
*На зрелом своем рубеже —*
*Сосенка шумит над обрывом,*
*А корни подмыло уже.*

Годна праходзіць паэзія А.Аўруціна выпрабаванне і тэмай кахання. Лірычны герой паэта не клянецца ў любові. Ён увогуле не прагне споведзі. Аўтар знаходзіцца як бы збоку, даючы сваю ацэнку таму, што адбываецца.

Каханне ў вершах паўстае той вялікай і ўсёабдымнай сілай, якая можа перайначыць свет, а не толькі лёсы. А праз пэўную несказанасць твора адкрываецца шырокая перспектыва дадумвання, дасэнсавання таго, што знаходзіцца па-за тэкстам, па-за радкамі...

Паэтам А.Аўруцін паўстае і ў перакладах. Нават па прадстаўленых перакладах. Нават па прадстаўленых пераўвасабленнях відавочна, што творчы дыяпазон яго ў гэтым жанры шырокі: антычная, амерыканская, беларуская, іспанская, французская паэзія. Дастаткова пазнаёміцца хоць бы з перакладам "Раманса" М.Багдановіча ("Зорка Венера"), да якога падступаліся многія. Ці з перастварэннем па-руску верша Ф.-Г.Лоркі "Неверная жена", які большасць з нас ведаюць у цудоўным перакладзе на беларускую мову Р.Барадуліна. Інакш і быць не можа, бо

*Тот не поэт, кто средь*
*земного рева,*
*Пером бумагу истова скверня,*
*Из древа получает только древо,*
*И пламень зажигает от огня.*

*Они различны все и все едины,*
*Они не бросят: "Быть или*
*не быть?"*
*Лишь тот поэт, кто смог*
*из древесины*
*Огонь сердечной искрою добыть.*

Менавіта на такіх паэтаў і імкнецца быць падобным Анатоль Аўруцін.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

**АНКЕТА ШТОТЫДНЁВІКА "ЛІМ"**

# Шаноўнае спадарства!

***Вось нашыя пытанні, адказы на якія мы жадалі б атрымаць не пазней як 1 лістапада 2002 года (не болей за чатыры старонкі машынапісу).***

***1. Што вы прачыталі ў гэтым годзе з беларускай літаратуры (рукапісы, публікацыі, кніжкі)?***

***2. Што перачытвалі са "старога" і адкрылі ў ім новае?***

***3. Што найбольш уразіла з прачытанага?***

***4. Назавіце свой суб'ектыўны рад любімых вамі сучасных пісьменнікаў (да 10 чал.), паэтаў (да 10 чал.), крытыкаў (да 5 чал.).***

***5. Над чым працуеце сёння, які маеце літаратурны і жыццёвы клопат, і дзе што сваё мяркуеце надрукаваць у бліжэйшы час?***

***Чакаем допісаў і загадзя вам дзякуем за актыўны ўдзел у сучасным літаратурным жыцці.***

## Юры СТАНКЕВІЧ:

1. З прачытанага за апошні год, на жаль (апроч некаторых нашых "аксакалаў") нельга выдзеліць нешта асабліва вартае. Наша літаратура ўвогуле перажывае зараз (я спадзяюся, што часова) адкат у няшчырасць і графаманію. Калі перадапошні "мележ" (Федарэнка) глядзеўся на ўзроўні, то апошні (Ветах), на мой сціплы погляд, не дацягвае. Да таго ж у нашай літаратуры даўно ідзе "ціхая грамадзянская вайна". Звярніце хаця б увагу, як падзяліліся галасы на выбарах старшыні саюза: амаль палавіна на палавіну.

Непамернае разбуханне СБП — думаю, не на дабро. Тут не павінна мець месца эйфарыя. З нядаўна прынятых — хіба бізнесмен Леанід Маракоў, які ўварваўся ў літаратуру з хуткасцю экспрэса, нясе адметны патэнцыял. Пра тое сведчаць два яго выдатныя аповеды: "Самы ніжні Тагіл" і "Касіў Ясь", змешчаныя на старонках "ЛіМа".

Такім чынам цікавых новых кніжак быццам не багата, хаця ў рукапісах, магчыма, ёсць і вельмі прыстойныя. У перыёдыцы зацікавіла "Прага" У. Някляева. Тут яшчэ і патэлефанавала "прасунутая" журналістка і вельмі хваліла. Аповесць прачытаў. Магчыма яна занадта "вытаркваецца над вадой" — можна было б частку і "ўтапіць" і яна б больш выйграла (але гэта мая суб'ектыўная думка).

2. а) Выпадкова пачуў інтэрв'ю Светы Алексіевіч па радыё "Ватыкан". Перачытаў фрагменты з яе "рамана галасоў", і зноў аддаў даніну энергіі і духоўнай моцы пісьменніцы, якая так бясстрашна зазірнула ў бездань.

б) Перачытаў "Элементарныя часцінкі" Мішэля Уэльбека. Жорстка пра Захад, Еўропу: німфаманія, выраджэнне, блізкасць краху. Вартая рэч і бескампрамісная.

в) Прачытаў тое-сёе з сучасных "прасунутых": М. Кундэру "Бессмяротнасць", Х. Муракамі "Паляванне на авечак", Д. Фаўлза "Калекцыянер", М. Павіча "Пейзаж, намаляваны гарбатай". З гэтага шэрагу хібо што Харукі Муракамі на вышыні. Павіча не дачытаў — шматслоўе, вычварнасць. Не той пасля свайго "Жарта" і Кундэра. Д. Фаўлз асобнымі рысамі нечакана напомніў адпраўны трамплін — "Кроткую" Дастаеўскага — лепшую, як лічыцца, навелу ўсіх часоў і народаў.

3. Пісьменнікі ў сваёй большасці сэнсітывы. І будучыня, якую яны прадчуваюць, не дае падставаў для аптымізму.

4. Назаву. Але з "сучасных" многія ўжо, на жаль, адышлі. Дый рад "любімых", мяркую, можа быць большым за дзесятку. Тым не менш празаікі:

— Альбер Камю, Уладзімір Караткевіч, Кнут Гамсун, Дж. Т. ді Лампедуза, Карлас Кастанеда, Скот Фітцджэральд, Уільям Фолкнер, Кэндзабура Оэ, Мішэль Уэльбек, Святлана Алексіевіч.

Паэты:

— Эзра Паунд, Алесь Разанаў.

Крытыкі:

— Галіна Тычка, Ірына Шаўлякова, Ганна Кісліцына, Юля Сальнікава.

5. Як чалавек прымхлівы, я не маю звычкі паведамляць, над чым і як працую, чытаць фрагменты будучага твора сябрам і г.д. Дый сітуацыя зараз такая, што пісаць робіцца сабе даражэй. Таму разумею Леаніда Галубовіча, які аб'явіў пра свой "паэтычны фініш". За сваю аповесць "Ліст у галактыку "Млечны шлях" над якой я працаваў тры цяжкіх зімовых месяцы, я атрымаў чатыры асобнікі часопіса.

А працаваць і далей, маючы даход у 7$ штомесячна (за догляд за інвалідам) цяжка і фізічна, і маральна. Цікавая ў псіхалагічным сэнсе дэталь: вылучаны большасцю галасоў ад СБП на Дзяржпрэмію за кнігу прозы "Любіць ноч — права пацукоў", толькі адзін я не знайшоў сваё прозвішча ў спісах прайшоўшых падкамітэт. Вядома, не на якую ўзнагароду я не разлічваў нават на поўадсотка. Але 40 сяброў падкамітэта (іх імёны трымаюцца чамусьці ў сакрэце) на чале з І. Навуменкам, маглі б хоць дэручыць якой-небудзь дзяўчыне-сакратарцы патлумачыць мне, чаму я знік са спісаў намінантаў? Магчыма гадоў праз дваццаць пяць, калі "на сцэну" прыйдзе новае пакаленне, да літаратуры адносіны таксама зменяцца. Але, што будзе ў нашым краі праз чвэрць стагоддзя — пра гэта можна толькі гадаць.

## Данута БІЧЭЛЬ:

1. Алесь Чобат "Зямля св. Лукі", Сакрат Яновіч "Z KSILGI Podlasia" (абедзве ў Польшчы), Адам Глобус пра бацьку Вячаслава Адамчыка ў "Полымі", а пра маці ў "Нашай Ніве".

2. Перачытала Янку Купалу, акадэмічнае выданне, а што адкрыла, аб тым напісала ў часопісе. "Наша вера" № 3 за 2002 г. Коратка: Купала яшчэ ў будучыні.

3. Разбурэнне стэрэатыпаў, прафесійнасць, глыбіня. Глобус уразіў шчырай любоўю да бацькоў, жаданнем пабудаваць свой род у кантэксце нацыянальнай культуры, свой радавод (але я не люблю гэтага слова).

Астатнія кнігі я чытала на польскай мове. І перыёдыку. Звязаную з каталіцтвам.

4. Чэслаў Мілаш, Томаш Агатоўскі, Алесь Чобат, Анжэліна Дабравольская, Віслава Шымборска, Оля Хвашчынская, Алёша Белы, Інга Вінярская, Ала Клемянок, Людміла Кебіч — гэта паэты.

Празаікі:

Янка Брыль — перачытала яго "Птушкі і гнёзды" і адкрыла ў ім нанова дакладнасць слова, чысціню і глыбіню, уменне ствараць настрой праз слова. Ён іх ставіць, як цвікамі забівае, — кожнае тое, якое трэба.

Уладзімір Паўлючук, Анджэй Пісказуб, Сакрат Яновіч, Алесь Чобат, Таіса Супрановіч, Іван Сяргейчык, Кастусь Тарасаў (найвялікшая любоў!), Ірына Жарнасек, Крыстына Лялько.

Крытыкаў не ведаю, адны філолагі, літаратуразнаўцы — то ж публіцысты, не крытыкі.

5.Пакуль не скажу.

## Святлана ЯВАР:

1."Пахаджане" В. Быкава, "Верш на свабоду", часопіс "Дзеяслоў", перыядычна (не рэгулярна) праглядала практычна ўсе часопісы, якія выходзяць на беларускай мове: "Полымя", "Маладосць", "Крыніца", "Роднае слова", "Пралеска", "Беларускі гістарычны часопіс", "Спадчына", "ARCHE" і інш. Пастаянна чытаю газеты "Звязда", "Літаратура і мастацтва", "Наша слова", час ад часу — штотыднёвік "Наша ніва". Трэба меней чытаць, болей рабіць! Адным словам, дзейнічаць.

2. Штодня нанач чытаю "Біблію" ў перакладзе В. Сёмухі. Пара сказаў — і на сэрцы лягчэй. Яшчэ перачытваю фальклорны зборнік "Замовы" (укладальнік Г. Барташэвіч) і знаходжу ў ім шмат сапраўднай паэзіі. Праглядала зборнік вершаў Я. Купалы, укладзены В. Рагойшам, і "Казкі жыцця" Я. Коласа (старое выданне, 1960 г.). Наогул цікаўлюся прытчавымі формамі, афарызмамі. Каротка, дакладна — і на ўсе выпадкі жыцця.

3. Найбольш уразілі "Запіскі рэдактара" Б. Сачанкі, апублікаваныя ў "Крыніцы". Можа, гэта і нясціпла (я ж іх рыхтавала да друку). Але тое, што засталося "за кадрам", г. зн. не ўвайшло ў канчатковы тэкст, наогул мяне перарабіла на новага чалавека. Якога? "Барыса ў маладосці".

4. Любімыя мною сучасныя беларускія пісьменнікі: Б. Пятровіч, Л. Галубовіч, А. Глобус, Г. Далідовіч, Л. Рублеўская, А. Казлоў, А. Мальдзіс. У прозе мне падабаецца ўсё "з вывертамі".

Беларускія сучасныя паэты, да творчасці якіх я люблю звяртацца: Р. Барадулін, Р. Баравікова, Л. Дранько-Майсюк, М. Мятліцкі, В. Шніп, А. Пісьмянкоў, В. Аксак, С. Шах, С. Адамовіч, А. Бадак і інш. Люблю паэтаў-песеннікаў.

Мае ўлюбёныя крытыкі: А. Васілевіч, У. Гніламёдаў, С. Андраюк, У. Конан, А. Марціновіч. Імпануюць крытыкі-добразычліўцы.

5. Цяпер працую над кніжкай прозы, даследую мову твораў М. Сяднёва, і мой галоўны клопат — каб мяне не "з'елі" злыдзеі і пасрэднасці ад літаратуры. Дзе што сваё мяркую надрукаваць у бліжэйшы час — гэта "ваенная тайна". Пасля пісьменніцкага з'езду наогул адчуваю сябе сараканожкай, якой адламалі палову лапак, ды яшчэ і рагочуць: "Яна не дапаўзе!" А мо — дапаўзу як-небудзь? Я ж трывушчая...

Дарэчы, у гэтым годзе я чамусьці захапілася футболам і "хварэла", між іншым, за каманду Паўднёвай Карэі (хочаце дазнацца чаму — глядзіце той нумар "Крыніцы", дзе напісана пра А. Глобуса). Карыстаючыся нагодай, звяртаюся да ўсіх літаратараў — старых і маладых: не прапускайце галы ў свае вароты! І яшчэ — паболей бы нам усім дабрыні, чалавечнасці, культуры!

## Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ:

1. Кніжак траплялася не так шмат, ды нават з таго новага, што з'явілася на паліцах кнігарань, чытаць хочацца, на жаль ці на шчасце, не ўсё. Некаторыя зборнікі пагартаеш-пагартаеш і пакладзеш на месца. І нават не таму, што дорага каштуюць, хоць і з гэтым, вядома, лічыцца даводзіцца. Проста бачыш: "не мой аўтар". Дык вось з тых кніжак, якія прачытаў — "Удог" Франца Сіўко, "Гадара" Ірыны Жарнасек, "Любіць ноч — права пацукоў" Юрыя Станкевіча, раман-дакумент Алеся Пашкевіча "Пляц волі"...

З перыёдыкі запомніліся "Ненапісаная аповесць" І. Пташнікава, апавяданні Леаніда Маракова, Івана Шамякіна, Андрэя Федарэнкі, Барыса Пятровіча, мініяцюры Янкі Брыля, вершы Леаніда Дранько-Майсюка, Васіля Зуёнка, Алеся Каско, Таісы Бондар, Віктара Шніпа, Вольгі Куртаніч...

2. Перачытваю мала. Больш вершы. М. Стральцова, В. Мандэльштама, А. Таркоўскага. З прозы — Я. Брыля, П. Зюскінда ў перакладзе В. Сёмухі, з задавальненнем перачытаў Аляксея Талстога. Шмат перачытваў Я. Купалу і Я. Коласа. Новае адкрываецца кожны раз. Асабліва ў вершах. Кожны раз Арсеній Таркоўскі, да прыкладу, для мяне ўсё глыбей і глыбей.

3. Уразілі артыкулы І. Шаўляковай, яе кніга "Сентыментальнае паляванне" — глыбінёй пранікнення ў сутнасць, нестандартнасцю мыслення, незаангажаванасцю. Безумоўна — Янка Брыль — тонкасцю, мудрасцю. І Іван Пятровіч Шамякін сваімі "Начнымі ўспамінамі" — шчырай споведдзю і адкрытасцю, гумарам. Як заўсёды, "на ўзроўні" былі А. Федарэнка, У. Някляеў з паэмай "Паланэз", Я. Сіпакоў...

4. Гледзячы каго лічыць сучаснымі. Для мяне сучасныя і М. Танк, і М. Стральцоў, і А. Сербантовіч, і У. Караткевіч. А з цяпер жывучых — Васіль Быкаў, Янка Брыль, Іван Пташнікаў, Алесь Жук, Андрэй Федарэнка, Сяргей Рублеўскі, Юрый Станкевіч, Ірына Жарнасек... Безумоўна, пералік не поўны. А сярод паэтаў — Раіса Баравікова, Алесь Разанаў, Рыгор Барадулін, Янка Сіпакоў, Алесь Пісьмянкоў, Леанід Дранько-Майсюк, Віктар Гардзей, Уладзімір Марук, Уладзімір Някляеў, Віктар Шніп...

Сярод крытыкаў — Леанід Галубовіч (палемічны, нетрадыцыйны), Ала Сямёнава, Ірына Шаўлякова, Пятро Васючэнка, Алесь Марціновіч — нястомны летапісец літаратурнага працэсу.

5. Працую над кнігай прозы. Туды павінны ўвайсці навелы з цыкла "Шляхі і вяртанні", лірычныя апавяданні, эсэ з цыкла "Лісты з восені". Паралельна складаецца кніга вершаў (даўно задуманая) — "Голас і рэха". Дарэчы, вокладку для яе зрабіў мастак Сяргей Цімохаў яшчэ пяць гадоў таму, калі мы разам жылі ў Полацку. Для выдавецтва "Мастацкая літаратура" ўкладаю кнігу з твораў літаратараў, звязаных лёсам з маім родным Полацкам. Яна павінна адкрыць новую серыю "Беларусь літаратурная".

Клопат — пра ўласныя праграмы "Брама" і "Без бар'ераў" на нацыянальным радыё, дзе цяпер працую, пра іншыя літаратурныя праекты, якія там курырую.

З бліжэйшых публікацый — падборка апавяданняў у часопісе "Полымя". Хачу прапанаваць да канца года чытачам "ЛіМа" падборку новых вершаў.

Былі б здароўе і натхненне!

*Бог беражэ, як і твая любоў.*

*Упарта прадзіраецца праз церні,*
*Праз павуціну злосці і хлусні.*
*О мамачка, мне цяжка сёння вельмі,*
*Але не здраджу гэтай вось зямлі.*

*Мо буду сёння зноў трывожна спаці,*
*І Беларусь наведаецца ў сны.*
*Бо ты пайшла. Цябе няма ўжо, маці!*
*Па цёплай жа сумую далані.*

## НАДЗЕЙНЫ ВУЛЕЙ

*Надзейным быў бацькоўскай хаты*
*вулей,*
*Бо ў ім матуля — рупная пчала.*
*О, як жа позна гэта мы адчулі:*
*Хоць ёсць хаціна, родных там няма.*

*Пакоі апусцелі, нібы соты.*
*Майчаннем паляць да гарачыні.*
*Да кропелькі ваш выпіт мёд пяшчоты.*
*Вярніся, мама, мой нектар збяры.*

*Ляжыцца вам там лёгенька ў гаёчку,*
*І ні па чым душа ўжо не баліць.*
*Свайго ўзялі адзінага сыночка.*
*Казалі людзі: "Жыць бы мог, ды жыць..."*

*У кожная свая, відаць, планіда,*
*Што прадказала, не прадухіліць.*
*Але ў душы галосіць яшчэ крыўда,*
*І рана незагойная баліць.*

*Гады мае ўжо павярнулі ў восень,*
*Але па вас не высушу слязу.*
*Стары наш сад усё шчэ пладаносіць.*
*І вам я заўтра яблык прынясу.*

*Гудзе, як вулей, і мая хаціна.*
*Ужо і я нямала пражыла.*
*Плыве вунь памяць светлай*
*аблачынай,*
*Дзе мама зноў шчыруе, як пчала.*

## БЕЛАЕ ДЗІВА

*Пустэльня ў вёсцы, як пасля аблавы.*
*Гудзяць быльнёгам дзікія двары.*
*Як бела дзіва, дзед сядзіць на лаве.*
*Бы й не было чарнобыльскай пары.*

*— Які з мяне, скажы, перасяленец?*
*Ужо на хвойнік я гляджу дайно.*
*Старыя косці зона не праменіць, —*
*Гаворыць дзед. — Памерла вось сяло.*

*Да жорсткага ўжо раўнадушны*
*фону,*
*Ды й Гейгера лічыльніка няма.*
*Жытлу ён верны. Родзічам да скону,*
*Якіх па свеце скруха размяла.*

*— Вось бачыш: яшчэ грэюся*
*на сонцы,*
*Хоць і казалі: "У ім — жывая*
*смерць!*
*— Журуся, як жа там*
*аднавяскоўцы?*
*І іх душа па мне будзе балець.*

*Дзічэю тут я не ад радыяцыі —*
*Размова між дварамі не цячэ.*
*Вунь дзяцел штосьць выстуквае*
*па рацыі —*
*Стараецца, каб мне было лягчэй.*

*Сігналіць, мо, што вернуцца*
*вяскоўцы.*
*Дайно пара... Зусім я занямог.*
*Знасіліся жыцця майго красёнцы.*
*Дагледзяць, мо. Сялібы ж іх збярог.*

---

*Яго сам Гасподзь падказаў так*
*назваць.*

*Грымелі навокал крывавыя бітвы,*
*Ды вораг не здолеў скарыць жыхароў.*
*Іх зброяй былі востры меч і малітва,*
*Любоў да зямлі сваіх продкаў, бацькоў.*

*Ты стаў для Айчыны надзейнай*
*заставай,*
*Не здаў, адстаяў баявы свой рубеж.*
*І сёння у новай, свабоднай дзяржаве*
*Ты годна працуеш і годна жывеш.*

*Блакітным ільном расквітнелі нябёсы,*
*Масты над Дняпром, як арэлі, вісяць.*
*Гудкі цягнікоў, нібы хор шматгалосы,*
*Па ўсіх наваколлях аршанскіх звіняць.*

*Удзячная памяць твая захавала*
*Імёны герояў, каб нас акрыляць.*
*На кручах Дняпра Караткевіч, Купала*
*На край мой любімы з надзеяй глядзяць.*

*Я лёсам агульным з'яднаны з табою,*
*Такі старажытны і ўсё ж малады.*
*Цябе замаўляю малітвай святою:*
*Расці, прыгажэй і не ведай бяды!*

**ПРОЗА**

# ДЗВЕ НАВЕЛЫ

**Георгій МАРЧУК**



## СВЯТА ПАЧУЦЦЯЎ

О, чулая, уважлівая мая Урсула, ужо які раз ты просіш расказаць словамі пра пачуцці, якія абуджае ў душы каханне? І які раз я намагаюся адказаць на тваё такое простае і такое складанае пытанне і разгубленасць агортвае ад немажлівасці выказаць нешта новае, сваё, таму што пачуцці гэтыя добра знаёмыя амаль усім і ў той жа час таямнічыя, таму што для кожнага яны -- крыніца прасвятлення, перавыбаслення, якое мае свой сэнс. Робішся нясмелым і збянтэжаным, нібыта перад спробай асэнсаваць стыхіі прыроды: агню, вады, неба. Выказаць іх сутнасць амаль немагчыма. Каханне нараджае не толькі ўчынкі, але і словы. Аднак, нават калі ўжываеш усе магчымыя воклічы і ўзнёслыя словы, не пакідае адчуванне нявыказанасці.

О, любая мая Урсула, лілея, ландыш, ружа на снезе. Згадваючы пачуцці пражытага ў каханні дня, ахопліваюць душу хваляванне, пяшчота і сум па тым, што мінула, што прагльнуў час, адзіны і сур'ёзны вораг кахання. Бо ўсё астатняе альбо правільна зразумеюць, альбо даруюць, альбо пакпяць лёгка-іранічна. Радасць, азарэнне, пяшчота, спакой, упэўненасць, сентыментальнасць, натхненне, асалода, цуд жыцця. Да чагосьці прыдатны адзіны эпітэт, адно параўнанне. Каханне ж лёгка і свабодна ўбірае ўсе эпітэты і параўнанні свету і космасу. Першае прызначэнне чалавека -- кахаць і быць каханым. Часам вымавіш адно трапнае параўнанне, але і тады не пакідае ўпэўненасць, што гэтага недастаткова, замала, каб выказаць усю паўнату пачуццяў. Без кахання няма шчасця. Зварот да стылю візантыйцаў мне дыктуе прадмет пісьма, прабач. На жаль, суровы час адвучыў нас звяртацца да жанчыны ўзнёсла.

О, мая ганарліва-лагодная як Волга, сціплая як Прыпяць, непрадказальная, як Гарынь Урсула! Якая ж гэта адмысловая задача -- выказаць на паперы песню душы! Пачуццё кахання кідае нам вочы на свет фарбаў і гукаў. У шуме дажджу чуюцца твае крокі, у ласкавых промнях сонца адчуваеш цяпло тваіх далоняў, у першых сняжынках на твары -- халадок тваіх вуснаў, у лістападзе -- пошум тваёй сукенкі, у водары кветак -- пах тваіх кос. Дапамажы мне, о непараўнальная Урсула, у гэтым жорсткім свеце кулака, кулі і грошай гутаркай з табой ачысціць душу ад ледзяной эгаізму і зайздрасці. Хачу гаварыць з табой пра ўсё. Таму што няма пустога і дробнага. Усё вакол істотна, усё цікава для закаханых душ. Ты ціхім голасам пытаеш: "А якое слова можа быць мацней за слова каханне? Ці ёсць такое слова ў людзей?" Сапраўды, што ж мацней? Бадай, адна смерць. Так, яна, праклятая. Але калі ўдумацца, дык і яна бяссільная. Паміраюць ад суму па каханай, якая рана пайшла, ходзяць на магілкі, плачуць і просяць пахаваць сябе побач. Не знаходжу нічога, што магло б параўнацца з гэтым дзівосным словам. Дыханне? Само жыццё? Але ж жыццё -- наступства і вынік кахання. У разлуцы мы не паміраем, жывём надзеяй на сустрэчу, якая заўсёды будзе новай, як заўсёды здзіўляе сваёй навізной новы дзень, у якога старыя атрыбуты: сонца, месяц, неба, дрэвы, машыны, людзі... Я губляюся ў здагадках: што напраўду нясе ў сабе такую ж магутную і жыццесцвярджальную сілу, як каханне? Паслухай усё: трывога, горыч, смутак, журба, сум, адчай, рэўнасць, замкнёнасць, неабачлівасць, маўклівасці ў той жа час захапленне, аптымізм, радасць, прага творчасці, міласэрнасць, усёдараванне, спагада да ўсяго жывога, неабходнасць рабіць дабро, чуласць, духоўнасць -- усё гэта народжана каханнем жанчыны і мужчыны. Сапраўды, і ў маланкі, і ў вясёлкі адна маці -- навальніца. Каханне нібы першы веснавы лісток, які распускаецца ў свой час, які б перашкоды не былі на яго шляху. Пра няшчасці і нягоды і думаць не хочацца. Новыя сілы мацуюць дух. Часам дотык да рукі каханай больш красамоўны, чым словы. О, мая добрая Урсула, папера чырванее ад сораму, чарніла блякнуць, рука дрыжыць, розум іранізуе над памкненнем сэрца выпісаць неапісальнае. Не, гэта няпраўда, што ў кроплі вады бачаць мора. Каб убачыць адчуць мора, трэба ў яго акунуцца. Няма сціплых пачуццяў. Каханне -- гэта шалёнства жадання, вулкан сумненняў, адначасовае цвіценне ўсіх садоў на планеце. Гэта стан душы і цела, калі нават мільёна пацалункаў не хапае, каб наталіць прагу, народжаную пачуццём. О, мая загадкавая Урсула, бадай, толькі адзінае слова мацней за слова каханне, і слова гэта -- Бог, у якім мы, грэшныя шукаем абарону і надзею на ўратаванне ад нашай часовасці на зямлі. Да болю крыўдна, што і каханне мусіць памерці, і, відаць, памірае разам з намі. Найперш чысціня кахання грунтуецца на адказнасці адно за аднога перад Усявышнім. Бог ёсць пачатак, ад якога бярэ выток самае моцнае, самае дзівоснае, самае пяшчотнае, самае вечнае слова -- каханне. На пытанне, як ставіцца да дрэва, якое першым скінула лісце, -- спачуваць, таму што яно хутка звяла, альбо радавацца, бо яно загадзя падрыхтавалася да зімы -- душа, што поўніцца каханнем адкажа: у сухмень дрэва трэба паліць, а ў холад -- захутаць. Шкадуй усё і ўсіх. Хто не здаў пачуцця кахання, "аслеплены дробязямі". О, увасабленне маіх патаемных фантазій, гармонія духоўнага і цялеснага! Ведай, ад паўторнай ласкі, мілых сэрцу слоў прызнання -- каханне не старэе. О, мая Урсула, пачуццё кахання -- гэта безабаронасць матыля і сіла львіцы. Каханне адкрывае нам адзінства, веліч і мудрасць прыроды, робіць нас дабрэйшымі і мудрэйшымі, таму што мы пачынаем цаніць кожны пражыты дзень. О, крыніца мая пашанотная, Урсула. Я пісаў табе гэты ліст доўга, вельмі доўга, усё жыццё... сілы мае вычарпаны, але ж я ўсё адно кожны дзень адкрываю новыя і новыя таямніцы заўсёднага краявіду перад маім вакном. Мне багата гадоў, можа сто... але гэта не мае значэння. Нехта абавязкова прыйдзе да мяне, бо святая душа, яна ж жыве ў людзях, яна вечная, як само каханне, што нарадзіла яе. Нехта прыйдзе і я перадам канверт, які пакіну незапячатаным, і не таму, што не маю сіл, а для таго, каб і чалавек, які панясе табе ліст, прачытаў яго. Каханне сарамлівае, але не да такой ступені, каб яго хаваць. Закаханым шкада нават зорак, бо яны так далёка адна ад адной. Як жа не радавацца, не дзякаваць лёсу за тое, што ён паслаў нам неацэнны дар кахаць, і што гэты дар, і толькі ён, ахоўвае нас ад бессэнсоўнасці і гібення на зямлі. О, каханне маё, Урсула!

## РЭЎНАСЦЬ

О, строгая і ўраўнаважаная мая Урсула! Гэта толькі на першы погляд здаецца, што пісаць пра рэўнасць лягчэй, як распавесці пра каханне. І гэта пры тым, што рэўнасць -- дачка кахання, але дачка непаслухмяная, рэзкая, шчырая, капрызлівая, з норавам, нават небяспечная ў сваёй непрадказальнасці. Гэта знешнія праявы, а сутнасць трэба шукаць у глыбіні сэрца, якое заўсёды ў сумненнях. Раўнівы чалавек больш за астатніх ранімы, слабы, пануры. Цяжкія думкі аб блізкай страце "неацэннага сябра" не пакідаюць яго ні на імгненне. Думкі гнятуць хворую падазронасцю душу. Падазронасць гэта ўзнікае выключна ад пачуцця немажлівасці сузіраць, а можа, нават і кантраляваць усю свабоду любімага чалавека. О, мая свабодалюбівая, тэмпераментная Урсула! Філасофію рэўнасці рэгулярна жывіць глабальнае ўяўленне аб зменлівасці жанчыны наогул, што расплыпося па ўсім няўстойлівым у марапьным плане свеце. Дапамажы мне супакоіць душу, Урсула, дапамажы! Ты разумееш, што бессэнсоўна кантраляваць цы трымаць у аброці волю не толькі каханага чалавека, але і чалавека ўвогуле. Нават свецкія і рэлігійныя законы не могуць з гэтым саўладаць. Спакусы, спакусы інфіцыруюць слабую прыроду чалавека. Кажуць, калі пасля ложка кахання, цёплых пацапункаў, гарачай страсці жанчына прыхарошваецца, асабліва старанна падмалёўвае кідкай памадай губы, падводзіць тушшу вочы, дык робіць гэта яна не для цябе, а для другіх. Каханне ахвярнае, рэўнасць -- ніколі. І гэта непакоіць душу палка закаханага. Здаецца, калі каханне ўсеахдымнае, дык і жанчына мусіць належыць яму ўся, усюды і заўсёды. О, як пакутліва разумець, што гэта немажліва. Твой цікаўны позірк, кінуты мімаходзь маладому прыгожаму чужому мужчыне ў трапейбусе, метро, тэатры, у натоўпе на вуліцы хавае небяспеку спакусы. Раўнівец не прызнае кагосьці лепшым за сябе. Падазронасць, расшыфроўка, спроба здагадацца пра патаемныя думкі каханай жанчыны паглынаюць каханне, атручваюць яго і ўжо не каханне, а рэўнасць кіруе ўчынкамі. І калі тэлефон каханай заняты дзесяць-пятнаццаць хвілін, хочацца кінуць трубку і бегчы да яе са строгім пытаннем: "Хто званіў?" І нават калі з мяккай усмешкай адказвае: "Гавэнды гавэндзіла з сяброўкай", -- няма супакою. Асабліва цяжка гартаць старонкі мінулага жыцця каханай. І нават трактавальнае: "Усё ў мінулым. Цябе, міпы, у той час і ў тым горадзе не было побач", -- не ратуе.

О, мая лёгкаранімая, ласкавая Урсула! Мне цяжка ўявіць побач з табой чужыя губы, чужыя рукі, чужы погляд. Рэўнасць не точыць сэрца, яна імпульсіўна, рыўкамі адрывае ад яго кавалачкі. Рэўнасць у наш буржуазна-базарны час камп'ютэрнага буму выступае пасрэднікам паміж каханнем і нянавісцю. Таму і распаўсюджана меркаванне, што яна асляпляе і даводзіць да дурноты. Яна не ўмацоўвае каханне, яна павышае градус кахання і часта тэмпературу зашкаліваe, як пры цяжкай хваробе. О, мая чулая Урсула! Рэўнасць ідзе ад розуму, а не ад сэрца. Пастаяннае параўнанне з іншымі атупляе. Няўжо нехта лепшы, лепшы, лепшы? Рэўнасць ахалоджвае запал і прыўносіць у пачуцці сканцэнтраванасці аналіз учынкаў. Ад пастаяннага аналізу, здагадак, фантазій пачуцці касцянеюць у рацыяналізме і абрываецца сладастрасны палёт у вольнай прасторы, як кажуць касманаўты, у невядомасці. О, мая ўраўнаважаная Урсула! Рэўнасць намагаецца ўвесь час вырваць пачуцці з вольнага лунання і апусціць іх у грубую рэальнасць побытавых адносін, у кола сям'і, работы, сяброў, якія аўтаматычна робяцца сапернікамі. Я ведаю, ты не любіш гэтае слова -- рэўнасць. Але ж, на жаль, ад гэтага яно не знікае. Гэта агонь, ля якога часам саграваюцца пачуцці, але гэты ж агонь можа іх і спапяліць. Рэўнасць не ведае правілаў прыстойнасці, законаў гонару. Яна прымушае мужчыну патаемна распячатваць кожны ліст, адрасаваны каханай, высочваць яе, разумеючы, што гэта гідка, зневажальна. Але ж, на жаль, на жаль, на жаль... Некаторым нават падабаецца мучыцца ад рэўнасці. Ім здаецца, што так яны пазбаўляюцца комплексаў. Лечаць рэўнасць ласкаю, клопатам, словамі пяшчоты, праўдай. І хоць рэўнасць пануе над сілай волі, падпарадкоўвае яе сабе, у праўдзе, даверы, веры, у шчырасці пачуццяў яна растае, як соль у вадзе і губляе сваю агрэсіўнасць. Каханню ўласцівы лёгкасць, гумар, усмешка, гульня, дасціпнасць, жарты, рэўнасць жа заўсёды насцярожаная, засяроджаная, сур'ёзная і фундаментальная. Няма цяжэй ношы для закаханай душы. Як рэўнасць. Але ж без яе знікае нерв кахання і ад гэтай страты пачуцці пераходзяць да аднастайнасці і атупення. О, як цяжка, Урсула, чалавеку з буйнай фантазіяй, дастатковай для ўнушэння трацілу падазронасці, раўнаваць. Рэўнасць не штурхае да пагібельных учынкаў, да іх штурхае здрада. Хіба ж можна абвінавачваць у саўдзеле. Рэўнасць не стварае кахання, не мацуе яго, не цэментуе, яна, о мая капрызлівая Урсула, ахоўвае каханне. Яна падобна на званочак над дзвярыма ў старых аптэках, які рэгулярна нагадвае: "Асцярожна. Побач з вашым пачуццём з'явіўся нехта трэці. Увага!" Не сумуй і не асуджай за хваробу такую -- рэўнасць. Не кажы мне пра мінулае. Яго нельга вярнуць, нельга змяніць. Сапраўднае і каштоўнае толькі сёння, мінулае хіба што перасцерагае нас ад памылак. І самае дзіўнае: няма беспадстаўнай рэўнасці на пустым месцы. У яе заўсёды знойдзецца падстава і дай Божа, каб падстава заўжды і ў мужчыны, і ў жанчыны была памылковай. Ты пытаеш, ці асуджаць чалавека раўнівага, караць яго, абвінавачваць у эгаізме, абурацца, дакараць? Ні тое, ні другое. Кожнаму чалавеку трэба павага, спачуванне, разуменне. А раўніваму тым больш. Мудрыя гаварылі: "Пакуль дыхаю -- жыву". О, мая вяргіня восеньская, Урсула, пакуль раўнуем -- мы кахаем. Не ведаю, ці вядзе рэўнасць да ўзлётаў, хутчэй да падзення. Раўнівага не праклінаюць, як і не бласлаўляюць. Ён адначасова і святы, і грэшны.

# «ТРАДЫЦЫЯ» АДЗНАЧЫЛА ЮБІЛЕЙ

Свой юбілей Светлагорская карцінная галерэя "Традыцыя" імя Германа Пранішнікава адзначала 19 верасня — менавіта ў той дзень, калі 10 гадоў таму ўпершыню гасцінна адчыніла дзверы перад наведвальнікамі. Выдатна пастараліся працаўнікі мясцовага домабудаўнічага камбіната, каб паспець не толькі адрамантаваць існуючыя памяшканні, але і ўдвая павялічыць экспазіцыйную плошчу галерэі. Усе чатыры залы на гэты раз былі аддадзены творам, якія знаходзяцца ва ўласным фондзе "Традыцыі". А гэта цяпер (пасля юбілейных падарункаў) 150 карцін розных жанраў выяўленчага мастацтва. Выставу ўпрыгожылі творы народных мастакоў Беларусі Гаўрыіла Вашчанкі, Леаніда Шчамялёва, Васіля Шарангові ча, заслужанага дзеяча мастацтваў, лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі Беларусі Анатоля Бараноўскага, Валерыя Славука, Мікалая Казакевіча, а таксама Уладзіміра Савіча, Нінэль Шчаснай, Мікалая Селешчука, Дзмітрыя Алейніка, Уладзіміра Зінкевіча, Уладзіміра Басалыгі, Віктара Альшэўскага, Уладзіміра Сулкоўскага, акадэміка Расійскай Акадэміі мастацтваў Уладзіміра Ветрагонскага і іншых. Дарэчы, многія з гэтых мастакоў прыехалі ў Светлагорск, каб



асабіста засведчыць удзячнасць і пашану нашай галерэі. Сярод ганаровых гасцей былі заснавальнікі карціннай галерэі старшыня Гомельскага аблвыканкама А. Якабсон, начальнік Галоўнага ўпраўлення Нацбанка РБ па Гомельскай вобласці С. Панкавец. З прывітаннем да прысутных звярнуўся памочнік прэзідэнта З. Ломаць. Загадчык кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва БелАМ, наш зямляк Уладзімір Зінкевіч зачытаў пісьмовае пасланне намесніка міністра культуры В. Гедройца, які, дарэчы, неаднойчы наведваў галерэю.

Шмат узнёслых, прыемных слоў пачулі светлагорцы ад старшыні Беларускага Саюза мастакоў Уладзіміра Басалыгі, Нінэль Шчаснай, Віталія Герасімава, Анатоля Отчыка і іншых. Віталі нас і замежныя госці: кіраўнік выканаўчай улады англійскай акругі Мэндзіп Грэм Джэфс, кіраўнік партнёрскіх сувязяў з Хельмштадта (Германія) Юрген Эгештайн. Ад імя абласнога ўпраўлення культуры да прысутных звярнулася Лілія Буланава.

Прыемным сюрпрызам стаў таксама каляровы буклет з рэпрадукцыямі твораў, што знаходзяцца ў мастацкім фондзе галерэі. Пабачылі ўдзельнікі ўрачыстасці і багата ілюстраваную фотаздымкамі брашуру "Вернасць традыцыям", прымеркаваную да юбілею. Упрыгожыў свята аркестр народных інструментаў "Сувенір".

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ,**
**дырэктар карціннай галерэі "Традыцыя" імя Германа Пранішнікава**

*НА ЗДЫМКУ: У. ЗІНКЕВІЧ і У. БАСАЛЫГА перадаюць галерэі падарунак ад А. БАРАНОЎСКАГА.*
**Фота В. СТРЫБУКА**



***Колішнія вучні, калегі, вядомыя музыканты віншавалі Маргарыту Сяргееўну МІНЯНКОВУ. Выдатны, ужо, можна сказаць, легендарны педагог, глыбокая знаўца і бліскучая выкладчыца сальфеджыо, гармоніі, іншых музычна-тэарэтычных прадметаў, яна адзначала сваё 80. На юбілейнай вечарыне ў Рэспубліканскім каледжы пры Беларускай акадэміі музыкі было людна і святочна: кветкі, прамовы, канцэртныя нумары, падрыхтаваныя былымі выхаванцамі М. Мінянковай...***

***Выступалі кампазітары І. Лучанок, В. Шлеянкоў, музыказнаўцы Р. Аладава, Н. Сцяпанская, Т. Шчарбакова, царкоўны хор пад кіраўніцтвам І. Дзянісавай, Камерны аркестр каледжа з маэстра У. Перліным, інструментальны дуэт Я. Асновіча ды Б. Спектара, іншыя ўдзельнікі ўрачыстасці.***

***У прафесійным асяроддзі добра ведаюць М. Мінянкову як спецыяліста, Настаўніка, Асобу. Але мала хто чуў яе ўспаміны пра тыя далёкія гады, калі пачынала яна свой шлях у музыку...***



# ПРАЗ ЛЮБОЎ ДА МУЗЫКІ...

**— Маргарыта Сяргееўна, у тыя далёкія гады вы жылі ў мястэчку Парычы, што на Магілёўшчыне. Бацька ваш быў галоўным ветэрынарным урачом раёна, маці — настаўніцай, выкладала рускую мову, літаратуру, нямецкую мову. Вы, я ведаю, вучыліся ў беларускай школе...**

—...І калі я была ў 4-м класе, мама сказала: "Будзеш вучыцца музыцы: да нас прыязджае піяніст". На той час ніякай музычнай інфармацыі не было, апроч спеваў у школе, — нават радыё. І вось з'явіўся старэнькі дзядзечка, маці мяне яму прадставіла, і пачаліся мае заняткі на фартэпіяна.

Прыходзіла я дадому зарумзаная, маці трывожылася: "Можа, ён цябе б'е?" "Не, мамачка, гэта я праз любоў да музыкі", — казала. Урок музыкі доўжыўся 2 гадзіны. Адну гадзіну займала маё навучанне. Другую — настаўнік іграў для мяне Моцарта, бо разумеў, што мне патрэбна музычная інфармацыя — я ж была, як белы аркуш паперы. Я слухала з асалодай, потым ішла, расчуленая, і плакала ад захаплення.

Поспехі рабіла вялікія, ды практыкавацца дома не было на чым. Таму ўрок быў яшчэ і практыкаваннем. Аднак праз тры месяцы Уладзімір Аляксандравіч Бельдзюкевіч — так зваўся настаўнік — паехаў да сваёй дачкі ў Бабруйск. Для мяне гэта было першае гора.

Бацька, як таго вымагала праца, раз'язджаў па раёне і аднойчы ўбачыў у калгаснай стайні... раяль. Праўда, гэта была проста каробка, без ножак, з садранымі клавішамі, без струн, без малаточкаў і дэмпфераў. Бацька папрасіў "раяль" прадаць, і калгаснікі рагаталі: "Нашто доктару гэты яшчык?"

Так у нас з'явіўся раяль. Вялізны, канцэртны, карычневага колеру. Калі яго прывезлі і адкрылі вечка, дык убачылі надпіс вялікімі залатымі літарамі: "Пушчын". Мама здзівілася: мауляў, прычым тут Пушчын? Калі б так называлася фірма, дык яе пазначылі б спераду, а тут — знутры на вечку. Толькі пасля вайны нехта Мігай са Светлагорска даслаў нам ліст, дзе паведаміў пра вынік сваіх краязнаўчых пошукаў.

Аказваецца, у Парычах быў маёнтак Пушчыных. Іх было два браты-дзекабрысты. Старэйшага саслалі ў Сібір, малодшага, сарваўшы пагоны, адправілі на Каўказ, на вайну. Пасля смерці цара абодвух рэабілітавалі. Старэйшы стаў у Бабруйску камендантам крэпасці, малодшы атабарыўся ў маёнтку ў Парычах. Жонка яго нібыта звярнулася да Цютчава ды Бацюшкава з просьбай падтрымаць яе намаганні, дадаўшы сродкаў на будаўніцтва школы. З'явіліся ў Парычах вялізная школа, сад, царква. Гэту школу заканчвала і я. На той час палова яе была беларуская, палова — яўрэйская. А раяль, на якім іграла жонка Пушчына ды іх знатныя госці, апынуўся ў нас, даў мне пуцёўку ў музычнае жыццё. Пушчынскі раяль, можна сказаць, і ваяваў: на ім я грала для партызанаў, пад яго гукі, пад пахавальны марш Шапэна, мы развітваліся з памерлым байцом...

**—Аднак пушчынскі раяль трапіў да вас у непрыдатным стане...**

— Бацькі выпісалі з Глуска нейкага майстра. Тры месяцы ён жыў у нас і давёў інструмент ла ладу. Упершыню сеўшы за свой раяль, я пачала адным пальцам найграваць вядомую мяшчанскую песеньку "Ах, ты, маленькая Нэлі" — і зведала такое ўзрушэнне! Затым узяла гукі соль, сі, рэ, фа — і гэта быў цуд, шчасце: я "пабудавала" вядомы музыкантам дамінантсептакорд! Неўзабаве падбірала ўжо ды грала дзвюма рукамі ўсе песні ды танцы, якія былі на слыху.

Урэшце мама павезла мяне ў Мінск — праверыць музычныя дадзеныя. На вуліцы Кірава месціліся музычны тэхнікум і кансерваторыя. Зайшлі ў нейкі будынак, убачылі маладога чалавека, якому маці патлумачыла мэту нашага візіту. Ён прывёў нас у пакой з інструментам, папрасіў што-небудзь сыграць. Я сыграла паланез Агінскага. І пачула прысуд: "Устань! Які дурань параіў табе вучыцца, у цябе няправільная пастаноўка рук! І калі так будзеш іграць, табе кісці трэба адсекчы. Навошта табе музыка, паступай на курсы рахункаводаў, будзеш працаваць у калгасе або акушэркай у бальніцы..." Мама толькі й сказала: "Дзякуй". Вярнуліся да знаёмых, у якіх спыніліся. Са мной здарылася істэрыка, я плакала і хацела выкінуцца з балкона на трэцім паверсе. Маці мяне адлупцавала ручнікам, угаварыла: "Будзеш ты ў мяне настаўніцай хіміі". І — паехалі дадому.

У школе я выдатніца была, а тут замаркоцілася, перастала вучыцца. Зімой здарылася непрыемнасць з нагой — запаленне каленнай чашачкі, дактары былі ўстрывожаныя, давялося тры месяцы праседзець дома. Сумавала, прасілася да раяля. Мяне пераносілі, і ўладкаваўшы хворую нагу на зэдліку, я іграла. Песні, танцы. Пачала складаць і сваю музыку: "Шум мора" (якога ніколі не бачыла), "Дзіцячыя гады", раманс "Вязень", шмат чаго іншага.

Калі мы з татам прыехалі ў Бабруйск на рэнтген і пераканаліся, што нага мая ўжо ў парадку, ён прапанаваў зайсці ў музычную школу, бо не даваў веры: няўжо нязграба можа быць гэтак апантаная музыкай? Дырэктар школы, сабраўшы некалькі педагогаў, папрасіў мяне пайграць тое, што прыдумваю сама. Каля гадзіны слухалі мае п'есы, потым папрасілі паклікаць тату, перамовіліся з ім. Тата выйшаў акрылены, расчулены: "Дачушка, дачушка, зараз жа едзем у Мінск". Але на гэта не аказалася грошай, вярнуліся дадому.

Неўзабаве ў Парычы наведаўся Яфім Шыфрын, які быў родам адсюль. Ён музыказнаўца, выкладаў у Мінску, скончыўшы Маскоўскую кансерваторыю, гісторыка-тэарэтычны факультэт. Сястра Шыфрына вучылася ў Парычах у яўрэйскай школе, а мая мама займалася з ёй рускай мовай. Па яе просьбе ён правёў іспыт: іграць не прасіў, мяне паставіў у кут, сам сеў за раяль і больш за гадзіну "ганяў", правяраючы музычныя здольнасці... І паехалі мы ў Мінск.

Дырэктар спецыяльнай музычнай школы пры кансерваторыі, Герман, памеркаваўшы над сітуацыяй, параіў мне скончыць у Парычах сёмы клас і паступаць у Мінскі музычны тэхнікум на інструктарскае аддзяленне, куды прымалі без падрыхтоўкі. Так і адбылося.

Паступіўшы ў тэхнікум, я вырашыла затрымацца ў Мінску на некалькі дзён. Але ўначы ўбачыла сон: бацькава пахаванне. Прачнулася ў слязах, пачувала сябе гэтак блага, што неадкладна паехала дадому. На дарозе сустрэла маму — бледную, знясіленую. Паведаміла ёй пра сваё паступленне, убегла ў кватэру, а там — як падчас рамонту. Аказалася, тату арыштавалі як ворага народа. Быў 1937-мы год.... З кватэры нас выкінулі як сям'ю ворага, маці выгналі з працы; даць развод тату яна адмовілася, хаця ёй казалі гэта зрабіць. Мы нанялі кут пад жытло, а восенню я з'ехала ў Мінск.

Пры канцы года з падрыхтоўчага мяне перавялі на 2-гі курс, а пасля зімовай сесіі — на падрыхтоўчае аддзяленне кансерваторыі. Дагэтуль захавалася заліковая кніжка, дзе напісана, што пераведзена ў кансерваторыю з 2-га курса тэхнікума. Сальфеджыо і тэорыяй музыкі я займалася ў класе Шыфрына, а ў Аладава — па кампазіцыі.

Памятаю канцэрт нашага кампазітарскага аддзялення: Алоўнікаў, Абеліёвіч заканчвалі кансерваторыю, я была на першым курсе. Поспех акрыліў, да таго ж, мне далі сталінскую стыпендыю... А неўзабаве пачалася вайна.

Я пайшла ў вёску да маці. Там галадалі. Працы — ніякай, ніякіх сродкаў на жыццё. Ад заходняй мяжы ішлі тысячы змардаваных байцоў, босых, згаладалых. Маці раздавала ім у кульках цукар, крупы, соль, лячыла хворых і параненых. Я была сувязной партызанскага атрада імя Суворава. Хадзіла ў

Мар'іну Горку, збірала звесткі, здабывала медыкаменты... Летам 42-га прыбыла група з мэтай аб'яднання ў брыгаду.Нараду камандзіры правялі ў нашым доме і пасля папрасілі мяне пайграць. Трэба было бачыць, як простыя песні — народныя, масавыя — кранапі душы байцоў. Барадатыя і безбародыя, абвешаныя гранатамі, зброяй, адны плакалі, другія ўсміхаліся, успаміналі. А потым у нашым доме быў шпіталь, і раяль таксама не маўчаў...

Давялося пасля аднаго з баёў перажыць 10 дзён блакады, і калі мы вярнуліся ў вёску, дык патрапілі на папялішча. Я ўбачыла, як суседка выцягвала з гарачага вуголля струны ад майго раяля, каб аплятаць посуд...

**— Як вы вярнуліся да музыкі пасля вайны!**

— Давялося спачатку паляжаць у шпіталі: адняліся ногі. Маці была параненая... У 1946-м я прадоўжыла вучыцца на другім курсе кансерваторыі, але 5 гадоў хадзіла на мыліцах. Далі Сталінскую стыпендыю. У 50-м я скончыла кансерваторыю як тэарэтык. Займацца кампазіцыяй у мяне не было ніякіх магчымасцяў. Нават свайго жытла не мела... Пасля кансерваторыі папрацавала на радыё — там быў Музычны радыёклуб школьніка пад кіраўніцтвам Жыновіча. Дырэктар школы пры кансерваторыі, ужо знаёмы Герман, мяне прыняў на працу ў 1947-м годзе, і выкладала я тут да выхаду на пенсію. Працавала таксама ў кансерваторыі на кафедры тэорыі музыкі, вяла гармонію, сальфеджыо.

**—Вучняў было шмат, але многіх, я ведаю, вы памятаеце і дагэтуль.**

—Першы мой вучань, тэарэтык, — Дзіма Смольскі, цяпер прафесар, знаны кампазітар. Мне было цікава з ім займацца, падрыхтавала яго да бліскучага паступлення ў кансерваторыю... Калі мая мама працавала ў сельгастэхнікуме ў Мар'інай Горцы, я кожны тыдзень наведвалася туды, бо мела маленькага сына. Аднойчы там да мяне звярнуўся чалавек з хлопчыкам гадоў дзесяці. Хлопчык граў на цымбалах. Я паслухала, адзначыла, што ён здольны, трэба прывесці да нас у школу. Гэта быў Ігар Лучанок, які таксама ў мяне вучыўся.

**— Сярод вашых выхаванцаў ёсць і такія вядомыя кампазітары, як Сяргей Картэс, Уладзімір Дарохін, Віктар Капыцько, Васіль Кандрасюк. І многія музыказнаўцы. Яны вучыліся ў вас як будучыя калегі. Але ж былі і музыканты іншых спецыяльнасцяў, для якіх тэорыя музыкі, гармонія, сальфеджыо — не асноўная прафесія...**

— Нейкі час у мяне была падрыхтоўчая група вакалістаў. Цікавы памятаю выпадак. Ірына Шыкунова, цяпер прафесар, народная артыстка, а тады, можна сказаць, пачатковец, праз месяц заняткаў падышла да мяне заклапочаная. Хачу, кажа, пагаварыць з вамі па сакрэце. І пытаецца: "Што мне рабіць? Я гатова вучыць фізіку, хімію, трыганаметрыю, але... Як бы гэта мне ноты не вучыць?" Ёй цяжка давалася навучанне нотнай грамаце. Ірына была адораная ў музычным сэнсе, вельмі эмацыянальная, чулая. І як было далучыць яе да рэальнай музыкі, "праходзячы" толькі тэорыю? Тады кажу: давайце з вамі паглядзім раманс Чайкоўскага "Я ли в поле да не травушка была". Пытаюся: "Вам падабаецца гэты раманс?" Ветліва адказвае: "Так, нішто сабе". Мы разам сыгралі, праспявалі. Я пачала разбіраць падрабязна мелодыю, гармонію, тэмп — усё ў сувязі са зместам. Сама захапілася. Раптам чую плач. Гляджу: "Ірачка, што з вамі?" А яна — ад захаплення: "Як жа Чайкоўскі гэтак пранікнуў у вобраз дзяўчыны, адчуў яе перажыванні, як добра ён усё перадаў, зрабіў!" Ніколі не забудуся на гэты выпадак...

**Гутарыў Аляксандр МІЛЬТО**



# КАБ ЗАГУЧАЛА СРЭБНАЯ СТРУНА



***Актрыса Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа, заслужаная артыстка Беларусі Таццяна ЛІХАЧОВА добра вядомая беларускай публіцы. Вядучая актрыса трупы творчых прастояў не ведала, яе здольнасць яскрава ўвасобіць моцны жаночы характар была запатрабавана самымі рознымі рэжысёрамі.***

***Эйке ў "Сваім востраве" Р. Каўгвера, Ганна ў "Сымоне-музыку" Коласа, Валянціна з "Летась ў Чулімску" А. Вампілава, Джульета з "Рамэа і Джульеты" Шэкспіра, Аня з "Вішнёвага саду" і Соня з "Дзядзькі Вані" Чэхава, Юлька з "Адпачынку пасля ранення" В. Кандрацьева, Марыя з "Непаразумення" А. Камю, Маша з "...Таму што люблю..." А. Паповай, Франя з "Пакахай мяне, салдацік" В. Быкава... Усе гэтыя вобразы многае аб'ядноўвала: максімалізм, немагчымасць займець хаўрус з уласным сумленнем, здольнасць узняцца над неспрыяльнасцю жыццёвых абставін і стаць, так бы мовіць, уладаркай свайго лёсу.***

***Зусім нядаўна Таццяна Уладзіміраўна адзначыла адразу два юбілеі — жыццёвы і творчы. Сваімі ўспамінамі, думкамі аб тэатры актрыса дзеліцца з тэатральным крытыкам і журналістам Юрасём ІВАНОЎСКІМ.***

**— Калі параўнаць два перыяды вашай творчасці — пачатковы і сталы, то што змянілася, маю на ўвазе ў і вашых калег-акцёраў, і рэжысуру, і гледача! Калі лягчэй, цікавей працавалася!**

— За 30 гадоў працы тут сапраўды вельмі многае змянілася. Перамены адбыліся і са мной, я маю на ўвазе свой светапогляд, адчуванне тэатра, публікі. Многія кажуць, што мяне ніхто асабліва не вучыў, але ў 19 год я прыйшла ў тэатр даволі падрыхтаванай. Перад тым займалася ў аматарскіх калектывах у Полацку і Наваполацку. (Не хачу казаць — у самадзейных, не люблю гэтага слова — імі кіравалі сапраўдныя прафесіяналы: Мікалай Манохін (у яго зараз свой тэатр у Мінску) і Барыс Лівін.) Двойчы паступала ў маскоўскія тэатральныя ВНУ. На другі раз трапіла ў ГІТІС, але там здарылася такая непрыемная гісторыя. Мяне прынялі, я ўжо была залічана, трэба было толькі дамовіцца наконт інтэрната. І раптам мне вяртаюць дакументы. Я сама, не па чутках, бачыла, як замест мяне ўзялі іншага чалавека. Для мяне гэта было вялікай драмай. А ў 1972 годзе я прыйшла са сваім "маскоўскім" рэпертуарам паступаць сюды, у дапаможны акцёрскі склад. Прагледала нас вялікая камісія, узялі толькі мяне адну, нават Дудараву адмовілі, параілі вучыцца.

**— Вы самі вырашылі паступаць у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут ці вас хтосьці падштурхнуў да гэтага!**

— Я хацела ізноў ехаць у Маскву, але Казіміроўскі, які на той час быў нашым галоўным рэжысёрам, адгаварыў. Маўляў, у Мінску набірае курс добры педагог — Аляксандр Бутакоў. А тут, у тэатры, якраз працавала цэлая плеяда яго выпускнікоў: і Куляшоў, і Бальчэўская, і Лабанок, і Дзягілева, і Левашова. Разам з Дударавым я паступіла на курс да Бутакова. Зноў вярнуўшыся ў тэатр, я заспела яго ўжо іншым.

**— Крытыка той перыяд, асабліва 80-я гады, ацэньвае як крызісны ў творчым жыцці тэатра. Вы згодныя з гэтым!**

— Пачынала ў тэатры, які лічыўся бытавым. Прыйшоў Валерый Мазынскі і захацеў яго прыўзняць над побытам, зрабіць больш паэтычным. Нарадзіліся "Званы Віцебска", "Сымон-музыка". Увогуле я адношуся да той катэгорыі акцёраў, якія раней называліся сінтэтычнымі, гэта значыць, здольнымі працаваць у розных стылях, напрамках. Ад аднастайнасці я стамляюся. Дык вось, Мазынскі спрабаваў шукаць сябе ў розных напрамках: пачынаў з паэтычнага тэатра, потым ізноў вярнуўся да традыцыйнага, псіхалагічна-побытавага. Спрабаваў браць п'есы і маладых драматургаў. Якраз тады толькі пачынаў раскручвацца Дудараў. У нас ішлі яго п'есы "Парог", "Радавыя", "І быў дзень...", "Вежа". Штосьці атрымлівалася, штосьці не, але мы працавалі з задавальненнем.

Калі на чале тэатра стаяў Казіміроўскі, зала была поўная. З прыходам Мазынскага пачало штосьці мяняцца. Спачатку глядач таксама актыўна ішоў у тэатр, а потым у зале сядзела 30 чалавек, аднойчы — 14, так што прыйшлося адмяняць спектакль. У тэатр перасталі хадзіць. Магчыма, людзей пачалі клапаціць іншыя праблемы. Асабіста я не магу растлумачыць пустую залу толькі нецікавымі пастаноўкамі. Штосьці парушылася ў навакольным жыцці. А на сцэну, падчас спектакляў, сталі ляцець медзякі. Пайшла ломка і грамадскага жыцця, і свядомасці людзей.

**— А можа, усё ж і тая адзіная эстэтыка, якой стаў прытрымлівацца Мазынскі, таксама сталася прычынай заняпаду!**

— Ён хацеў збудаваць свой тэатр, у адпаведнасці са сваім творчым мысленнем, светаадчуваннем, са сваімі акцёрамі. Мазынскі выцягваў, што яму бліжэй: мару аб паэтычнай Беларусі, духоўна акрыленых беларусах. Адсюль і "Сымон-музыка", і "Званы"... Напэўна, у яго не атрымалася. Па розных прычынах. У той жа час з'явіўся Валерый Маслюк. Ён браў пераважна бытавыя п'есы, але ў іх гучала срэбная струна, і гледачы іх успрымалі на "ах"!

Цікава працавалі з Генадзем Мушпертам: распуцінская Іо з "Такога дзіўнага кахання" — адна з самых любімых маіх роляў. Я была не згодна з рэжысёрам, часта спрачалася, а ў выніку рабіла тое, што ён хацеў убачыць. Кожны з тых рэжысёраў быў надзвычай цікавай асобай. Я іх разумела. Потым шмат акцёраў пайшло з жыцця, адбываліся змены — перабудовы. А ў мяне пачалі ўзнікаць пытанні: куды і навошта? І тут да нас зноў вярнуўся Маслюк, зусім іншы, ужо ў якасці галоўнага. Ён таксама хацеў збудаваць свой тэатр і таксама ў яго не атрымалася.

**— Гэта быў крызіс!**

— Так. Ён вельмі шмат перажываў. Думаў пра чалавека, краіну, зямлю і тэатр, што выклікала ў ім вялікі боль. Час загнаў Маслюка ў кут. Так бывае. Апошні яго спектакль па ўласнай п'есе, у якім я іграла, — "Пад сонцам". Магчыма, там і праўдзіва адлюстравана жыццё вёскі, паказана, як яна співаецца, але... Там ужо быў не боль, а хваравітасць нейкая. На апошняй рэпетыцыі мне стала блага. Не ад таго, што я такая ўражлівая. Спектакль выйшаў, я нават двойчы ў ім сыграла. І раптам адчула, што пачынаю захворваць. Давялося адмовіцца ад ролі, бо ўсё маё нутро было супраць.

**—А ў яго нявдзейсненай пастаноўцы "Хоба" вы бралі ўдзел!**

—Казалі, што ён хацеў мне даць ролю Жонкі. Але я на той час знаходзілася ў моцным унутраным канфлікце з ім. Я не была згодная з тым, што ён здаецца ў гэтым жыцці, не спрабуе трымацца, хоць у яго было дзеля чаго жыць.

Спачатку я разумела яго з аднаго слова, а потым перастала. Усім была бачна ягоная разгубленасць, стомленасць, ён не ведаў, куды і навошта ісці. Ад гэтага стаў пісаць вершы. А потым прыйшоў Баркоўскі...

**—І першы ж яго спектакль "...Таму што люблю..." па п'есе А. Паповай "Дзень карабля" якраз і быў пра тых людзей, што зламаліся. Парадокс. Ці не так!**

— У гэтым спектаклі — маё жыццё: у 60-я гады я вучылася ў школе, 70-я — інстытут, 90-я — гэта сённяшні дзень. Яна мне зразумелая, мая гераіня.

Зараз многа такіх людзей, што запозна разумеюць свае памылкі. Яны былі таленавітыя, здольныя, а жыццё, у якім трэба прабівацца, змагацца, іх зламала. А калі ты не здольны ісці ў нагу з часам, значыць, жыццё цябе затопча. Віталь Баркоўскі мне вельмі дапамог у рабоце над роллю. Я належу да тых акцёраў, якія слухаюць і паступова пранікаюць у вобраз, схопліваюць тое, што ім патрэбна. Гэта не значыць, што ва ўсіх спектаклях такое паразуменне бывае. Тады так атрымалася.

**— А можа, для тэатра і карысныя гэтыя рознастылёвыя, эстэтычныя пошукі!**

— За апошнія 10 год у нас назіраліся розныя хістанні то ў адзін, то ў другі бок. Для пачаткоўцаў, можа, і цікавыя такія перакіды. Калі ж у цябе немалы досвед, гэта раздражняе. Губляеш нешта істотнае і не разумееш, што адбываецца, да чаго вядуць. На маю думку, у спектаклях цяперашняга дня пераважае ілюстратыўнасць, знешняя вонкавая форма, за якой нічога няма. Увогуле, я люблю ісці ў нагу са сваім часам. Яго ж не выбіраюць, добры ён ці дрэнны, таму мяне заўсёды не пакідае жаданне схапіць тое лепшае, што ёсць у ім. Адсюль і мая любоў да моладзі, ад якой ідзе сілкаванне новымі ідэямі. Разам з тым, мне шкада, што той, ранейшы тэатр, не ўзновіш. Я яго пахавала (і ў прамым сэнсе таксама: большасць з тых акцёраў ужо ляжаць на могілках, яны засталіся ў XX стагоддзі, у другім жыцці — з іншымі адносінамі да тэатра, творчасці, адно да аднаго). Тое засталося ў гісторыі, памяці, а гэтае — зусім іншае, быццам бы я наноў нарадзілася.

**— Вы заўважылі, што падчас гутаркі мы ўвесь час збіваемся на праблемы рэжысуры! Вам не здаецца, што сёння ў тэатр ходзяць ужо не на акцёра глядзець, як у былыя часы, а на пастановачныя навацыі!**

— Мы многае губляем у тым, чым займаемся. Я разумею, што ёсць авангардны тэатр. Але сказаць, што яго прымаю, не магу. Гэта не маё. Напэўна, мне бліжэй псіхалагічны, паэтычны тэатр. Зараз наш галоўны рэжысёр ставіць адразу чатыры спектаклі. Думаю: а як жа ён засяроджваецца? Тэатр — гэта ж жывы арганізм. Ставіць адначасова чатыры спектаклі — гэта тое ж самае, што кахаць адразу чатырох жанчын. Ты кожную прылашчыш і ніводнай не аддасі сябе. Хочацца паверыць, зразумець — і не разумееш. "Прыгожа..." Ніхто не заклікае вярнуцца да старой школы, і ўсё ж... Штосьці знойдзена ў аднаго акцёра, штосьці ў другога, і ўсё не звязана. У тэксце напісана адно, на сцэне я бачу зусім іншае. "Як жа гэта будзе звязана?" — пытаюся. "А не ведаю, там будзе відаць". Гэта значыць, не будуецца вобраз. За каго зачапіцца? За якога Станіслаўскага, Чэхава? Мы ўсё ж знаходзімся ў Нацыянальным акадэмічным тэатры, які мусіць мець свой накірунак, сваё аблічча. У ім могуць ісці розныя спектаклі, але адзіная лінія павінна быць. Навошта ж з яго рабіць маладзёжны тэатр?.. Так атрымалася, што з нашага пакалення ў нас засталіся адзінкі і вельмі шмат моладзі. Нам прывівалі сцэнічную культуру ў інстытуце (і проста культуру, каму яе не хапала). А яны займаюцца ў акадэміі завочна (хоць я і не разумею, як можна вучыцца акцёрскаму майстэрству завочна). Абарвалася пераемнасць, сувязь пакаленняў. Іх ніхто па-сапраўднаму не вучыць, і таму моладзь можа папросту на сцэне рагатаць. А тое, што яны перашкаджаюць іншым акцёрам, у якіх ідзе выспяванне вобраза, яны не разумеюць. Бо з імі самімі нічога падобнага не адбываецца. Мне нядаўна Эрын сказаў: "Няма тэатра". Я запярэчыла: "Чаму ж няма? Ён ёсць, але такі, які ёсць на сённяшні дзень". Хочаш — прымай, не хочаш — не прымай...

*НА ЗДЫМКУ: заслужаная артыстка Беларусі Таццяна ЛІХАЧОВА.*

# Я ТОЛЬКІ ЯЕ ПАПЛЕЧНІК

Так сказаў мне спадар Юры Смірноў пра сваю жонку Ірэну Каляду-Смірнову. Але спачатку трохі гісторыі...

Пра амерыканку беларускага паходжання Ірэну Каляду "ЛіМ" ужо пісаў і чытачы добра ведаюць пра яе дабрачынны фонд "Этнічныя галасы Амерыкі", дзякуючы якому аздараўлілася ў лепшых еўрапейскіх краінах каля 7 тысяч беларускіх дзяцей, якія называюць яе "мама", пішуць ёй лісты, прысылаюць малюнкі і клічуць да сябе ў госці.

Гэта дзякуючы ёй свет пабачыла выданне Дастаеўскага ў перакладзе на беларускую мову. Гэта дзякуючы ёй на Беларусь прыйшло для малазабяспечаных сем'яў, дамоў сірот і патрабуючых дапамогі вясковых дзяцей каля 30 тон адзення!..

Але ж спачатку ўсё па парадку. У ЗША, недалёка ад Кліўленда, што ў штаце Агайо, пасля другой сусветнай вайны пабудавалі беларусы царкву ў імя Маці Божае Жыровіцкае. Там яны маліліся Богу, там рыхтавалі пачастункі на святы: на вяселлі, хрэсьбіны, нацыянальныя беларускія даты, там сумавалі на пахаваннях сваіх сяброў. Збіраліся даволі часта.

І вось на адной з такіх вечарын зялёнавокая прыгажуня Ірэна Каляда спявала для сваіх суродзічаў беларускія песні.

Апранутая ў беларускі нацыянальны касцюм, які сама вышывала па малюнках бабулі Вольгі і пад маміным кіраўніцтвам, Ірэнка выглядала як тоненькая беларуская бярозка, прыцягвала ўвагу ўсіх прысутных.

Голас яе гучаў прыгожа, чыста. Мелодыя лілася проста з дзявочага сэрца:

*Ды ўжо позненька,*
*Ужо не раненька*
*Сонца на заходзе.*
*Маладая Ганначка*
*Ды ўжо на выходзе...*

Старэйшыя ўспамінаюць сцішыўшыся маладосць, а маладыя дзяўчаткі з-пад ілба пераглядаюцца з маладымі хлопцамі... іншым разам чырванеюць...

А спадарыня Ірэнка працягвае спяваць...

*Я ўзяла мядні́чку.*
*Ды ў святлічку...*
*Беленька ўмылася*
*Сваёй матачцы*
*Сваёй родненькай*
*Нізка пакланілася...*

Усе разам паглядзелі на спадарыню Клаўдзію, маму Ірэны, якая так шмат рабіла, каб утрымаць беларускасць як у сям'і, так і сярод грамады. Сёння яна задаволена, плён яе намаганняўператвараецца ў моцны віхор апладысментаў для Ірэнкі. Побач пляскае ў далоні бабуля спявачкі — Вольга, якая ўпарта вучыла яе беларускай мове.

А Ірэна працягвала спяваць і нервова круціла галавой, бо не было таго, каго яна так чакала і для каго хацела спяваць. У голасе адчуўся жаль, вочкі зрабіліся сумнымі, але, узяўшы сябе ў рукі, яна працягвала чароўную беларускую песню:

*Дзякуй, мамачка,*
*Дзякуй, родная.*
*Ды за выхаванейка,*
*Дзякуй, мамачка,*
*Дзякуй родная,*
*Ды за гадаванейка...*

А пакуль уся зала глядзела на матулю Ірэнкі, другая матуля, Вольга, ціха звярталася да свайго сына Юркі: "Вось бы нам такую нявестку. І працавітая, і прыгожая, а спявае — аж у душы трымціць". Юрка ціха пасміхнуўся, крыху засаромеўся і — раптам! вочы іх сустрэліся — Ірэнкі і Юркі! Ірэнка ўспыхнула, як ружа і ўзрадавалася: "Ён, каго яна так чакала, прыйшоў! Ён у зале!" Яе сэрца калацілася ў такт апладысментаў і забыўшыся пра ўсё, яна паслала свайму школьнаму сябру Юрку Смірнову, маленькі знак увагі, махнуўшы сціснутым кулачком у ягоны бок. Так яна рабіла заўсёды пачынаючы з першага знаёмства ў сярэдняй школе.

Маці Юркі заўважыла гэта і ціха прамовіла "Дзякуй Богу" і аб нечым пачала шаптацца са сваім мужам айцом Міхаілам, настаяцелем царквы Сяргея Раданежскага...

А Ірэнка, павесялеўшы, ужо спявала новую песню. Твар яе гарэў, вочы блішчэлі, і голас гучаў упэўнена і чыста:

*Там каля млына*
*Цвіла каліна*
*Дзе ж тая дзяўчына,*
*Што мяне любіла?*
*Не так любіла*
*Як шанавала*
*Купіла коніка*
*І падаравала...*

Каля сцэны сабраўся натоўп. Моладзь пляскала ў далоні, выказваючы сваё захапленне. А амерыканцы, якія не ведалі беларускай мовы, таксама падаліся ўсеагульнаму захапленню залы і ва ўсю моц падпявалі па-свойму.

Усім было весела і радасна на душы. Беларускі дух апанаваў амерыканскае паветра.

А Ірэнка спявала:

*Узыйдзі, узыйдзі, ясны месячык*
*Найбольшае кола...*
*Ой, выйдзі, выйдзі, дзяўчынанька*
*Пагаворым слова...*

Сціхла зала. І кожны слухач успамінаў свае далёкія гады на роднай зямлі.

Вось і зараз успаміны ўзялі Юркіну душу і ён успомніў свой родны Кобрын, дзе нарадзіўся, дзе быў бацькоўскі дом, які пабудаваў ягоны бацька святар айцец Міхаіл...

Утульны, цёплы, светлы дом... Вось ягоная маці матушка Вольга гатуе вячэру... Пахне свежай бульбай, падсмажаным салам, агуркамі... Уся сям'я вячэрае... Ціхае вялікае сонца праз бярозавыя галіны пасылае ветлівыя прамені... Ніхто ніколі не думаў, што такое звычайнае жыццё хутка абарвецца...

Толькі пазней Юрка зразумее, што найвялікшае шчасце ў жыцці гэта — жыць на сваёй Радзіме, у сваёй хаце, са сваёй сям'ёю. Вячэраць разам. Маліцца Богу разам. Смяяцца разам.

Ніхто не мог нават уявіць, што хутка прыйдуць бальшавікі і парушаць усё: скончыцца штодзённы супакой і пачнуцца блуканні па пакутах...

У бацькоўскую хату прыйдзе жыць сям'я нквдзісты і забярэ тры вялікія пакоі, а ім пакінуць маленькі пакойчык, дзе гаспадар сваёй хаты будзе баяцца кожны дзень быць арыштаваным. Бо ён "поп", ягоны бацька "поп", ягоная жонка "папова дачка", ды яшчэ, барані Бог, граматная — скончыла Пінскую гімназію, а ейны брат таксама "поп"... А што горш усяго, бацька меў тытул Магістра Багаслоўя, бо скончыў Варшаўскі універсітэт. Нквдзісты агітавалі супраць Бога, але бацька трымаўся мужна. Памятаў словы Хрыста: "Хто ад Мяне зрачэцца на зямлі, ад таго Я зракуся на небе..."

І, на шчасце, нквдзісты трапілі больш-менш людскія: на вуліцу не выкінулі, а "ўярпелі "папоўскае гняздо"... А магло было горш...

— Гэта нас Бог ратуе, — ціха аднойчы сказаў бацька, благаслаўляючы ежу...

Юрка чамусьці ўспомніў нквдзіскага хлопчыка, з якім гуляў у дзіцячыя гульні... І яны не сварыліся, гулялі спакойна, цікава і добра па-сяброўску развіталіся...

...Раптоўна пачалася вайна. Юрка ўспомніў сумятоху, якая ўзнікла, калі прыйшлі немцы. У іхнюю хату ізноў прыйшлі жыць чужыя людзі — цяпер ужо немцы. Простыя салдаты паводзілі сябе таксама проста.

Бацька часта ездзіў на вёску да прыхаджанаў на пахавіны і ў кожнай сям'і айцец Міхаіл быў жаданы госць. Добрыя адносіны былі ў бацькі і з партызанамі. А калі немцы пачалі адступаць, то бацьку добрыя людзі папярэдзілі, што яго як "папа" возьмуць у штрафны батальён Чырвонай Арміі. А яшчэ ў вёсцы, непадалёку ад Кобрына забілі святара і таму сям'я Кобрынскага святара, айца Міхаіла мусіла хутка пакінуць родны кут і пачала вандроўку ў незнаёмы свет, хаваючыся ад атэістычных камісараў...

Пасля вайны былі спачатку ў польскім лагеры (бо Кобрын да вайны належаў да Польшчы), а потым пераехалі ў беларускі лагер. І ў гэтым лагеры айцец Міхаіл ізноў стаў святаром. Раптам з ЗША прыйшло пісьмо ад мамінага дзядзі, які прыехаў туды яшчэ да рэвалюцыі. Ён прыслаў запрашэнні і візы...

У Амерыцы Юрка апынуўся 15-гадовым хлапцом... Бацька падаў прашэнне і атрымаў пасаду святара ў Санкт-Пецярбургу, што ў штаце Фларыда ў царкве святога Андрэя Страцілата. А праз два гады пераехалі ў Кліўленд. Матушка Вольга таксама працавала, бо сям'я ўжо мела трое дзяцей: сястрычка нарадзілася ў Германіі, а брацік — у ЗША. Жылі даволі бедна і Юрка, скончыўшы сярэднюю школу, мусіў цяжка працаваць, каб зарабіць грошы на каледж. Паступіў у Дзяржаўны Універсітэт штата Агайо. Спачатку вывучаў геалогію, а потым зацікавіўся і замежнымі мовамі: расейскай і нямецкай, і, такім чынам, Юрка цяпер валодае 5-цю мовамі!!!

...Вось так і плыло жыццё перад вачыма Юры Смірнова, неяк адным дотыкам, нібы на адным подыху, пакуль гучаў голас прыгажуні Ірэнкі. Юрка то ўспамінаў матчыну калыханку:

*Ішоў бай па сцяне*
*У чырвоным каптане,*
*Нёс сямёра лапцей*
*І дзіцёнку па лапцёнку,*
*І жане, і сабе.*
*Баіць ці не?..*

То ўспамінаў, як пасля заканчэння універсітэта, каб дапамагчы неяк сям'і і зарабіць больш грошай пайшоў працаваць... інспектарам у сталёўню...

А Ірэнка спявала:

*Не шуміць, не гудзе,*
*Дробны дожджык ідзе.*
*А хто ж мяне, маладую,*
*Ды да дому давядзе?*

Сэрца ў Юркі забілася моцна-моцна: "Не адпушчу! – ціха паабяцаў ён сабе, — Давяду!"

І давёў! Вось ужо амаль сорак гадоў ідуць рука аб руку Юры Міхайлавіч Смірноў і ягоная жонка Ірэна Каляда-Смірнова. Маюць дачушку Наталлю. Сям'я працуе разам у арганізацыі "Этнічныя галасы Амерыкі", і вось ужо сем гадоў беларускія дзеці называюць спадарыню Ірэну сваёй "мамай", пішуць ёй лісты, прысылаюць малюнкі і фотаздымкі, прысвячаюць вершы.

Я спыталася спадара Смірнова, ці не бярэ яго зайздрасць, што працуюць яны разам, стараюцца разам, а вось пісьмы — дык ягонай жонцы, вершы — ягонай жонцы?!

Ён неяк сціпла і ласкава пасміхнуўся і адказаў мне:

— Яна ўсё гэта заснавала. Яна гаспадыня. Кіраўнічка. А я толькі паплечнік. Фінансіст. Мая работа — гэта хадзіць у банк, браць грошы, адпраўляць грошы, даглядаць за парадкам. Я развязваю ўсякія праблемы і дапамагаю Ірэне. Яна разумніца. Скончыла бізнес-каледж добра ведае, што робіць, моцная фінансістка. Старшыня фонду.

Пытаюся ў спадара Смірнова:

— Калі вы жаніліся, ці ведалі вы пра старажытны амаль тысячагадовы род сваёй будучай жонкі?

— Не. Не ведаў. Тады мы не мелі лучнасці з Беларуссю. Шмат пазней нам прыслалі звесткі пра знакаміты род Каляды, да якога мае гонар належаць і мая жонка...

— А калі яна такая знакамітая ды моцна занятая, дык відаць, абед вам даводзіцца варыць самому? — пытаюся я ў спадара Юры.

— Не-е-е-е, — засмяяўся ён, — Ірэна вельмі добрая гаспадыня, смачна гатуе, добра вядзе хатнюю гаспадарку, ну а прыбіраць хату я часам ёй дапамагаю, бо яна мае шмат працы каля камп'ютэра, вядзе вялікую перапіску і таму я бяру частку хатняй работы і на свае плечы... Я ж вам сказаў — я толькі паплечнік...

— А ці не цікавей было б быць паплечнікам опернай спявачкі? Кажуць Ірэнка брала ўрокі музыкі і вакалу ў знакамітых беларускіх кампазітараў Міколы Равенскага і Міколы Куліковіча, новаітальянскі маэстра Франчэзка Бантэмпа, у якога яна таксама вучылася, прарочыў ёй кар'еру опернай спявачкі, — пытаюся я ў Юрыя Смірнова.

Ён жа крыху падумаўшы, адказаў так:

— Ведаеце, Бог выбраў Ірэну для дапамогі тым, хто ў патрэбе. І яна вельмі аддана гэтай працы. А калі б яна была опернай спявачкай, то ёй прыйшлося б шмат часу, і клопату прысвячаць сабе самой, а таму воляй-няволяй менш увагі ўдзяляць тым бездапаможным і падчас нават безнадзейна хворым. Ну, вось, напрыклад: сёння яна паслала грошы на лячэнне ў Амерыцы Аляксандры Гушчы, дзяўчынкі, якая была апалена ў дзяцінстве і ўжо трэці раз прыязджае ў Амерыку. Яна адправіла 6 тысяч даляраў у Беларусь на лячэнне хлопчыка Уладзіміра, які хворы на рэдкую хваробу — гемафілію. Яна адправіла 12 груп дзяцей толькі ў Славенію: сёлета яна адправіла на Беларусь 30 тон адзення для малазабяспечаных сем'яў, дзяцей сірот, у дзіцячы дом у Кобрыне. І для тых, каму патрэбна вялікая падтрымка.

А калі б яна была опернай спявачкай, то... спектаклі, канцэрты, гастролі, рэпетыцыі... дзе ўзяць час?.. Хаця... з яе характарам... Яна б знайшла нейкіх бяздомных, альбо хворых катоў ці сабак, адным словам, яе душа ляцела б туды, дзе нехта плача...

Пытаюся ў спадарыні Ірэны:

— Вы вельмі занятая асоба, але ці знаходзіце крыху часу і для асабістага жыцця?



— А як жа! — бойка адказала гаспадыня. Я вельмі люблю свайго мужа. Я яго выбрала адзін раз і на ўсё жыццё. І не памылілася. І таму я стараюся апранацца, гатаваць стравы, выглядаць так, як яму падабаецца. Я гляджу ў ягоныя вочы і бачу адлюстраванне нашага першага спаткання яшчэ... у школе. Ён быў вельмі прыгожы хлапец. І таму я апраналася, спявала толькі для яго... Без яго маё жыццё было б не такім шчаслівым. І таму ўсё мы робім разам. Працуем разам. Плануем, кіруем, дапамагаем людзям разам. Нам сумна адзін без аднаго, хаця сварымся іншым разам, але хутка мірымся і потым смяемся...

Вось так і жыве ў Амерыцы сям'я Юрыя і Ірэны Смірновых.

Працуюць для беларускіх дзяцей, клапоцяцца, каб выдаць больш беларускіх кніжак, а вось зараз будуць спонсарамі дзіцячага хору з Брэста, і... знакамітай міс Свету, вясковай школьніцы з калгаса "Савецкая Беларусь" Сашанькі Шкурдоды, якая прыедзе ў ЗША ў кастрычніку, дзе сустракаць яе будзе сям'я Ірэны Каляды-Смірновай.

Давайце ўявім сабе, як калісьці спявала беларускія песні ў самым сэрцы Амерыкі Ірэнка Каляда, маленькая Сашанька Шкурдода падхопіць іх і заспявае ў самым сэрцы Каліфорніі, а потым... возьме за рукі сваіх спонсараў і павязе дамоў у самае сэрца Беларусі ў старажытны Кобрын, дзе правеў свае басаногае дзяцінства маленькі Юрка Смірноў... І пабачыць ён ужо не ў марах, не ў снах школку, дзе вучыўся, галоўную вуліцу, якую ніколі не забыўся, царкву, дзе маліўся Богу ягоны бацька святар айцец Міхаіл, магілкі, дзе пахаваны ягоныя продкі і пакладзе кветкі... Пройдзе па масточку, што ля царквы... Будзе ціха... Узыдзе зорка Венера. Пачуецца ціхі-ціхі голас Ірэны:

*Зорка Венера ўзышла*
*над зямлёю...*
*Ціхія згадкі з сабой прынясла...*

І Юрка павернецца да сваёй жонкі, паглядзіць на яе закаханым поглядам, прыцісне да свайго сэрца і будуць яны яшчэ доўга ціха стаяць і слухаць голас зямлі сваіх прашчураў...

А заўтра іх чакае самалёт, які панясе іх у ЗША, іх другую Радзіму, дзе іх сустрэне дачушка Наталля, сябры і паплечнікі, а галоўнае работа на карысць тых, хто чакае дапамогі...

**Вацлава ВЯРБОЎСКАЯ,**
**карэспандэнт "ЛіМа" у ЗША**
**Кліўленд, Агайо**

***Год таму назад літаратарская грамадскасць развіталася з адным са старэйшых беларускіх пісьменнікаў, Максімам Лужаніным. Яго лёс быў цесна сплецены з лёсам усяе айчыннай літаратуры, зведаў усе яе пакручастыя сцежкі. Пісьменнік да апошніх дзён працягваў ствараць, нястомна працаваў над словам. У творчай спадчыне Максіма Лужаніна застаўся рукапіс, самім аўтарам названы "Неспадрадкаваная хата". Гэтай кнізе яшчэ толькі прадстаіць пабачыць свет, і да таго ж, улічваючы сённяшнюю сітуацыю з выданнем беларускіх кніжак, гэты момант настане, магчыма, не хутка.***

***Зацемкі, якія сёння мы друкуем, менавіта з гэтага, апошняга, рукапісу.***

**Максім ЛУЖАНІН**

# НЕСПАРАДКАВАНАЯ ХАТА

Ноч.

У дамах насупраць амаль нідзе няма агню. Вось ужо стала цёмна і ў апошнім акне. Але, здалося, агеньчык не пагас, выпырхнуў з дома. І паляцеў некуды ў прастор, можа, на той бок зямлі, каб там уляцець у нейчае акно і загарэцца ў ім.

Гэта — першапачатковае ўражанне, з яго ўзнік верш "Акно". Напісаўся не так, далёка не ўсё перадалося. Шмат разоў перарабляў, і не на лепшае. Відаць, лепей і не напішу.

Не магу злавіць у слова і назіранне з 20-х гадоў, юнацкае. Па мосце на Савецкай ішла насустрач машына — рэдкая птушка тады ў горадзе! — з яркімі агнямі, высвятляючы дзве палосы вуліцы, ад тратуара да тратуара. У шырокія промені фар уляталі, кружыліся, знікалі вялікія, калматыя, адліжныя, перадвеснавыя сняжыны. Патыхала нейкімі чарамі, дзівосамі, звышнатуральным.

Так дасюль гэта ўсё і бачу. Хоць малявань вучыся.

•

Стары звоніць ва ўпраўленне дамамі. У трубцы сыты, павольны, здзеклівы голас:

— Запомніце раз і назаўсёды: домаўпраўленне гэтым не займаецца. Запомнілі?

Чалавек на хвіліну ніякавее і ціха гаворыць:

— Хто такі домаўпраў я запомніў, назаўсёды. Але чаму вы займаецеся дамамі? У дамах жывуць людзі. Дык ці нельга такіх, як вы, трымаць падалей ад іх жытла?

•

Чалавек вярнуўся з далёкіх краёў. Да жонкі, якая са слязамі разлучалася, праз дзень пісала: люблю, чакаю. А як пераступіў парог, сказала:

— Не крыўдуй, нікога ў мяне няма і не было. Але паміж намі адлегласць шырынёю дзесяць год. Усе думкі, пачуцці, настроі — за ёю. А на пісьме — ты блізкі. Калі ад'едзешся куды, буду зноў чакаць, лісты слаць.

Цяжка даць веры такому, але пасля вайны, калі вярнуўся мой знаёмы, жонка так і сказала яму.

Сама пераказвала.

•

Дзве жанчыны з прэтэнзіямі перацвіўшых вяргінь — колер ёсць, а пялёсткі падвялі, хоць гэта можна прыкмеціць вельмі зблізку. П'юць ваду з лячэбнай крыніцы, сталі воддаль ад штурханіны, каля сцяны. Гавораць без разліку на чые-небудзь вушы.

— Ведаеце, я расхварэлася зусім...

— І я, — ківае галавою другая.

— Прыехалі новыя, цікавыя мужчыны... А я кашляю. Доктар прапісаў адхарквальнае...

Спатыкнулася, забыла, што яшчэ прапісаў ёй доктар. Не ўспомніла і дадала па-звычайнаму:

— Каб адхарквалася і адпёрдвалася...

Чамусьці апошняе слова прагучала як медыцынскі тэрмін.

•

Расул Гамзатаў казаў на з'ездзе:

— Рэкі зліваюцца ў акіян, але ў акіяне ракі не пазнаеш, а я не хачу траціць дагестанскую папаху.

А Куляшоў найлепшым чынам пазнаў сваю Бесядзь у Атлантыцы.

•

У Рэнэ Клэра ("Хараство д'ябла") ёсць дыялог паміж Прынцам і Мефістофелем:

— Што вам трэба, каб рабіць золата?

— Трохі пяску, трохі генія. Дзе знаходзіцца геній, я ведаю, таму мне трэба толькі пяску.

Успомніў гэта, чытаючы шwыргучыя павучанні і размашыстыя ацэнкі маладога вершапісца ў рэцэнзіях і артыкулах. Дайце яму пяску, а геній ужо ў яго ў кішэні.

•

Вісіць пустая абалонка, паблісквае запыленым шклом, а гадзіннік памёр. Выйшла з яго жыццё, разам з гаспадарамі дома.

Няма.

•

Ён не існуе, ён па-за жыццём. Ён яшчэ не ведае, каму лізаць боты.

•

Чалавеку пашанцавала купіць чаравікі. З чырванаватага хрому, прыгожыя і вельмі моцныя: верх — зносу няма, дый падэшвы як жалезныя.

У іх добра ляжаць, не думаючы ні аб чым, апрача таго, што на кожнай назе зашрубованы іспанскі бот. Рухацца ў такіх чаравіках можна толькі на трамваі ці аўтобусе.

У кіно даводзіцца расшнуроўвацца.

•

Сам ты баран, і каўнер у цябе з авечкі бязмозглае.

•

Старыя людзі наказвалі: таму, хто заб'е гадзюку, даруецца сто грахоў. Шкада, не прадугледзелі кары для тых, што мінаюць гадаў не зачапіўшы. Вось і глядзі ўвесь час пад ногі, пільнуйся...

•

Адзін з тытанаў думкі, не хочацца называць прозвішча — ужо курганок над ім, — працуючы на радыё, папрасіў прачытаць верш для святочнай першамайскай перадачы. Тады якраз напісалася "Па-над светам вясна", пра нядаўні палёт Гагарына, роздум і адчуванні з гэтай прычыны.

Верш пахвалілі, запісалі і раніцай, ідучы на трыбуны, я праслухаў яго. Нішто, як быццам, але адна страфа некуды знікла:

*Я з Эйнштэйнам ніяк не магу*
*пагадзіцца,*
*Што ад хуткасці робіцца час*
*павальней.*

Засмуціўся — хоць бы папыталі! — а калі не паверылі, дык энцыклапедыю разгарнулі!

На плошчы перад Домам афіцэраў купіў "Праўду", разгарнуў — мой верш! Надрукаваны ў дзвюх месцы і, галоўнае, цалкам!

З газетай у руках адшукаў "тытана" з радыё:

— Бачыш? А вы мне верш пакалечылі? Дзе радкі пра Эйнштэйна?

—Разумееш, машыністка вінавата. Надрукавала замест "Энштэйна" "Эпштэйн". Ну, і падкарацілі. Выбачай, вядома.

Гаварыў і не чырванеў.

•

Вось Капыль. Свінарнік бачу,
*Чую музыку свінячу,*
*Тут, мне помніцца, й раней*
*Добрых шмат было свіней,*
*Жарабцы былі, паэты —*
*Пладавіты горад гэты.*

Крапіва! Майстар у самай сіле, кожнае слоўца іскрue, смех так і пырскае.

А вось ён — пачатковец:
*Нечага нам спадзявацца*
*Быць на тым свеце ў раі,*
*Сцягам чырвоныя яйцы*
*Мы замянілі сваі.*

Прыводжу не насмех ад двухсэнснасці прыпеўкі. Думаецца, метадам такога супрацьстаўлення павінна карыстацца і крытыка: вось прадукцыя 50-га, а вось 60-га года, пайшоў аўтар угору, ці пагубляў тое, што меў. А ў нас — агляд паэзіі года, ці паміж з'ездамі.

•

"Я сам быў удзельнік Барадзінскай бітвы і блізкі відавочца карцін, якія так недакладна намаляваў граф Талстой. Я, сведка Айчыннай вайны, каму давялося застацца жывым, без абражанага патрыятычнага пачуцця не мог дачытаць гэты раман".

Так гаварыў Аўраам Сяргеевіч Нораў, філолаг-арабіст, ардынарны член Акадэміі Навук, шмат падарожнічаў і папісаў кнігі пра гэта. Жыў з 1795 па 1869 год, значыць, бачыў Пушкіна, Някрасава, Шчадрына. Калі быў міністрам народнай асветы, у міністэрстве служыў гістарычны пісьменнік Г. Данілеўскі, ён і запісаў паданыя вышэй словы.

Выходзіць, непрыманне і неразуменне літаратуры ў міністраў — спадчыннае. А мы гадалі, адкуль гэта бярэцца ў аднаго небаракі.

•

Расказваў Дубоўка:

На пачатку 20-х гадоў да беларускай мовы ставіліся скептычна, нават у партыйных колах. На адным са сходаў гарадскога актыву ў Мінску тагачасны сакратар ЦК Асаткін-Уладзімірскі ўшчуваў камуністаў:

— Гаварыць па-беларуску не хочаце? А? Хто не хоча усе за Урал паедуць. Там сабе хоць салаўём спявай, а тут гавары, як народ гаворыць.

Гэта быў рускі чалавек. На жаль, за Урал паехалі не скептыкі.

Я. А. Адамовіч — старшыня СНК, і А. І. Крыніцкі — сакратар ЦК. Часта не маглі дайсці да згоды.

Сталін спытаў у Чарвякова:

— Каго з іх забраць ад вас?

Той адказаў не вагаючыся:

— Абодвух.

І да нас вярнуўся Кнорын, у СНК пайшоў Галадзед, а іх папярэднікі пераехалі ў Маскву.

Важкае слова было ў А. Р. Чарвякова.

•

Па ўсёй Случчыне вядомы былі музыкі, што гралі на вяселлях: скрыпка, барабан і труба. Звалі іх Спплендзяры, па прозвішчы скрыпача. А вось адкуль ён узяў сваё прозвішча — Сплендзер? Splendeur — па-французску значыць вялікае хараство, па-славянску — великолепие.

Музыкі гэта былі патомныя, з роду ў род перадавалі сваё тонкае майстэрства. Можа пахваліў некалі ігру свайго прыгоннага які пан, сказаў: Splendeur! А слоўца і прыстала, стала прозвішчам.

•

Калгасны хлопчык паказвае стрыечнаму брацiку, гарадскому госцю, парку галубоў: верфлі — прыгожыя, лётаюць куляючыся. Прыезджаму зайздросна, няма чым пахваліцца самому, і ён важна гаворыць:

— А нашы галубы ў Доме Ураду жывуць.

І не зманіў, і гонар падтрымаў.

•

Працу лёгка занядбаць, і смак да яе губляецца сам сабою, непрыкметна. Гэтымі днямі, мыючы рукі, адчуў: нечага як быццам не хапае. Агледзеў: на другім пальцы левай рукі знік дужаваты такі рубец, і навобмацак адчуваўся і быў добра значон на вока.

Зарабіў той пісаг — ой як даўно! — яшчэ студэнтам Белпедтэхнікума бывўшы. Падахвоціўся дапамагчы жаць ячмень сястры. Аксана не ўпраўлялася адна, а палоса перастойвала, асыпалася. Па абедзе пачала збірацца на поле, і маці, яшчэ не старая, але зусім нядужая, натупвалася да зморы каля печы і катухоў, а рабіць цяжка ёй было нельга, негля, як гаварылі ў нас.

Студэнціку стала брыдка абібочвацца ў халадку, лепячы няўмелыя радкі, узяў серп і пайшоў разам на поле.

Заняў пастаць поруч з маці, і раптам — ж-жык — і адхапіў з пальца кавалак скуры, павісла на трэцяй фаланзе.

Маці ўздыхнула, расцерла на далоні грудачку зямлі і прысыпала рану.

— Не трэ было браць цябе. Але нічога, закарэе зараз.

Я ўзяўся за серп, але кроў і не думала спыняцца.

— Ішоў бы, нечага, дамоў, — спыніла маці. — Пагляздзі ў сенечках павуціння, прыкладзі. Або лісток трыпутніку памый. І завяжы, у прыскрынку чыстыя анучкі.

І ўслед дадала:

— Яно ж так: не скрывавіўшыся жаць не навучышся.

Дакранулася рукою да пляча: пальцы былі спрэс у знаках ад сярпа. Сапраўды, здабываць навуку жаць нялёгка.

Жаць я так і не навучыўся. Тады ў мяне канчаўся ўсяго шаснаццаты.

Але рабіць — рабіў, толькі больш за бацькам. З дзевяці гадоў хадзіў за бараною, у адзінаццаць павёў плуг, а ў тое першае маё студэнцкае лета выкасіў загончык канюшыны і дзень збіваў касою асаку на балоце.

Памятка пра спробу жніва не сціралася больш за пяцьдзесят гадоў. Бела-ружовы пісажок нагадваў і пра поле, і пра сенажаць. Большыя знакі ад вёскі засталіся ў душы навечна. І гэта яны гоняць за стол, нават калі нядужыцца і хочацца палайдачыць каля кнігі або тэлевізара.

Каб як перадаць хоць крыху гэтай звычкі малодшым, тым, што вучацца, ходзяць па рэдакцыях і канцылярыях, шукаючы лёгкага хлеба.

•

Быў, як выходзіць, такі гетман на Украіне — Паўло Палуботак. Гетманаваў нядоўга (1722—1724), заступіў пасля Івана Мазепы, таго самага Мазепы, вядомага праз няўдалы хаўрус са шведскім каралём Карлам XII у надзеі дамагчыся пэўнай незалежнасці свае краіны. Далей — праслаўлены паэтам палтаўскі бой. Успомніце, як Пушкін маляваў пераможцу ў тым баі, Пятра І ("...вид ужасен, движенья быстры, он прекрасен") і Мазепу з Марыяй.

Мазепаў заступнік Паўло Палуботак і не думаў выракацца незалежніцкіх памкненняў папярэдніка. Імператар Пётр І выклікаў яго ў Пецярбург, адказвай, маўляў. А той зусім не пакаяўся, а выклаў свае нязгоды і патрабаванні ў палымянай патрыятычнай прамове. Будучы "Медны коннік" угневаўся і засадзіў гетмана і яго паплечнікаў у Петрапаўлаўку, дзе Палуботак сканаў у 64 гады. І не быў дурань, ведаў, куды ідзе і на што мае спадзявацца. Таму перадаў перахоўваць у Англійскі банк сваю бачулку з золатам. І адпісаў увесь скарб Украіне, абавязкова вольнай і незалежнай.

Да нашых дзён на золата нараслі працэнты, цяпер яно каштуе 16 трыльёнаў долараў, гэта значыць на кожную ўкраінскую душу прыпадае прыкладна 300000 долараў!

**(Заканчэнне на стр. 14)**

## АНДРЭЮ УШАКОВУ БЫЛО Б 90...

Нарадзіўся паэт у Чавускім раёне. Працавалі на заводзе ў Віцебску. У 1939 годзе скончыў літаратурны факультэт Маскоўскага інстытута гісторыі, філасофіі і літаратуры.

Пры жыцці выдаў зборнікі вершаў "Рабочы пульс" (1932), "Праца і маладосць" (1933), "Голас Радзімы" (1938).

Як напісана ў аўтабіяграфічнай даведцы пра яго ў калектыўным зборніку "Крывёю сэрца", што выйшаў у 1967 годзе ў серыі "Бібліятэка беларускай паэзіі": "Загінуў у баях, абараняючы Беларусь, у 1941 годзе".

Паэты — прарокі. Святая праўда. Вось якія радкі напісаў А. Ушакоў восенню 1940 года:

*"Наліты чырванню рабіны гроны,*
*Шумяць тужлівай пазалотай клёны.*
*Імкнуць у вырай птушкі ў высі шэрай...*
*У палі пара на зімнія кватэры.*
*Тут дні міналі лагернай вучобы:*
*Вось мы капалі ротаю акопы;*
*Вось стрэльбішча ў густых і рослых травах,*
*Вунь рэчка, дзе масцілі пераправу;*
*Вунь хмызнякі, дзе мы вялі разведку...*
*Усё, што было работы нашай сведкай, —*
*Бывай.*
*Да будучай вясны, да стрэчы новай.*
*Бяжыць дарога ўся ў лісці барвовым".*

А ўжо зусім перад сваім апошнім часам сказаў гэтак:

*"Дзень мінуў, і сонца круг патух,*
*Запаліўшы воблакі праменнем.*
*Што карыснага зрабіў, мой друг,*
*Ты правер перад сваім сумленнем.*
*Каб не мучыў сорам перад тым,*
*Як апошняя часіна прыйдзе,*
*Што ты век пражыў жыццём пустым,*
*Што нашчадкі на цябе у крыўдзе".*

Якая крыўда на тых, хто бараніў нашую Беларусь — і целам і духам... Светла помнім.

**ЛеГал**

## ЖЫЦЦЁ ПРАЗ АБ'ЕКТЫЎ ФОТААПАРАТА

З верасня па кастрычнік у Мінску на вуліцы Свярдлова, 4 адкрытая выстава вядомага беларускага фотамастака Юрыя Плюшчэнкава "Простыя рэчы: погляд на Беларусь", якая ўжо экспаніравалася ў Фінляндыі, Літве і ЗША...

Як кажа сам аўтар: "Гэта выстава — аб Беларусі і для Беларусі. Паказваючы краіну і расказваючы пра яе, я імкнуся ёй дапамагчы. Гэта — серыя фотаздымкаў прысвечаных светлай і добрай беларускай зямлі і яе людзям. Іх рэальнае жыццё, пастаўленае сваімі вечнымі каштоўнасцямі: працай, прыгажосцю і дабром".

На выставе вы не заўважыце ні адной працы, прысвечанай індустрыі горада, таму што фотамастак усю сваю творчую энергію сфакусіраваў на беларускай вёсцы і прыродзе. Як ён сам гаворыць: "Мне нашмат цікавей у духоўным сэнсе здымаць вёску і яе жыхароў, таму што ў вяскоўцаў больш адкрытыя і высакародныя твары".

Адна з апошніх фатаграфічных серый Юрыя Плюшчэнкава прысвечана чарнобыльскай зоне: кінутыя, загубленыя часам дамы, пакінутыя без чалавечай увагі фермерскія гаспадаркі, засумаваўшая па людскім голасе прырода... Усё гэта адлюстраваў майстар.

На пытанне аб тым, што ён адчуваў пры гэтым, фотамастак адказаў так: "Адчуванне пранізлівай адзіноты. Побач з табой толькі егер, машына, навакольны свіст ветру ды сляды жывёл, і больш нічога..."

Аўтар заўсёды знаходзіцца ў творчым пошуку, заўсёды нацэлены здымаць: "Я іду да прыроды і рэчаў, а яны — да мяне", — гаворыць ён. І няхай гэтае супрацоўніцтва — чалавека з навакольным светам працягваецца, прыносячы прыхільнікам фотамастацтва радасць, роздум і захапленне прыгажосцю паднябеснага жыцця.

**Кірыл КРЫВАШЭЯ, студэнт журфака БДУ**

# НЕСПАРАДКАВАНАЯ ХАТА

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)**

Украінскі "Рух" у асобе Уладзіміра Яварыўскага пачаў гаману, каб вярнуць народу гетманаву спадчыну, падставы ёсць — прыняты закон аб суверэнітэце краіны. Англічане — людзі прыстойныя, павінны аддаць не сваё. Аднак могуць і не выпусціць з рук, возьмуць ды не прызнаюць Украіну сапраўды вольнай і ні ад каго не залежнай.

Занатаваў усё, пачытаўшы газету "Балтийское время" (1990, № 31, 14 жніўня), прывезеную з Рыгі. Цікава б зазірнуць на ўкраінскую прэсу: што гавораць самі спадкаемцы гетмана Палуботка. Трыста тысяч долараў на душу зараз ой як спатрэбіліся б! Зайздрошчу скарбу, хай і не атрыманаму.

•

"Мой бацька — Купрын" — кніга ў першай сваёй частцы цікавая. Але вось аўтар, дачка пісьменніка, бярэцца перакладаць з французскай, праўда, маючы на гэта падставы — пражыла такі ладны кавалак часу ва Францыі. І што ж? У яе перакладзе знаходзім апавяданне І. А. Буніна пад назвай "Жериковские розы" (стар. 148). Думаеш, нешта новае, не сустраканае раней у гэтага пісьменніка. Аказваецца, Ксенія Аляксандраўна не ведае ні французскай мовы ні айчыннай літаратуры. Гаворка ідзе пра апавяданне "Розы Иерихона". У кнігі і рэдактар быў!..

•

Пад вечар на стале з'яўляецца некалькі разоў пачынаная бутэлька гарэлкі. П'юць дзве адзінокія жанчыны. За раз выпіць не могуць — хмялеюць, п'юць, спавядаюцца адна перад адной, пакуль не валяцца ў сон. Назаўтра сыходзяцца зноў. Моўчкі глядзяць на бутэльку злоснымі вачыма, плачуць злымі слязамі. Нарэшце канчаюць такі пасудзіну. І сунуцца ў магазін па другую.

•

Падчас пушкінскай гадавіны А. М. Астроўскі сказаў: "Першая заслуга вялікага паэта ў тым, што праз яго разумнее ўсё, што можа паразумнець".

Вялікіх у нас — бракуе. А паразумнець і праз гэта стаць больш здольнымі могуць многія. Трэба пастарацца толькі больш патрабаваць ад сябе, не спяшацца з нявыхаджаным, з недаспелым.

З абодвух бакоў выступаюць шаноўныя асобы, гавораць важкія словы: усё будзе добра, аб'яднаем намаганні, дружней возьмемся за выхаванне новага чалавека. І я радуюся — пара! — слухаючы радыёсправаздачу пра гэта.

Назаўтра раніцай ішлі па лясной сцяжыне, глядзелі, як міла і добра на ўзгорку гуляюць дзеці.

За спінаю нешта замармытала. Стаялі трое хлапчукоў — гадоў па пяць. Адзін, рыжанькі, у рабаціннi, глядзеў мне ў твар і ўсё кідаў злым шэптам:

— Пайшоў вон з нашай дарогі! Вось зараз як дам, Маскву ўбачыш!

Прызнацца, я разгубіўся і перапытаў:

— Што, што?

І хлапчук, гэтак жа выразна, са злосцю, было відаць, як наліваецца чырванню яго куранячая шыйка і сціскаюцца сківіцы, паўтарыў некалькі разоў запар:

— Дам, Маскву ўбачыш!

Я ветліва запытаў, як ён адносіцца да таго, каб атрымаць у порткі крыху крапівы. Малы прыпусціўся наўцёкі. А з узгорка, з гурту дзяцей, з-пад крыла свае выхавацелькі пагразіў кулачком.

Гэта быў дзіцячы садок тае ж установы з высакароднымі намерамі. Ці не задзіраўся са мной сынок аднаго з бацькоў, якія перакапалі дарогі, набілі рэек, ледзь не надаўбы збудавалі, так старанна адгароджвалі свой пасёлак. Як быццам у іх на дачах поўныя сейфы нямаведама якіх важных спраў, а не сонныя ляныя салохі з рубенсаўскімі азадкамі. Чаго тады таіцца? Баяцца, каб выпадкам не праехалі паўз іх высокія вокны мае сябры, акцёр і скульптар?

Выходзіць, выхоўваць чалавека трэба пачынаць з сябе! Не стаўляць агароджы, а разгароджвацца, ламаць платы. Гэта зблізке больш, чым узаемны пагадненні і абяцанні разам выхоўваць людзей.

А чаго патрабаваць ад жыхароў гэтага пасёлачка? Лезуць добраахвотна ў рэзервацыю, а пасля самі будуць некалі ганарыцца тым, што жылі ў суседстве з Паўлам Малчанавым і Сяргеем Селіханавым.

Крыўдую сама болей на сябе, на сваіх калег, хто ўмее і павінен бачыць і думаць пра ўсё. А мы вось недагледзелі, не дапамаглі людзям добрым словам, каб не гарадзіліся яны ў лесе, а пастараліся вынішчыць у свядомасці, выкінуць, калі застаялася дзе, апошняе прасла агароджы.

•

Два аўтары спрачаюцца, як вызначыць жанр свайго калектыўнага твора.

— Што такое раман? — крычыць адзін. — Гэта разбухлая аповесць.

Другі спакойна пярэчыць:

— А што такое аповесць? Гэта — усохлы раман.

•

Даваць імёны людзям не шкодзіла б не пры нараджэнні, а пазней, калі чалавек заслужыць імя, якое выражала б сутнасць яго характару. Віктар азначае пераможца, Канстанцін — трывалы, гэтак грэкі ўстанавілі. Праўда, мы носім не намі, а продкамі заслужаныя прозвішчы. Вось і смешна: Ігнат Сініца бывае здаравенная лясіна, а Іван Конь і на жарабя не цягне.

•

Нельга **адлучаць** развагу ад дзеяння, дзіця ад зялёнага лугу, салаўя ад галіны, тады канец прадметнаму ўспрыманню жыцця.

•

Нож лыжку знойдзе — вось і цэлы прыбор.

•

"Хай не кране твайго сына разбэшчанне вечнай забяспечанасці без працы. Усе вы і ўсе мы нарадзіліся пад старымі зорамі, але з кожнага пакалення патрабуецца больш, і дакор ад дзяцей бацькам будзе галаснейшы і галаснейшы".

Божа мой! Як ён паглядзеў і ў мае думкі, гэты Герцэн! (т. XXX, стар. 119). І яшчэ сказаў: "Наша пакалення — губчатае, таму і п'е".

•

М. В. Ісакоўскі піша ("На Ельнінской земле"), нібыта на Смаленшчыне Ражство багародзіцы адзначаюць 8 верасня і называюць у народзе Спожка. Мауляў, свята гэта звязана з прыборкай ураджаю, і назва хавае ў сабе сваяцтва са словамі **"спожить, спожинать, спожинки"**.

Мы са смалянамі вельмі блізка жывём, каб не заўважаць моўных узаемаўплываў. У Беларусі Спажа ці Аспажа, пацаркоўнаму — Успеніе багародзіцы, святкуецца 15 жніўня, 8 верасня ў нас, таксама як і смаляне, святкуюць Ражство багародзіцы, пад назвай Багатнік.

Мне даспадобы меркаванне, што **Спажа** паходзіць ад **спажыць** і азначае дзень спажывання ўраджаю. Аднак народнае вымаўленне ставіць папераздзе яшчэ адзін гук а — Аспажа, гэта паказвае, адкуль ідзе яго род, а менавіта ад **госпожа.**

Дзе-ніздзе і ў Беларусі Багатнік называюць Спожка. Гэта натуральна для Ражства багародзіцы: Спожка — памяншальнае ад Спажа, бо стасуецца да дзіцяці, малой дзяўчынкі.

•

Нёман — у высокіх чырвоных берагах, перадвясновы, цёмны, аж чорны ў незамёрзшых продухавінах. Прыняўшы ў сябе малую Ратнічанку, слаўная рака сцюдзёным поясам агінае Друскенікі. На абодвух берагах — сосны з бронзавымі ў чырвань камлямі, акурат пад колер рачных берагоў.

А ў недалёкім бары — белы некранёны снег!

Харaство цішыні, харaство недалёкай вясны, харaство цўкання сініц, падвяселеных ярчэйшым сонцам. І гэткае самае харaство — Вільня, такое, калі не большае, — Белавежа.

Мне светла думаць, што ўсё гэта харaство, роднае маёй радзіме, так блізка да яе прастораў.

І якое вялікае шчасце і дабро, калі на вуліцах, у магазінах, на аўтобусных прыпынках людзі яшчэ гавораць, чытаюць, звяртаюцца да знаёмых і незнаёмых, і ўсё на сваёй мове!

Дарма, што тут безліч прыезджых, а іх трэба зразумець і абслужыць маленькаму гарадку! І дзеля гэтага даводзіцца падвучвацца гаварыць так, каб разумець адзін аднаго. Але як толькі мясцовыя жыхары застаюцца сам-насам, адразу ж хапаюцца за роднае слоўца. І люба яно ім, а таму і гучыць асабліва хораша!

У прыгарадным цягніку, едучы з Гродна да Друскенікаў, наслухаўся слаўнай, можна сказаць, магутнай беларускай мовы. Вяртаўся ў Мінск, змяніўшы маршрут, такім жа цягніком, але на Вільнюс — тут наша мова ўжо заставалася ў меншасці, хіба што папалам з польскай. Хутка і занадта лёгка саступае месца. Усмешліва думаю, што калі б раптам зрабілі пасадку марсіяне і абвясцілі, што Мінск — іх старажытная сталіца! Відаць, ніхто і вокам бы не павёў, нібыта так яно было і павінна быць. І праз некаторы час, глядзі, загаварылі б па-марсіянску.

•

Закусачная на тэрыторыі заапарку. Вясёлая кампанія пераседзела час — уваходную браму замкнулі. Тоўсценькі чалавечак, без шапкі, у летніх чаравіках з дзірачкамі на перадах тупае па глыбокім снезе каля жалезнай агароджы і жаласна просіцца:

— Выпусціце мяне! Я не магу жыць са звярамі.

•

Дыктар прачытала: "у спаборніцтвах прынялі ўдзел **штаністы"**, памылілася, праглынула ў апошнім слове літару "г".

Спачатку тром выпадковым слухачам перадачы стала смешна, потым пачалі меркаваць, як проста і выпадкова творыцца мова.

Сапраўды, прымем "штаністы" за нармальнае слова. Можна аблаяць чалавека: "Эх ты, штаністы!" Значыць, нічога не можа і не ўмее, хіба што порткі насіць.

Вось і атрымаўся назоўнік. Адсюль просіцца прыметнік: "Я іду, а насустрач — мужчына, такі штаністы!"

Не ведаю як каму, а мне ўяўляецца чалавек у моцных картовых, з шырознаю матнёю, проста ад вясковага краўца, портках.

**Абеглыя нататкі і сюжэты**

Прыбіральня была на другім канцы двара, таму на яе казалі **канцавоссе.** Так у 20-30-я гады называлі полюс.

•

Доўгі час слухаў аднаго рэжысёра: гаворыць слушна, пераканаўча, во, думаеш, зробіць карцiну. А карціна яго — вада вадою закапочаная. Відаць, для пераканаўчасці твора мала пераканаўчай інтанацыі, трэба яшчэ і талент.

•

Раманы і аповесці, на тым узроўні, як друкуюцца зараз, могуць пісаць і школьнікі. Толькі будзе менш граматычных памылак, як у членаў СП БССР.

•

Пажылая заможная дама выбірае на кожны дзень новага друга. А старым паказвае проста на дзверы, без тлумачэнняў. З большым тактам яна разлічвае сталяроў-сезоннікаў у інстытуце, дзе займае пасаду намесніка па гаспадарчай частцы.

•

**На адну сераду старэйшая!** Так я цябе і слухала! — гэта пляменніца да цёткі.

•

Тоўсты, лапатлівы, несумленны чалавек з навукова абгрунтаваным запабяганнем. **Язэп Здорскі** — так бы яго ахрысціў Чорны.

•

**Паэзія** — мера адказнасці перад часам. Таму яна не можа канстатаваць. Хай спрачаецца, разважае, любіць, нават славасловіць. Толькі не канстатуе, бо адразу перастане існаваць.

•

Калі валасінка, на якой я трымаюся, не перарвецца раптам, напішу кнігу. Бязлітасную па сваёй праўдзе. Пра псіхічнага забойцу, які метадычна, гадзіна за гадзінай, дзень за днём, год за годам адбірае ў людзей жыццё.

Сюжэт гатоў, хоць памацай, не разгортваю, не цікава будзе пісаць.

**Публікацыя Тамары МАЛЮЧЭНКА**

(Заканчэнне. Пачатак на стр. 5)

# НАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ

марксісцкага слоўніка класавых вызначэнняў чамусьці не прымяняюць не толькі ў штодзённых жыцці — у прэсе, літаратуры). Хочацца заглянуць у сяродак найлепшых дач — пісьменніцкая цікаўнасць, але ніхто з суседзяў не запрашае, вітаемся, але ў госці не ходзім. У кожнага свае госці. Каля дачы суседа майго па пятніцах стаіць да дзесятка іншамарак; даведаўся — сауна. Князь Долгорукий! Гуляюць дзеці: чародка дзяўчатак, два хлопчыкі.

Дзяцей я ведаю, дзеці заходзяць да маёй праўнучкі, вучаніцы чацвёртага класа, якая часам прымушае 87-гадовую бабулю гадзінамі шукаць яе, бо фантазіі ў яе ўзросце нечаканыя — пайсці ў лес, на мора.

Дзяцьмі любуюся, іх гульнямі, хоць яны цікавасці да старога не выяўляюць; размаўляюць, але такім тонам, што не можаш не прачытаць, як кажуць цэнзары, "паміж радкамі": "Адчапіся ты, дзед, ад нас. Кавыляй на сваіх трох" — трэцяя апора мой ядлоўцавы кій.

На гэты раз у гурце новая дзяўчынка, якой я яшчэ не бачыў тут. Старэйшая за астатніх ці проста вышэйшая па росце. Не, старэйшая, пасля высветліў: перайшла ў сёмы клас. І яна праявіла да мяне, старога, цікавасць. Першая павіталася, пачціва, сур'ёзна. Астатнія дзеці паводзілі сябе, як у горадзе: з кожным не павітаешся, а значыцца, можна і ў пасёлку не вітацца — ні з Волькіным дзедам, ні з Яськавай мамай, ні з Кацінай выхавацелькай.

Але што зацікавіла і кранула — гавораць па-беларуску, з іншых дзяцей так размаўляе толькі Ясік.

— Добры дзень.

— Добры дзень, дзіця.

— Праўда, што вы пісьменнік?

— Праўда.

— Сапраўдны?

— А хіба бываюць несапраўдныя? Хто піша і друкуе мастацкія творы — раманы, аповесці, вершы — тыя маюць такое званне.

— І ваша прозвішча — Шамякін?

Усё ж ведае, хітруння. Але ёй патрэбна зачэпка для знаёмства.

— На кнігах — Іван Шамякін.

— Вы пішыце раманы?

—Усё. Акрамя вершаў і даносаў. Так некалі адказаў Антон Чэхаў, вялікі рускі пісьменнік.

— І вы многа напісалі кніг?

—Многа. Толькі раманаў дванаццаць. Аповесцяў у тры разы больш.

— А доўга трэба пісаць раман?

— Я пішу гады два-тры.

— Адзін? — здзівілася яна. — А на ўсё — колькі ж гадоў? Трыццаць?

— Я пішу больш за пяцьдзесят.

— Не надакучыла вам? Пісаць і пісаць.

— Не, не надакучыла. Я люблю пісаць.

—Гэта ваша хобі?

— Не, у прафесіянала гэта не хобі — галоўная праца яго жыцця. Не пішаш — і адчуваеш сябе непатрэбным. Сумленне грызе: за што хлеб еш?

Яна засмяялася.

— Ты з якой дачы?

— З нешчаслівай — трынаццатай.

— А па-мойму, самай шчаслівай.

Дача гэтая падабалася мне. Архітэктура яе. Простая, без загагулін, вежаў, порцікаў. Проста і прыгожа. Прыгажосць — у прастаце. А галоўнае, вырасла яна, як у казцы, як бы за адну ноч. Некаторыя будуюцца па два гады. Гудзяць бульдозеры, матляецца страла, грукае, ляскае жалеза, мацюкаюцца п'яныя рабочыя. А на гэтым участку — старая жоўтая дача знікла, здавалася ў адзін міг, я не бачыў, як яе разбурылі — быў у бальніцы і за гэты ж час выраслі цагляныя сцены новага дома, не палаца, не гмаха, які засланяў неба, добрага двухпавярховага дома. Хораша аздаблялі яго вокны і дзверы, у разумнай прапорцыі да сцен. Але асабліва вабіў вока ўчастак перад дачай: яна была аднесена ад вуліцы пад лес і перад ёй не пасаджана ні пладовых дрэў замест самшэлых старых, ні кустоў — роўная плошча, засеяная газоннай травой, якая акуратна падстрыгалася. Галандскі ці шведскі стыль? Не ўсім ён падабаўся. А мяне цікавіў. Гаспадар мае густ. Хто ён? Мастак? Архітэктар? "Не, — адказаў мне кіраўнік нашага пасёлка, якога мы называлі старынным словам староста. — Проста бізнесмен. А які ў яго бізнес — невядома".

Пазнаёміцца не ўдавалася: гаспадар не гуляў па вуліцы.

— Вам падабаецца наша дача? — бадай узрадавалася дзяўчо. — Але гэта дача майго дзеда. Наша — у Гарадзішчы, — слова наша падкрэсліла і сказала з гонарам бадай: вось мы якія!

Не падабалася мне: малая, а ўжо ганарыцца багаццем. Спытаць бы, якім чынам яно нажыта? Але пра такое я ў дарослых не адважваўся спытаць — далікатнасць не дазваляла, хоць я нярэдка і злаваў на яе, сваю далікатнасць і на далікатнасць іншых — тых, хто бядней у той час, калі вось гэтыя, што набудавалі гмахаў, так хутка багацелі.

Самі яны пра свой бізнес не любяць гаварыць.

Спытаць можна ў дзіця! Яно не ўззлуецца, не насцярожыцца.

Зрабіў далёкі заход:

— Маё імя ты знаеш. А тваё як?

— Маё? У метрыцы — Эльвіра. А так — Эла. Падабаецца вам? Бацька кажа — грэцкае...

— А хто твой бацька?

— Быў служачым...

Прасілася пытанне: "Дзе служыў?" Але я не задаў яго зноў-такі з-за далікатнасці: а раптам непрыстыжная служба?

— А цяпер займаецца бізнесам.

Да д'ябла далікатнасць!

— І які ў яго бізнес?

— Ён возіць з Галандыі цюльпаны, ружы, іншыя кветкі. А мама прадае ў маленькім магазінчыку.

— Прыгожы бізнес, — сказаў я сур'ёзна, без іранічнага сэнсу. Сапраўды, нельга не паважаць такі сродак зарабку. Ехаць у Галандыю, везці праз усю Еўропу бутоны цюльпанаў; везці з такой хуткасцю, каб яны не распусціліся, не завялі. Прамаргаў — і якія страты! Рызыкоўны бізнес! Між іншым, паведамленне дзяўчынкі здзівіла мяне: ні разу не падумаў, што кветкі, якія мне дарылі на юбілей, маглі быць прывезены ажно з Галандыі. Няўжо ў сябе дома не можам вырасціць? Не намнога ж цяплей у той Галандыі.

— І бацька сам за рулём?

— Не. Аднаму цяжка. Яны з дзядзькам Андрэем ездзяць. Каб дзень і ноч ехаць. Хоць у аўтобусе халадзільнік, але ж — кветкі...

Да таго я паважаў "бізнес" архітэктараў, што праектавалі гэтыя дачы і заробкі рабочых, якія іх узводзілі, многія з іх прыязджалі на працу на ўласных машынах. Пра дзедаў магазін не спытаўся: не разбурыць бы ў самім сабе паважлівага стаўлення да чужога багацця. Трэба прывучаць сябе да новага ладу. Да якога новага? Да таго, які ў 1917 зруйнавалі ў эканоміцы і пасля нішчылі ў ідэалогіі, у свядомасці людзей. І не знішчылі! Ажыў! Перамог нават вучэнне Ісуса Хрыста: падзяліся з бедным. Не дзеляцца.

На другі дзень Эла яўна чакала мяне, бо гуляла з маёй праўнучкай каля нашай дачы. Павіталася першая, паважліва.

"Культурнае дзіця", — падумаў я, узрадаваны яе з'яўленнем.

— А я пазваніла маме, і яна сказала мне, што вельмі любіць вашы кнігі.

Які камплімент! Многа чуў пахвалы, але гэтае — з дзіцячых вуснаў, — кранула неяк асабліва. Як пасля такога не расчуліцца, не зрабіцца добрым!

— Элачка! Я падарую табе, маме, усім вашым сваю кніжку. Вось зараз пайду, знайду... што тут ёсць...

Дзяўчо ажно завішчала ад захаплення.

Я падняўся ў сваю галубятню, агледзеў кніжную шафу. Апусцела яна. Некалі, калі тоўсты том "Трывожнага шчасця" каштаваў рубель, я купляў па сто экземпляраў кожнага выдання і дарыў сябрам, сваякам і проста шчырым чытачам (чытачка з Уладзівастока гадоў дваццаць пісала мне пісьмы, і я пасылаў ёй усе новыя свае кнігі на рускай мове). Цяпер на сотню экземпляраў не хопіць усяго ганарара. А хлеб купіць за што? Цяпер дзесятак кніжак — праблема.

Спачатку хацеў падарыць Эле "Промні маленства". Але ж не для яе адной — усёй сям'і. Выбраў "Палескую мадонну". У альтанцы яна прадыктавала прозвішчы, сваё, дзедава, імёны. Я напісаў пажаданні поспехаў усім ім, упершыню жадаў поспехаў багатым: багацейце! Гэта трошкі кальнула: знікае класавае пачуццё. Не знікае — знікла: во загадка гісторыі!

А Эла сыпанула солі на свежую рану, не ў той дзень — пазней. Спытала:

— А чаму ў вас дача такая?

Дзіцячая непасрэднасць! Дарослага мог бы пасласць... у лес па грыбы.

— Якая?

Старая.

— Дык і я ж стары.

— А дзед мой кажа, што вам за кожную кніжку плацяць мільёны...

— Ён праўду кажа: нашы, беларускія, — тады яшчэ кілаграм калбасы каштаваў тры мільёны.

Але Эла ведала цану грашам.

— Не нашых. Долараў.

— Вялікі гумарыст твой дзед. І вялікі эканаміст — як Карл Маркс.

Эла весела засмяялася: разумела гумар. Але пазнаёміцца з дзедам не запрасіла. І дзед, калі мы шапачна, на вуліцы, пазнаёміліся, не падзякаваў за падарунак — кнігу: для яго гэта была дробязь ці лічыў, што пісьменнік абавязаны раздаваць свае кнігі, быццам яны нічога не каштавалі. Упершыню я адчуў маленькае ўніжэнне ад таго, што падарыў кнігу незнаёмым людзям. Але ветлівасць Элы, штодзённыя размовы з ёй развеялі гэтае пачуццё. Хоць пра кнігу яна нічога не сказала — пэўна не чытала.

У канцы жніўня, перад школай, Эла звярнулася да мяне з нечаканай просьбай.

— Напішыце мне аўтографы.

Я здзівіўся.

— У мяне няма больш кніг.

— Не на кнізе. На лісце паперы. Толькі не ў рад, а ў слупок — аўтограф за аўтографам. Я разрэжу ліст на палоскі, раздам у класе, вучні наклеяць іх на падручнікі і ўсе будуць мець ваш аўтограф.

Незвычайная просьба! Першая за ўсю маю паўстагадовую творчасць. Было, што ў Магілёўскім педінстытуце пасля сустрэчы я падпісаў 300 экземпляраў "Сэрца на далоні". Плячо забалела. Але аўтограф на палосках паперы... Па-дзіцячы наіўна. Але і займальна. Не магло не закрануць аўтарскае самалюбства. А чаму і не? Будзе бачыць вучань аўтограф — і захоча прачытаць кнігу аўтара. Жывём у век рэкламы! Чаму і гэтак не рэкламіраваць сваю творчасць!

На двух лістах добрым пяром зрабіў тры дзесяткі роспісаў — Іван Шамякін.

Пачаўся навучальны год. Апусцеў пасёлак без дзяцей. Не было з кім пагутарыць. Я сумаваў і па праўнучцы сваёй і па гаманкой Эле, маёй штодзённай субяседніцы.

У выхадны яна з'явілася. Прыйшла на маю дачу, паднялася ў "галубятню", пахваліла мой кабінет. І зноў тая ж просьба — аўтографаў.

— З другіх класаў просяць... Дзяўчаты...

Калі ласка! Што мне цяжка распісацца разоў трыццаць! Спажывайце на здароўе, дзеткі! Можа абудзіцца ў вас цікавасць да беларускага слова!

Мінула месяцы тры. Выпаў першы снег. Дарожкі ў парку абледзянелі. І я гуляў па тратуары, які ў нашым раёне чысціцца. Жыве хтось з высокага начальства? Клыпаў, абапіраючыся на кульбу. Сустракаў нямала знаёмых, і амаль кожны лічыць сваім абавязкам пагутарыць, а стаяць холадна — мёрзнуць ногі.

На гэты раз сустрэў знаёмую, якой узрадаваўся, бо не бачыліся, можа, гады два. А яна не проста знаёмая — удава майго сябра, які даўно ўжо ў іншым свеце. З Вольгай мы з маладосці на ты. Яна гады на два маладзейшая, але рухавая яшчэ, ходзіць што маладая, дай бог ёй не ведаць кія, які адным выглядам сваім старыць чалавека.

Пацалаваліся. І першая тэма — здароўе: радыкуліты, кравяныя ціскі... Аднак гутарылі аптымістычна — жартавалі з сваіх хвароб.

І яна раптам бухнула:

— Ты дажыўся ўжо да таго, што прадаеш аўтографы?

— Якія аўтографы! Кніжак няма. Былі часы, калі рабіліся сустрэчы ў кнігарнях, і мы, аўтары, "прадавалі" свае аўтографы. Так больш ахвотна куплялі кнігі. Ты ж помніш...

— А цяпер прадаеш не кнігі. Палоскі паперы з аўтографам. Мая праўнучка купіла твой аўтограф. За дзвесці рублёў. Спачатку цана была вышэйшая. Ды затаварылася, відаць, прадаўшчыца...

Мяне кінула ў жар. Не адразу сцяміў, што да чаго. Але тут жа цюкнула. Эла! Я зарагатаў.

— Ну, Эла! Ай да Эла! Камерсантка! Бацькі зарабляюць на цюльпанах... Яна вынайшла лягчэйшы бізнес. Ды нямнога на ім заробіш.

Расказаў Вользе пра гандлярку аўтографамі. Расказаў з гумарам, хацеў павесяліць старую сяброўку. Але бабуля не засмяялася. Сказала:

—Сумна, Іван, што растуць такія дзеці.

— А мне дык весела.

— Не жартуй. Бачу, як табе весела.

# БЕЛАРУСКІ ГУМАР У ЭМІГРАЦЫІ

Гісторыю беларускай эміграцыі пачалі вывучаць адносна нядаўна, і найлепшай крыніцай дзеля гэтага стала, безумоўна, эмігранцкая перыёдыка. Усё часцей і часцей у навуковых выданнях можна сустрэць спасылкі на газеты і часопісы, выдадзеныя за мяжой. Але які ён, эмігранцкі друк? Чым характарызаваўся і адрозніваўся?

Колькасць газетаў і часопісаў на эміграцыі даволі вялікая, зараз ужо ўлічана больш за 360 назваў, магчыма, з'явіцца штосьці яшчэ. Асаблівую цікавасць уяўляюць выданні трэцяй хвалі эміграцыі з 1945 па 1953 г., калі колькасць і роля друку рэзка ўзрастае. Сярод эмігранцкага друку вылучаюцца як працяглыя выданні (напрыклад, газета "Бацькаўшчына", якая выдавалася з 1947 па 1966 г.), так і зусім малажывучыя, калі выйшаў толькі адзін нумар. Часам газеты і часопісы выходзілі рукапісным спосабам ці друкаваліся на рататары.

Усю перыёдыку магчыма падзяліць па змесце на некалькі групаў: грамадска-палітычныя, арганізацыйныя, рэлігійныя, выданні моладзі, літаратурныя і навуковыя.

Асаблівае месца сярод выданняў займаюць гумарыстычныя. Трэба заўважыць, што такіх часопісаў і газет было даволі шмат. На думку В. Кіпеля, яны складаюць каля 5 працэнтаў ад усёй перыёдыкі. Сярод найбольш распаўсюджаных выданняў трэцяй хвалі эміграцыі можна назваць: "Дзіда" (Германія, з 1948), "Маланка" (Германія, з 1948), "Пуга" (Канада, з 1950), "Дзяцел" (Канада, з 1952). Усе яны зроблены на рататары, але са шматлікімі малюнкамі. Большасць матэрыялаў гэтых выданняў – карыкатуры ды вершы. Аўтары часцей за ўсё высмейваюць жыццё ў БССР, дзейнасць партыі і ўлады, адсутнасць еднасці сярод беларускай дыяспары. Цікава, што там закранаюцца набалеўшыя пытанні, у большасці выданні скіадаюцца з вострай палітычнай сатыры, мэтай якой было падкрэсліць адмоўнае ў грамадстве.

Аўтары аднаго з найбольш распаўсюджаных гумарыстычных часопісаў "Дзяцел" у першым нумары акрэслілі свае задачы наступным чынам:

*А, ну, стукні, Дзяцел, дзюбай,*
*За каршэнь, хто справу губіць.*
*Усіх на белы сьвет цягні*
*І людзям іх пакаж.*

Усе сатырычныя выданні даволі хутка рэагавалі на падзеі ў свеце. Калі памёр Сталін, на вокладцы зноў жа "Дзятла" з'явіліся словы:

*Пагасла "сонейка", навекі,*
*І сумна плача цэлы сьвет,*
*Ён помнік сам сабе паставіў,*
*Народны кат і людаед.*

Адной з адметных рысаў беларускай эмігранцкай перыёдыкі была адсутнасць сапраўдных прозвішчаў. Безумоўна, аўтары сатырычных выданняў таксама падпісваліся псеўданімамі, якія казалі самі за сябе: рэдактар "Маланкі" называўся Зачапайла, а "Дзіды" – Авадзень.

Да ўсяго, выданні і іх аўтары маглі дзёрзка зачапіць беларускіх эмігрантаў, якія спрачаліся паміж сабой за ўладу за мяжой, артыкуламі, кшталту "Беларусы грызуцца" ("Дзіда", 1948).

Распавядаючы пра гумар і сатыру на эміграцыі, трэба заўважыць, што такія рубрыкі, безумоўна, сустракаліся і ў грамадска-палітычных, і ў маладзёжных, і ў літаратурных газетах і часопісах. Асаблівую цікавасць уяўляюць таленавітыя карыкатуры газеты "Бацькаўшчына". З-за адсутнасці подпісаў і сапраўдных іменаў, зараз цяжка ўдакладніць імёны аўтараў, аднак яны даволі трапна характарызавалі савецкае жыццё.

Гумар і сатыра эміграцыі даволі спецыфічныя, з сарказмам, з болем і спачуваннем за сваіх суайчыннікаў. Часам незразумела, плакаць ці смяяцца нам з гэтых вершаў, малюнкаў і выказванняў.

Словам, калі мы вывучаем гісторыю беларускай дыяспары, асаблівую ўвагу неабходна звярнуць на багаты і разнастайны беларускі гумар у эміграцыі.

**Вольга КОВАЛЬ**

# БЕЛАРУСКІ КНІГАР

У старой частцы Маладзечна амаль насупраць Свята-Пакроўскай царквы размяшчалася за польскім часам беларуская кнігарня. Дом той, на вялікі жаль, не захаваўся, цяпер на тым месцы стаіць будынак былой крамы "Садавіна і гародніна". А кнігарня тая была слаўная. Да 1939 года яна заставалася адным з нямногіх апірышчаў нацыянальнай культуры, дзе легальна можна было набыць беларускія кнігі, газеты, часопісы, падручнікі, пакарыстацца фондам вялікай і багатай беларускай бібліятэкі, якая спрэс складалася з выданняў былой Заходняй Беларусі. Гаспадаром той кнігарні быў Міхась Станкевіч — беларускі асветнік, кнігар, настаўнік, патрыёт. Сёння гэтае імя поўнасцю забытае, як, бадай, і ўсё, што звязана з беларускім нацыянальна-вызваленчым рухам у міжваенны перыяд у нашым горадзе. Але гэта не павінна быць апраўданнем для нас, яго духоўных нашчадкаў. Мы проста абавязаны памятацьпрозвішча чалавека, які ў сілу сваіх магчымасцяў і таленту ўсе лепшыя парывы сваёй душы аддаў служэнню свайму народу, сваёй роднай нацыянальнай культуры. Ён не быў славутым пісьменнікам, навукоўцам, мастаком, не быў і лідэрам нацыянальнага маштабу, кіраўніком якой-небудзь палітычнай партыі, але ён быў сярод тых, на кім па сутнасці трымалася ды і трымаецца руцінная, штодзённая шараговая праца, а кажучы глыбей, нацыянальная ідэя ды і лёс роднай Беларусі.

Нарадзіўся Міхась Анупрэевіч Станкевіч 3 студзеня 1899 года ў Гародзьках, што на Валожыншчыне, у заможнай сялянскай сям'і. Закончыў царкоўнапрыходскую школу і местачковае чатырохкласнае вучылішча, што давала яму права працаваць у далейшым настаўнікам. Што ён, дарэчы, і рабіў. З 20 жніўня 1915 па 10 студзеня 1916 года быў загадчыкам пачатковай школы ў в. Шыпулічы, што цяпер у Маладзечанскім раёне. Але адчувалася, што сапраўдных ведаў яму яшчэ не хапае, да таго ж вельмі хацелася вучыцца далей. Вырашыў паступаць у Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Бо, па-першае, там за вучобу не трэба было плаціць, а па-другое, калі добра вучышся, то можаш атрымоўваць гадавую стыпендыю. Такая перспектыва прываблівала. Паспяхова здаўшы ўступныя экзамены, Міхась Станкевіч з 3 студзеня 1916 г. становіцца навучэнцам гэтага слыннага "мужыцкага універсітэта". Але вучыцца давялося не ў Маладзечне, а ў Смаленску, бо менавіта туды была эвакуавана гэтая навучальная ўстанова ў сувязі з набліжэннем да Маладзечна фронта. Там і прыйшло да яго нацыянальнае ўсведамленне. Адарванасць ад роднай глебы, сум і настальгія, уплыў старэйшых сяброў зрабілі з яго палымянага беларускага патрыёта. 19 мая 1919 г. Міхась Станкевіч заканчвае вучобу і вяртаецца на Беларусь.

І амаль адразу па прыездзе ён быў арыштаваны. Па абвінавачванні ў супрацьпольскай дзейнасці. Рэч у тым, што нехта, усцягнуўшы вялікі камень-валун на рэйкі недалёка ад Гародзькаў, спусціў пад адхон польскі вайсковы цягнік. Падазрэнне пала на Міхася Станкевіча і ягоных сяброў, як на вяртанцаў з савецкай Расіі, а значыць, асоб падазроных. Амаль паўгода знаходзіліся яны ў Гродне пад следствам, але ўрэшце былі адпушчаны з-за недаказанасці віны.

Вярнуўшыся ў родную вёску, Міхась Станкевіч распачынае актыўную грамадскую дзейнасць. 10 мая 1920 г. адчыняе беларускую школку ў Гародзьках і становіцца яе загадчыкам. А ў час школьных вакацыяў, з 20 чэрвеня па 5 верасня 1921 года, займаецца на Беларускіх настаўніцкіх курсах (БНК), што былі адчынены ў Вільні ў слынных Базылянскіх мурах з мэтай павышэння педагагічных кваліфікацый і стварэння нізавых беларускіх грамадскіх дзеячаў. У Вільні сустрэў ён і сапраўдных сяброў. Адным з іх стаў лектар БНК Янка Станкевіч, асоба неардынарная, інтэлектуальна адораная, ды разам з тым, і супярэчлівая. Пасля заканчэння курсаў Міхась Станкевіч вяртаецца ў Гародзькі, працягвае працу ў школе, стварае беларускі культурна-асветны гурток. Арганізоўвае моладзь, ставіць спектаклі, распаўсюджвае беларускую кнігу і газету. Восенню 1922 года, калі пачаліся выбары ў польскі Сейм, Міхась Станкевіч сярод тых, хто агітуе беларускае сялянства галасаваць за сваіх кандыдатаў. І праца тая не была дарэмнай. 11 паслоў і 3 сенатары з'явіліся ў Сейме і пачалі бараніць правы беларускага народа ў гэтым вышэйшым заканадаўчым органе тагачаснай Польшчы. Праўда, падзея тая не змяніла афіцыйнай польскай палітыкі адносна нацыянальных меншасцяў. Як і раней, польскія ўлады варожа ставіліся да практычна любой беларускай дзейнасці. Зачынялі грамадскія арганізацыі, газеты, часопісы, кааператывы, настаўніцкія семінары, гімназіі, школы. Дакацілася тая хваля забаронаў і да Валожыншчыны. Зусім нечакана для Станкевіча загадам Валожынскага старасты ад 20 чэрвеня 1923 г. была зачынена і беларуская школа ў Гародзьках, якую ён стварыў і ў якую ўклаў столькі сілаў і намаганняў. Узамен яму была прапанавана праца настаўніка толькі ўжо ў польскай школе. Езуіцкую прапанову тую Міхась Станкевіч з уласцівай яму годнасці катэгарычна адхіліў. І застаўся яшчэ адным беспрацоўным беларускім настаўнікам. Але ад грамадскай справы не адышоў.

Наладжвае кантакты з беларускімі арганізацыямі ў Вільні, належыць да беларускага кааператыўнага руху. А 20 лютага 1926 г. пры дапамозе Янкі Станкевіча адчыняе беларускую кнігарню ў Маладзечна. Спачатку яна існавала як філія Віленскай беларускай кнігарні Станіслава Станкевіча, а толькі потым, як зусім самастойны суб'ект гаспадарання і гандлю. Мусіць, тутбудзе да месца ўдакладніць, што Міхась Станкевіч ніякіх сваяцкіх адносін з родам Станкевічаў з Арлянят не меў. Проста быў аднафамільцам, да таго ж, у адрозненне ад апошніх, яшчэ і праваслаўнага веравызнання. З набыццём кнігарні ад грамадскай дзейнасці не адышоў. Уваходзіў потым у склад Беларускага гаспадарчага звязу, Таварыства беларускай асветы, а крыху раней, у пачатку 1928 года ў час чарговых выбараў у польскі Сейм, становіцца даверанай асобай Янкі Станкевіча. Агітацыя прайшла паспяхова, Янка Станкевіч атрымаў дэпутацкі мандат, што яшчэ больш зблізіла гэтых людзей. Потым неаднойчы яны сустракаліся, бывалі ў гасцях, сябравалі. У перыядычных выданнях, якія выходзілі пад рэдакцыяй Янкі Станкевіча, заўсёды знаходзілася добрае слова пра маладзечанскую кнігарню і яе кнігара. Так у "беларускім народна-гаспадарскім календары на 1935 год" на апошняй старонцы была змешчана інфармацыя наступнага зместу: "Беларуская кнігарня ў Маладзечне. Замковая вул. № 23. Прадае беларускія кніжкі, календары, газеты, часапісы, беларускія й польскія школьныя падручнікі. Багаты выбар паперы, сшыткоў, пісьменных снадзіваў (прыладаў). Выпісуе й прадае часткі да самакотаў (ровэраў) і інш. Пры кнігарні ё беларуская біблётэка".

Ды толькі працаваць беларускім кнігаром пры тым польскім ладзе было няпроста. Мясцовая адміністрацыя чаплялася да кожнай дробязі, вышуквала розныя парушэнні, іншым разам рабіла вобыскі, накладала штрафы, сачыла са сталымі наведвальнікамі. Тым не менш, дзякуючы працавітасці, кемлівасці, добрай сялянскай заквасцы ўдавалася з тымі перашкодамі спраўляцца. Кнігарня разрасталася, з'яўляліся новыя тавары, пакупнікі. І самае галоўнае, што беларускія кнігі і газеты ішлі ў народ. Не меншым аўтарытэтам у Маладзечне карысталася і бібліятэка, што працавала пры кнігарні і складалася з беларускіх і польскіх выданняў. Неаднойчы яе наведвалі і вучні Маладзечанскай гуманітарна-коадуакацыйнай гімназіі імя Т. Зана, якая размяшчалася зусім побач, бо вучыліся там у асноўным дзеці беларускай вёскі і мястэчка, для якіх беларуская кніга была блізкай і роднай.

Ішоў час. Рабілася большай сямейка Міхася Станкевіча. Спачатку ад шлюбу з Ірынай Каранеўскай, што паходзіла з Лістападаў, у іх з'явіўся сын Уладзімір 1926 года нараджэння, а затым дачка Ліда 1928 г. Адразу па прыездзе ў Маладзечна сям'я наймала кватэру па вуліцы Міцкевіча, 9 — гэта адразу за сённяшнім ваенкаматам — у гаспадароў Яна і Гелены Міхалёнкаў. А потым, недзе ў 1932—33 гг. і ўвогуле выкупіла той дом. Вось так і жыла сям'я М. Станкевіча ў той няпросты міжваенны час, сустракаючыся з горам і радасцю, з набыткамі і стратамі.

І працягвалася такое жыццё да 17 верасня 1939 г., пакуль у Заходнюю Беларусь не прыйшла Чырвоная Армія. Я не ведаю, як каму, а сям'і Міхася Станкевіча цешыцца з таго вызвалення не прыходзілася. Літаральна на другі дзень, а менавіта 18 верасня, кнігарня і ўся маёмасць была канфіскавана, сям'я арыштавана і выслана за межы Беларусі. У чым была віна Міхася Станкевіча, нават цяпер, праз гады, цяжка даўмецца. Міраедам і кулаком, па савецкіх мерках, ён не быў. Вялікім антысавецкім палітыкам — таксама. Хіба толькі за тое, што быў сапраўдным беларускім патрыётам, і гэтага было дастаткова?! Цяжка сказаць. Тым не менш, сям'я Міхася Станкевіча апынулася аж у



Комі АССР, а яго самога адправілі ў Маскву, дзе ён прасядзеў у турмах НКВД з верасня 1939 па жнівень 1941 года. Што ад яго хацелі, пра што распытвалі — невядома. Можа, хацелі больш даведацца пра Янку Станкевіча, які ў той час ужо знаходзіўся ў Варшаве і праяўляў вялікую беларускую актыўнасць, а можа, яшчэ якія пытанні цікавілі ўсёведаючых чэкістаў. І толькі потым яго адправілі на пасяленне ў Казахстан, дзе ён працаваў вартаўніком і загадчыкам МТС на станцыі Шчэрбакты Паўладарскай вобласці. У 1943 годзе, калі пачалі фармавацца польскія прасавецкія батальёны Арміі Людовэй імя Т. Касцюшкі, Міхась Станкевіч быў прызваны на службу. І як чалавек, які добра ведаў польскую мову, да таго ж з цудоўным каліграфічным почыркам, быў узяты пісарам у штаб адной з вайсковых часцей. Прайшоў з той часцю з баямі Беларусь, Польшчу і толькі 24 студзеня 1945 г. быў дэмабілізаваны. Але на Радзіму не паехаў, бо туды яму шлях быў зачынены, а вярнуўся ізноў у Казахстан. Працаваў будаўніком, вартаўніком, калгаснікам. З 1961 года жыў у Аджарыі і толькі ў другой палове 60-х вярнуўся на Беларусь у родныя Гародзькі. Жыў у бацькоўскай хаце, падтрымліваючы сталыя кантакты з беларускім баптысцкім прасвітэрам Язэпам Ермаковічам, які паходзіў з в. Канюхі Маладзечанскага раёна. Знаёмыя яны былі яшчэ з 20-х гадоў, калі Ермаковіч вучыўся ў Барунскай беларускай настаўніцкай семінарыі. Падтрымлівалі сувязь, ліставаліся і тады, калі Міхась Станкевіч жыў у выгнанні. Гарманічнай асобай быў той Язэп Ермаковіч. Таленавіты паэт-самародак, веруючы і глыбока дасведчаны чалавек, цікавы суразмоўца. Пра што думалі, аб чым марылі гэтыя немаладыя ўжо людзі, можна даведацца з таго ліставання. Напісаныя тыя лісты бездакорнай беларускай літаратурнай мовай, выдатным стылем і з цікавымі заўвагамі. Толькі шмат чаго ў іх недагаворана. Пра сёе-тое напісана загадкавай эзопавай, толькі ім зразумелай, мовай, пра штосьці важнае сказана скупой хуткапіссю. Тым не менш, лісты тыя з'яўляюцца цікавым дакументам прайшоўшай эпохі.

Відаць, дзякуючы Я. Ермаковічу, пра М. Станкевіча даведаўся і Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі, у той час навуковы супрацоўнік Мінскага абласнога краязнаўчага музея, які знаходзіцца ў Маладзечна. Завязалася знаёмства, якое перарасло ў сапраўдную дружбу. Потым Каханоўскі неаднойчы бываў у Станкевіча, прывозіў ад яго даволі рэдкія старыя выданні і экспанаты. Прынамсі, аўтару гэтых радкоў дакладна вядома, што "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі" Вацлава Ластоўскага і вялікі калектыўны фотаздымак з "Беларускіх вучыцельскіх курсаў у Вільні 1921 г." патрапілі ў Маладзечанскі музей са збораў Станкевіча. Апошнія гады свайго жыцця Міхась Анупрыевіч Станкевіч пражыў у родных Гародзьках, акружаны цеплынёй, увагай і разуменнем сваіх удзячных дзяцей. Там і памёр 6 красавіка 1981 г. і пахаваны на мясцовых могілках.

Прайшло шмат гадоў са дня смерці Міхася Станкевіча. Даўно ўжо няма Язэпа Ермаковіча. І вось цяпер праз столькі гадоў пасля іхняй смерці я вельмі часта думаю пра пакручасты лёс тых нашых беларускіх асветнікаў, настаўнікаў, кнігароў. І чамусьці мне здаецца, што калі б раптам па нечай вышэйшай ці Божай волі яны патрапілі ў наш час, то не было б наша сучаснае адраджэнне такім кволым, бездапаможным і бясконцым. Яны ўмелі працаваць. Працаваць самааддана, самаахвярна, шчыра. Умелі жыць і верыць. Што, дарэчы, і пацвярджае верш Язэпа Ермаковіча, прысвечаны сябру і аднадумцу:

**М. А. Станкевічу**

*Мой мілы прыяцель Станкевіч Міхал*
*Цябе ад юнацтва майго я пазнаў*
*І тое знаёмства у дружбу ўзрасло*
*Сардэчнай любоўю яно зацвіло.*

*Прыемна успомніць мінуўшыя дні*
*Ідэй тых высокіх, маланкі агні*
*І веры ў магутнасць і творчасці сіл,*
*Надзей ярка светлых магутны прыліў.*

*Усё ўспамінаю — нядаўна было*
*Хаця беззваротна у вечнасць зышло*
*І свецяць агню таго іскры адны*
*І ліра гучыць, абуджаючы сны.*

*Сягоння з табою яшчэ мы жывём,*
*Скажы для чаго? Які плод прынясём?*
*Няхай не пагаснуць надзей тых агні*
*Каб краскі любові свой плод прыняслі.*

**Міхась КАЗЛОЎСКІ**






ЗАСНАВАЛЬНІК

Саюз беларускіх пісьменнікаў

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**В. А. ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА**

**Віктар ШНІП**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**
**Прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-8525**
**адказны сакратар — 284-8204**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-8462**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-8462**
**паэзіі і прозы — 284-8525**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**карэктарская — 284-4404**
**бухгалтэрыя — 236-6113**
**Тэл./факс — 284-7965**

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1637
Нумар падпісаны ў друк 17. 10. 2002 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае Пасведчанне № 715

Заказ 2408

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12